АЛЕНА
КОБЕЦ-ФІЛІМОНАВА

# ЖАВАРАНКІ НАД ХАТЫННЮ



АЛЕНА КОБЕЦ-ФІЛІМОНАВА

# ЖАВАРАНКІ НАД ХАТЫННЮ

Аповесць



МІНСК
«МАСТАЦКАЯ ЛІТАРАТУРА»
1977

## МЫ НЕ МОЖАМ ГЭТАГА ЗАБЫЦЬ

Мусіць, ні ў адной з войнаў мінулага не выпала такога цяжкага і гераічнага лёсу людзям, якія, не прымаючы непасрэднага баявога ўдзелу, тым не менш змагаліся не на жыццё, а на смерць, як гэта было ў мінулай Вялікай Айчыннай вайне нашага народа.

Сапраўды, не будучы салдатамі ў строгім сэнсе гэтага слова, дзеці, жанчыны, старыя рызыкавалі амаль нараўне з воінамі, якія ваявалі на фронце, таму што таксама змагаліся і нярэдка гінулі ў гэтай барацьбе. І ўся справа ў тым, што не змагацца яны не маглі, а фронт іх барацьбы праходзіў тут жа — і не толькі па палях, вёсках, але і па душах і сэрцах тысяч людзей, што насялялі акупаваныя землі нашага Саюза.

За свабоду сваёй Айчыны змагаліся ўсе: дарослыя на пярэднім краі і ў партызанскіх атрадах, дзеці і жан-

чыны дома, ля парога свайго жылля, на вясковай акаліцы. Змагаліся, бо разумелі, што толькі самаадданая супольная барацьба можа вярнуць часова страчаную свабоду.

І гэта свабода была адваявана, але плата за яе ў чалавечых ахвярах аказалася такой вялікай, што мы не маем права забыць пра гэта ні сёння, ні калі-небудзь у будучым.

Вораг быў дужы і нечувана жорсткі. За самую невялікую правіннасць ці памылку з боку насельніцтва, а тым больш за прамое непаслушэнства ўладам не было літасці ні старым, ні малым. Адказвалі пагалоўна ўсе. Сотні тысяч людзей былі пазбаўлены свабоды і жыцця ў шматлікіх канцлагерах без суда і следства, другія спалены разам з іх жыллём. На месцах сотняў вясковых дамоў засталіся задымленыя коміны ўцалелых ад пажараў печаў.

Хатынь — менавіта такая, некалі нічым не адметная вёсачка ў партызанскім краі пад Мінскам, якую спасцігла лютая доля, самая лютая з усіх, якія толькі былі ў мінулай вайне. Ціхім сакавіцкім днём сорак трэцяга года атрад нямецкіх карнікаў акружыў вёску і за некалькі гадзін спаліў яе разам з усімі жыхарамі.

Гэта кніга — жывое і бясхітраснае апавяданне аб людзях Хатыні, аб яе бяспрыкладнай трагедыі, аб дзецях гэтай лясной вёсачкі, якія ніколі ўжо не стануць дарослымі. Хто ведае, колькі б выйшла з іх цудоўных людзей працы, навукі, культуры, якімі, можа, ганарыліся б будучыя пакаленні, але вось іх няма — і ніколі ўжо не будзе.

Пісьменніца сабрала вялікі матэрыял аб гэтай вёсцы, і хоць сабраць яго было нялёгка, таму што да крыўднага мала засталося жывых сведкаў даваеннага жыцця хатынцаў, ды і самой страшнай трагедыі, апавяданне вызначаецца праўдзівасцю і дастатковай паўнатой. Перад вачамі чытачоў у працы і клопатах праходзіць жыццё двух сялянскіх сем'яў з іх нялёгкім даваенным лёсам, да краёў напоўненым трывогамі і нястачамі ў гады вайны. Чытач убачыць простага, сумленнага, умудронага жыццём дзеда Карабана, бескарыслівага сябра дзятвы і дарадчыка старэйшых; пазнаёміцца са скупа, але дакладна абмаляванымі вобразамі бабулі Тэклі ці няўдачлівага, мітуслівага Пучка. Асобна выдзелены аўтарскай увагай лёс малодшых хатынцаў — Лёксы, Адася, Антося, і як бы ў дапаўненне да гэтага прыведзена апавяданне гарадской дзяўчынкі Анюты пра страшнае жыццё ў акупаваным Мінску,— апавяданне, якое кранае і студзіць кроў сваёй дзіцячай непасрэднасцю.

Розныя людзі насялялі гэту вёску, з рознымі чалавечымі характарамі, рознымі схільнасцямі і звычкамі. Але той сакавіцкі дзень сорак трэцяга года аб'яднаў іх усіх адзіным і агульным трагічным лёсам, за якім засталася вечная памяць аб іх, якая, як святыня, зберагаецца народам.

На месцы спаленай Хатыні цяпер вялікі дзяржаўны мемарыял, як знак памяці аб заўчасна загінуўшых людзях гэтай вёскі і многіх спаленых у гэту вайну беларускіх сёл. Але самы цудоўны архітэктурны помнік не здольны ва ўсёй паўнаце перадаць нам цеплыню загубленага чалавечага жыцця. Хатынцы нам цяпер як

ніколі блізкія, і цікавасць да іх расце. Нам хочацца ведаць, як жылі яны, хочацца адчуць іх чалавечыя трывогі і хваляванні, спазнаць іх надзеі, якім не суджана было збыцца. Для таго і напісана гэта кніга — яна дапамагае лепш зразумець і запомніць тых, каго няма з намі, але чый подзвіг навек будзе асвятляць наша свабоднае жыццё, падаючы прыклад самаадданай любові да сацыялістычнай Радзімы.

ВАСІЛЬ БЫКАЎ



## У НАВАЛЬНІЦУ

(замест пралога)

— Лё-о-кса-а-а-а!.. Дзе цябе чэрці падзе-е-елі! — прынёс раптоўны вецер далёкі, прыглушаны голас маці.

Лёкса не адгукнууся. Прыклаўшы вуха да сасны (другое заціснуў запэцканай чарніцамі далонькай), ён прыслухоўваўся. На высокай вяршыні ў густым голлі стукаў дзяцел. Але зусім адно слухаць яго стук недзе збоку, і зусім другое — калі прыкладзеш вуха да камля. Лёксе здаецца, быццам сасна жывая, быццам гэта не дзяцел стукае, а б'ецца яе сэрца. Толькі б'ецца яно не рытмічна, а з перабоямі, нібы сэрца ў сасны хворае. Лёкса чуе, як дыхае сасна. І дыхае яна таксама няроўна: то мацней, то цішэй. Лёкса ведае: гэта вецер шуміць у вяршаліне. Але ён уявіў сабе, быццам сасна жывая, і ад гэтай думкі

яго ахапіла пачуццё нейкай жудасці і адначасова радасці. Раптам стала ціха. Мо сасна памерла? Не дыхае, і сэрца не б'ецца... Лёксу на момант здалося, што і ў яго спынілася сэрца. Ад страху нават дух заняло. Але вось ён пачуў голас маці, яна крычала ўжо зусім побач:

— Лёкса-а-а!.. Ідзі сюды, неслу-у-у-ух!.. Пярун заб'е-е-!..

Адэля, напалоханая раптоўнай цішынёй, якая звычайна бывае перад навальніцай, павярнула назад па лясной сцежцы. Лёксы не знайшла. Цемра згусцілася раптоўна. Крывая маланка жыганула недзе зусім побач, і тут жа затрашчаў над галавой удар грому.

— А-а-а-а-а!..— закрычала Адэля. Але голас яе патануў у грукаце і трэску.

З перапуду Адэля павалілася на калені і пачала хрысціцца. Потым узнялася на ногі і кінулася да палаючай сасны, ля якой мільганула чырвоная кашуля сына. Лёкса ўцякаў ад сасны, ломячы хрусткую папараць, збялелы ад страху. Адэля схапіла сына за руку.

— Каб цябе трасца схапіла! Во як дам дубца! — крычала яна, цягнучы Лёксу са сцежкі ў малады ельнік, і раней, чым загрукацела зноў, кінулася на зямлю, пацягнуўшы за сабой ледзь жывога ад страху Лёксу.

Так, прытуліўшыся адно да аднаго, маці і сын чакалі, пакуль сціхне навальніца.

Калі заціхла, Лёкса расплюшчыў вочы — і абамлеў: зусім недалёка палала сасна, тая самая, ля якой ён быў і слухаў, як яна дыхала, у якой білася жывое сэрца. Агонь бязлітасна знішчаў магутнае дрэва і распырскваў наўкол палаючыя кроплі смалы. Галінкі трашчалі і курчыліся ў агні.

— Мама, а ёй баліць? — ціха спытаў Лёкса.

Адэля не азвалася. Хлопчык глядзеў шырока расплюшчанымі вачамі. Яму здавалася, што сасне вельмі балюча, толькі яна крычаць не можа. Вось полымя падкралася да яшчэ ўцалелай галінкі — і тая ўспыхнула, уся выгнулася ўгору, быццам маліла аб літасці. А калі агонь спаліў усё, што на ёй было —ігліцу і кару, галінка апусцілася, змярцвелая, як асмаленая рука, павісла ўздоўж пачарнелага камля... А пад сасной гарэў мурашнік. Ён загарэўся ад смалы, што капала і капала на яго вогненнымі кроплямі. Раптоўны лівень шчыльнай сцяной засланіў ад вачэй хлопчыка гэту грозную і незразумелую для яго з'яву, не даў разгарэцца лясному пажару.

І зноў ідуць палявой сцежкай маці і сын. Шамацяць мокрыя, прымятыя дажджом жытнія каласы, за якія чапляецца доўгая спадніца Адэлі. Над полем шматкаляровай дугою перакінулася вясёлка. І прыгожы твар Адэлі, ужо немаладой жанчыны, пасля перажытага страху ў святле вясёлкі здаваўся спакойным і ціхім. Толькі вочы, блакітныя, нібы выцвілыя васількі, былі крыху задуменныя, і таму твар свяціўся ціхім смуткам, як у дзіцяці, якое толькі што плакала, але цяпер яму добра, хоць і не зусім яшчэ прайшла крыўда.

Паперадзе над жоўтым полем мільгае чырвоная кашуля Лёксы. Яшчэ ярчэй свеціць вымытае дажджом сонца, званчэй спяваюць жаўранкі, прапалосквают сваё горла ў блакітных лужынах з белымі аблокамі. І толькі калі-нікалі недзе далёка глуха грукоча гром.

«Хатыня гарэла, а сонца цьмянае-
цьмянае ад дыму стала...»

Юлія Антонаўна Красоўская,
што жыла на хутары ля Хатыні

## ТАРАНТУЛ

Пасля дажджоў і навальніц хутка ўзняліся пасевы. І куды ні зірнеш — паўсюль стаіць сцяной, млява калышацца на лёгкім вятрыску збажына. «Хутка жніво»,— так думае кожны, хто ідзе па сцежцы, расхінаючы рукамі навіслыя над ёю каласы. А ў калгаснай кузні ўжо стаіць вясёлы перазвон. Чэрвеньская цеплыня залівае поле, лясы, нябёсы, яна прасочваецца ў хаты, запаўняе ўсё наваколле радасным прадчуваннем. Хутка дзень, калі сонца не захоча пакідаць небасхіл, а як закоціцца, дык зноў паспяшаецца ўзысці — гэта самы доўгі дзень і самая кароткая ноч на Івана Купалу, калі спраўляюць свята ўраджаю перад самым жнівом. І хатынцы рыхтаваліся да свята. Жыццё ішло сваім парадкам. Але раптам страшнае слова «вайна», як гром, пракацілася над Хатынню.

Лёкса скакаў па вуліцы на адной назе. І ўсё праз Антося. Трэба ж было таму гэткую загадку загадаць: жаба квача, авёс скача — што гэта? Паспрабуй адгадай, калі не ведаеш. А тут і адгадваць не было чаго, адгадка вельмі простая: як толькі заквакае жаба, значыць, надышоў час сеяць авёс. Быццам Лёкса не ведаў, што авёс у красавіку сеюць! А значыць, і жабы ў красавіку пачынаюць квакаць. Ведаў! Але ж хто так загадвае? Авёс скача!.. Авёс не можа скакаць. А вось Лёксе давялося. Ды яшчэ на адной назе. Ну, пэўна ж, раз прайграў, дык і скачы, як

чапля балотная, ад калгаснага свірна аж у самы канец вёскі. Праўда, калі млела адна нага, Лёкса скакаў на другой. З гэтым мірыцца можна было. Але хлопцы беглі ўслед і хорам, стараючыся трапіць у лад Лёксавым скокам, квакалі. І такі справілі канцэрт! Лёкса за жывот хапаўся ад смеху, а ўсё ж скакаў. Убачыўшы гэткае дзіўнае і вясёлае шэсце, здзіўленыя сабакі брахалі і нават вылі. Усё ж Лёкса даскакаў да ляснога пагорка, ля якога канчалася вёска. І тут з-за пагорка паказаўся Антосеў бацька. Ён ехаў на веласіпедзе з боку Мокрадзі, відаць, з калгаснага праўлення. Твар у брыгадзіра быў змрочны. Параўняўшыся з дзятвой, Савелій прытармазіў і хвіліны дзве моўчкі глядзеў на смуглявыя вясёлыя твары. Потым неяк дзіўна абвёў усіх па парадку пільным позіркам і загаварыў павольна і ціха:

— Ну, вось і ўсё. Наскакаліся. Дамоў ідзіце. Скажыце маткам, хай запасы робяць... Вайна!

У той жа дзень у клубе сабраліся калгаснікі з усіх трох брыгад, каб абмеркаваць страшную навіну. Пасля сходу Савелій і іншыя мужчыны падаліся ў ваенкамат. А праз дзень-другі пайшлі на фронт.

І пайшло плесці павуцінне ад хаты да хаты страшнае слова «вайна», як павук-тарантул, якога яшчэ не відаць, але ён ужо недзе тут і затаіўся, каб накінуцца на сваю ахвяру. Ведалі хатынцы, што павук-крывасмок недзе паблізу. І таму жыццё іхняе стала бязрадасным, яны гаварылі напаўголасу. І ўсё яшчэ жыла надзея: а можа, абміне іх вайна? А мо яна ненадоўга? Хто ведае? Радыё маўчыць, і звестак ніякіх ніадкуль няма.

Хлопчыкам не верылася: жылі-жылі, пра вайну толькі ў кніжках чыталі і раптам — вайна! Сапраўдная! Вось

пашанцавала! Вядома, сваё захапленне даводзілася хаваць ад бацькоў, каб не зарабіць кухталя.

Пакуль усё было ціха. Але трывожныя весткі ўсё часцей даходзілі да сялян. То адзін горад немец узяў, то другі. Ужо і Мінск захапіў. А вось яны, хатынцы, хоць і жывуць паблізу ад Мінска, але ў лесе і далёка ад шашы і яшчэ ніводнага жывога немца не бачылі. А вайна ўжо немалы час ідзе. Быццам і сапраўды бокам абыходзіць іх, не чапае.

— А якія яны — немцы? — пыталіся дзеці. І тут жа самі наперабой расказвалі адно аднаму тое, што чулі ад дарослых. Выходзіла, што немцы ўсё з чалавекам могуць зрабіць, ад іх трэба хавацца.

І ўсё ж, якія яны, тыя немцы?

## РАСКАЗ АНЮТЫ

Аднойчы ў Хатынь прыйшла гарадская дзяўчынка. Яна прыйшла з маці. Яе і маці называлі «бежанкамі». Сямігадовая Анюта разам з маці ўцякла ад фашыстаў з Мінска. Ад яе і даведаліся дзеці, якія яны, немцы.

Антосік спытаў Анюту:

— А ты хоць аднаго немца бачыла?

— Бачыла. І не аднаго. Іх шмат у Мінску,— проста адказала дзяўчынка.

— А якія яны? Страшныя?

— Страшныя. Іх усе баяцца. У іх чарапы з косткамі на шапках. Такія, што на бутэльках з дэнатуратам і на трансфарматарных будках малююць.

Але дзеці не ведалі, што такое дэнатурат і трансфар-

матарныя будкі. У хатынцаў не было ні прымусаў, якія распальвалі дэнатуратам, ні электрычнасці. І таму, што дзеці не ведалі гэтага, чарапы са скрыжаванымі косткамі здаваліся ім яшчэ больш страшнымі.

— Як у вас добра,— сказала Анюта.— Зацішна. Быццам вайны зусім няма.

Ад гэтых слоў хлопчыкам чамусьці стала сорамна.

— А ты хоць аднаго забітага бачыла? — задзірліва спытаў Антосік.

— Бачыла. Я чэрап бачыла... ён увесь чорны ад агню... ён вісіць на жалезным ложку... бомба ў бальніцу трапіла.

— І цяпер вісіць?

— І цяпер.

— Страшна было табе? Раскажы! — папрасілі дзеці.

Анюта спалохана зірнула на іх і ўтуліла ў плечы галаву, быццам ёй холадна стала.

— Не... не раскажу,— ціха сказала яна.

Дзеці яшчэ больш шчыльна абступілі дзяўчынку, упрошваючы яе расказаць. Анюта адмовілася. Тады Антосік засмяяўся і крыкнуў з насмешкай:

— А ёй расказваць няма чаго! Яна ўсё навыдумляла!

Гэтага Анюта не чакала. Яна з дакорам зірнула на Антося, абвяла ўсіх вачамі, поўнымі слёз, і пачала расказваць. Яна шмат чаго ўтаіла ад дзяцей, таму што ёй страшна было ўспамінаць усё, што давялося ўбачыць і спазнаць у першыя дні вайны. І ўсё ж яна расказала, каб дзеці не падумалі, што яна баязліўка і манюка.

А на самай справе ўсё было так.

Аднойчы Анюта знайшла ў маміным куфэрачку сярод старых гузікаў чырвоны гумавы шарык, надзеты на драўляны свісток. Звычайная цацка. Такія шарыкі да вайны пра-

даваліся ў кіёсках на кожным кроку. Калі надзьмеш шарык, ён тоненька пішчыць: «ідзі-і-і-і-і!» Шарык шмат дзён весяліў Анюту. Але, калі б яна ведала, што здарыцца з-за гэтага піскуна, ні за што не ўзяла б яго з куфэрачка.

Калі немцы пачалі бамбіць Мінск, Анюта з маці схаваліся на яго ўскраіне: усе лічылі, што там больш бяспечна. Пакуль яны былі ў бежанцах, у іх завулку пасяліліся немцы. Яны жылі ў пакрытых маскіровачным брызентам машынах, як у хатах. Цэлая калона грузавікоў стаяла пад клёнамі і займала увесь завулак. Машыны былі вялізныя, зялёныя, а калёсы іх вышэй за Анюту. Цесна і няўтульна стала ў завулку. Ноччу ля машын хадзіў вартавы: немцы баяліся спаць без варты. Днём яны мыліся ля вадакачкі, галіліся, елі з кацялкоў, чысцілі вінтоўкі. А вечарамі пілі шнапс, спявалі, курылі, гулялі ў карты.

Анюта бачыла гэтых «фрыцаў» адзін толькі раз. Гэта было, калі яна, галодная, запыленая, з цяжкім клункам у руках вярнулася дамоў. Спачатку немцы здаліся Анюце вясёлымі і дужымі. Адны гралі на губным гармоніку рускую песню пра Волгу, другія спявалі. І дзіўна было Анюце, што ворагі спяваюць яе песню. «Не такія, мусіць, яны і злосныя,— падумалася ёй.— Чаму іх усе баяцца? Такія вясёлыя наўрад ці могуць каго пакрыўдзіць».

Калі немцы паехалі, Анюта ўпершыню выйшла на двор. Але які ён стаў чужы! Ціхі, насцярожаны, бязлюдны. Зрэдку, праўда, на ганкі выходзілі людзі, але гэта былі зусім незнаёмыя людзі.

Анюта сышла з ганка.

Дзве вішні стаялі на мяжы з суседнім дваром. Асабліва любіла Анюта старую, з раздвоеным ствалом. Адзін

ствол крута выгінаўся ўбок. Ён быў для дзяцей замест лаўкі: на ім сядзелі, ляпілі з мокрага пяску бабкі, гулялі ў лічылачкі. А калі дзеці саскоквалі на зямлю, вішня дробна-дробна дрыжала, быццам жывая. Летам вішня раздорвала ружовабокія горка-кіслыя ягады. А іншы раз і карала: зачэпіць гарэзу сучком і раздзярэ яму штаны. Дзеці не крыўдзіліся. Самі таго не ведаючы, яны любілі вішню. І вішня любіла іх.

Яшчэ здалёк Анюта ўбачыла, што ствол-лавачка зламаны. Вішня быццам прыпала каленам да зямлі. І лісточкі на ёй парадзелі, сталі жоўта-бурымі, нібыта іх апаліла агнём. Але затое другі ствол яшчэ цягнуўся ўгору, і на ім застыў burштынава-чырвоны сок. Анюта абняла рукамі камель. Па звычцы хацела паспытаць смалу, але раптам ёй здалося, што гэта кроў запяклася. Анюта лёгенька правяла далонькай па камлі і, апусціўшы галаву, пайшла са двара.

У завулку было пуста. Ад высокіх панурых клёнаў падаў на зямлю чорны цень. Яшчэ нядаўна пад імі гулялі дзеці. Цяпер тут было ціха і бязлюдна.

Анюта прайшла міма клёнаў і спынілася ля скрыжавання. Яна стаяла і глядзела на тое, што некалі было вуліцай. Паўдзённае сонца ярка асвятляла закураныя шкілеты дамоў. Ад іх пахла гарам і чымсьці яшчэ, ад чаго нудзіла. І не было ні душы. Было ціха.

Раптам Анюта ўбачыла ката. Ён сядзеў пад кустом бэзу і выглядваў вераб'я. Дзяўчынка ўзрадавалася кату. Яна ўзлезла на земляны грудок, прапаўзла пад паваленай абгарэлай ліпай, абышла варонку. Кот пільна і насцярожана сачыў за дзяўчынкай і, калі Анюта працягнула да яго рукі, кінуўся наўцёкі.

— Кіс-кіс! — паклікала Анюта і пабегла за ім. Але здзічэлы кот шмыгнуў у пралом у сцяне.

Анюта агледзелася. Яна стаяла, як у вузкім калідоры. З аднаго боку быў знявечаны бульвар, з другога — згарэлая бальніца. Жалезныя бэлькі нагадвалі рэбры шкілета, які Анюта аднойчы бачыла ў акне школы. Ад цішыні звінела ў вушах і дрыжалі калені.

Анюта сунула руку ў кішэню. Пад пальцы трапіў шарык са свістком. Яна дастала яго і надзьмула.

— Ідзі, ідзі, ідзі-і-і-і!..

Анюта слухала, як дрыжаць і заціхаюць гукі, і ёй стала спакайней ад гэтых жывых гукаў на мёртвай вуліцы.

На гэты раз Анюта шарык надзьмула так, што з чырвонага ён стаў ружовы, вось-вось лопне. Заткнула дзірку ў свістку і рэзка адпусціла палец. Шарык з пранізлівым віскам узняўся ўгору. Анюта сачыла за яго палётам. І раптам вочы яе зрабіліся круглымі ад жаху. З руін бальніцы, з прабоіны ў сцяне, дзе некалі было акно другога паверха, на яе глядзеў... чэрап! Чалавечы абсмалены чэрап!

Анюта ўжо шмат чаго ўбачыла. Выццё сірэн, гул самалётаў і выбухі, выбухі, выбухі... З грукатам і скрыгатаннем ноччу ўязджалі ў горад варожыя танкі, грузавікі, матацыклы. Усё гэта яна чула, седзячы ў склепе, з галавой закрытая падушкамі. Яна чакала смерці кожную хвіліну. Чакала яе, заплюшчыўшы вочы і заткнуўшы вушы.

А калі немцы занялі горад, усё неяк адразу сціхла. Анюта пачала прывыкаць да спакою. І раптам — гэты чэрап. Ён глядзеў проста на яе...

Шарык упаў, стукнуўшыся свістком аб асфальт. Паварушыўся, пакуль не выйшла з яго апошняе паветра,

потым неяк па-чалавечаму ўсхліпнуў і замёр буйнай крывавай кропляй на чорным ад агню асфальце.

— Мама!.. Ма-а-мачка-а-а-а!..

Анюта бегла ўздоўж бульвара па бруку, пабітаму асколкамі. Яна спатыкалася, падала, зноў бегла, разбіваючы да крыві босыя ногі. Яна ўцякала далей ад смерці...

Шмат чаго не дагаворвала Анюта, але яе расказ і так узрушыў дзяцей. Яны сядзелі і моўчкі глядзелі на дзяўчынку спалоханымі вачамі. Было вельмі ціха. Заўважыўшы, з якой увагай слухаюць яе, Анюта разгаварылася. Ёй ужо самой хацелася расказаць сваім аднагодкам пра ўсё тое страшнае, што давялося ўбачыць. І па меры таго як яна гаварыла, дзяўчынка адчувала, што ёй як быццам робіцца лягчэй:

— Аднойчы бачыла я... бачыла, як немцы адмывалі машыну... ад крыві...

Гэта было на сметніку. Зусім нядаўна на гэтым месцы стаяў цэлы квартал драўляных дамоў. А калі бамбілі горад, тут згарэла ўсё, нават дрэвы. Толькі коміны, агаленыя, чорныя, асірацела глядзелі ў неба. Вось тут і зрабілі немцы гарадскі сметнік. Кучы смецця ўвесь час тлелі, дзе-нідзе язычкі полымя вылізвалі тое, што яшчэ не дагарэла. Над сметнікам стаяў дым і смурод.

Аднойчы Анюта з хлопчыкамі з іх двара пайшла на сметнік шукаць цвікі. Кучы смецця былі такія высокія, што Анюта, пахадзіўшы сярод іх, засталася адна.

Анюта спаткнулася і ледзь не ўпала. Пад нагамі валялася нешта такое, што нагадвала графін. Шкло, расплаўленае агнём, застыла так мудрагеліста, што ніякі майстар не прыдумаў бы такую форму. З кучы тынкоўкі

тырчала кароткая драўляная ручка з аблупленай фарбай. Анюта пацягнула за яе — у руцэ апынуўся дзіцячы шуфлік. Вось гэта знаходка! Цяпер такі шуфлік ні за што не купіш. Паўсюль валяліся ржавыя цвікі. Анюта пачала збіраць іх у прыпол. Яна збірала да тае пары, пакуль не стукнулася галавой аб спінку жалезнага ложка.

Раптам зусім побач злосна зафырчаў матор і гэтак жа раптоўна змоўк. Анюта схавалася за печку. Хутка да яе данесліся ціхія галасы немцаў і шум вады.

Анюта асцярожна выглянула са сваёй схованкі. Перад ёй на адкрытай пляцоўцы ля вадакачкі стаяла чорная машына. Каля машыны завіхаўся немец. Чорная гумавая кішка цягнулася ад яго рук да вадакачкі. Закасаўшы рукавы, немец мыў са шланга машыну. Другі салдат стаяў побач і гаварыў напаўголасу, быццам баяўся некага патурбаваць. У абодвух твары былі пахмурныя. Немцы глядзелі, як з кузава сцякае вада, ружовая ад крыві. Моцны струмень вымятаў усё з куткоў машыны. Вось разам з вадой пляснуўся на зямлю дзіцячы чаравічак...

Калі пад машынай утварылася вялікая лужына, вада, прабіўшы сабе барозны ў сівой ад попелу зямлі, зігзагамі пацякла ў розныя бакі. Адзін такі раўчук пабег да печкі, за якой хавалася Анюта. А па ім, нібы караблік, плыў чаравічак. Але да Анюты ён не даплыў: вузенькі, шырынёй з палец, раўчук, ужо пабурэлы ад попелу, абмінуў Анютіны ногі і, знясілены, ледзь даплёўся да печкі.

Нягледзячы на гарачыню, Анюту трэсла як у ліхаманцы. Ёй хацелася крычаць ад страху. Дзяўчынка асцярожна пераступіла раўчук і ціхенька, азіраючыся, пайшла са сметніка.

І яшчэ Анюта расказала, што немцы не дазваляюць яўрэям жыць у сваіх дамах і хадзіць па вуліцах горада, і што ўсіх іх пасялілі ў адным месцы. І месца назвалі — гета. А гета з усіх бакоў абгарадзілі калючым дротам.

— А чаму? — спытаў нехта з дзяцей.

— Каб яны не ўцяклі. Мама кажа, што іх, мусіць, усіх заб'юць.

— За што? — спытаў прыціхлы Антосік.

— За што, за што! — перабілі яго хлопчыкі, самі не ведаючы, за што немцы хочуць забіць яўрэяў.— Вайна! — усё ж растлумачыў нехта.

Расказала Анюта і пра тое, як яны з мамай хавалі яўрэяў.

Быў позні вечар. Анюта сядзела дома адна. Яна чытала, прысунуўшы кнігу да газоўкі. Кноцік, працягнуты скрозь скрылік сырой бульбіны і доўгім канцом апушчаны ў слоік з бензінам — колькі дае святла такая «капцілка»? Анюта падсунула кніжку ўпрытык да газоўкі, а твар нахіліла амаль над самым агеньчыкам. Усё роўна прыходзілася жмурыцца: літары распаўзаліся, як жывыя.

За акном вые вецер. Няйначай, у коміне засеў дамавік і гудзе, свішча на ўсе лады. Яблыня галінкай стукае ў зачыненую аканіцу, нібыта просіцца ў дом.

Ад Анюцінага дыхання і скразняку полымя хістаецца, і цені ў пакоі скачуць. З усіх куткоў на Анюту глядзяць нейкія пачвары. Анюта затаіла дыханне. Лепш не варушыцца і глядзець у кнігу, прымусіць сябе чытаць. Але як знарок і ў кнізе не весялей. Дзяўчынка Элі разам з сабачкам Татошкам трапляе да людаеда. І той ужо точыць нажы, каб...

Анюта ўздрыгнулася ад ціхага стуку ў дзверы.

— Хто там? — крыкнула яна, ускочыўшы з канапы.

Нарэшце прыйшла маці! І не адна. З ёю незнаёмая жанчына і дзве дзяўчынкі. І вось ужо на прымусе весела кіпіць чайнік. А галоўнае — у іх кватаранты. Анюта не паспела пазнаёміцца з дзяўчынкамі: спаць уклаліся рана. А на другі дзень, калі ранішняе святло ледзь пачало прасочвацца праз аканіцы, Анютка пачула са сталовай, дзе спалі кватаранты, дзіўную размову:

— Як цябе завуць, дзяўчынка?

— Доя...

— Колькі разоў табе гаварыць! Не Дора цябе завуць, а Ната. Ну, паўтары. Як цябе завуць?

— Ната.

З гэтага дня Анюта пачала вучыць Натку «правільнаму» вымаўленню. Натка не вымаўляла літару «р». Мама і цёця Фіра рашылі: хай яна замест «р» гаворыць «л». Натка была пухленькая, са светлым чубком, і нават у пакоі яна хадзіла ў хустачцы. Сапраўдная лялька-матрошка! Такіх у кніжках малююць.

Натка аказалася вясёлай дзяўчынкай і вельмі любіла спяваць. Анюта развучвала з ёй песенькі, дзе часта сустракалася літара «р». Больш за ўсё Натцы спадабалася песня пра кураня. Але часта яна забывалася, хадзіла па пакоях і гучна спявала:

Цыпленок жаеный,
цыпленок ваеный
пошел по Невскому гулять.
Его поймали,
ахьистовали,
велели паспайт показать.

На Натку ўсе шыкалі, і тады яна, палахліва ўтуліўшы галаву ў плечы, спявала зусім шэптам.

Чаму Натка замест «арестовали» спявала «ахьистовали», Анюта не магла зразумець. Ды і сама Натка, калі ў яе пыталіся, няўцямна моргала вачамі. Ёй жа пяць гадоў!

Кожны дзень усё пачыналася нанава. Анюта цярпліва вучыла:

— Паўтары: цыплёнок жаленый, цыплёнок валеный...

І Натка паўтарала з вялікім стараннем. І да новага імя пачала прывыкаць.

Старэйшай гаварыць зусім забаранялася. Яна чытала кнігі. На прагулку сёстры выходзілі позна вечарам, каб ніхто іх не бачыў, дый то не кожны дзень. Цёця Фіра жыла недзе ў другім месцы і прыходзіла зрэдку, калі было зусім цёмна.

Але аднойчы Люда не вытрымала. Доўга над нечым раздумвала, а потым узбунтавалася:

— Чаму я павінна сядзець, нібы вязень? Чаму вы мне затыкаеце рот? Я больш не хачу так жыць! Чаму я не маю права хадзіць па вуліцах днём? Выпаўзаю ноччу, нібы тая мыш! Не хачу больш хавацца!..

З Людай адбывалася нешта нядобрае. Угаворы не памаглі. І ў той жа дзень яна, высока падняўшы галаву, прайшлася па завулку, ні ад каго не таячыся.

Гэта прагулка абярнулася бядой. Дамоў Люда прыйшла пахмурная і нечым устрывожаная. У той жа вечар Анюціну маці спыніў на вуліцы сусед, што жыў у доме насупраць.

— Чаго хаваеш яўрэяў ад паліцыі? За гэта нас усіх расстраляюць! Каб заўтра ж іх тут не было!

Анюціны кватаранты пачалі збірацца ў гета. Натка, адчуўшы бяду, заплакала, загаласіла, як дарослая:

— Мамачка, ёдненькая! Я не пайду туды! Не пайду! Нас заб'юць! Мы ніколі адтуль не вейнемся!

Моцна абняўшы рукамі маці, Натка тулілася да яе мокрым ад слёз тварам, цалавала, упрошвала:

— Не пойдзем, мамачка!

Але што магла зрабіць цёця Фіра? Яе плечы ўздрыгвалі ад плачу. І раптам Натка, нібы штосьці зразумеўшы, прыціхла і паслухмяна пачала збірацца ў дарогу.

Прайшло больш месяца. Цёця Фіра некалькі разоў з'яўлялася ў іх. Аднойчы Анюта міжволі падслухала размову дарослых пра тое, што ў гета рыхтуюцца ўцёкі да партызан і што цёця Фіра з дзяўчынкамі таксама ўцякуць у лес.

Але яны не паспелі: нехта іх выдаў.

Позна вечарам у Анюціну кватэру прыйшла стомленая, змучаная жанчына. Ёй удалося ўцячы з гета: падкупіла паліцая. Уцякачка бачыла, як цёцю Фіру і Люду немцы ўвапхнулі ў машыну і павезлі. А Натку немец знайшоў за шафай, куды яе схавала маці, і застрэліў з аўтамата...

Горка плакала Анюта, калі даведалася пра смерць Наткі. Цэлы дзень прасядзела яна з маці, абняўшыся. Абедзве ўздрыгвалі ад кожнага стуку і шоргату: ім здавалася, што вось зараз і па іх прыйдуць і таксама павязуць у чорнай машыне...

А на другі дзень да Анюцінай маці прыйшоў чалавек і сказаў, што ім трэба зараз жа ўцякаць, таму што немцы пранюхалі пра тое, што яны хавалі яўрэяў, што Анюцін бацька — камісар.

Сумнымі аказаліся расказы Анюты. Выслухаўшы маленькую бежанку, дзеці больш ні пра што ў яе не пыталіся. Цяпер замест цікаўнасці яны адчулі страх, да якога прымяшалася захапленне і... зайздрасць. Так, так! Усе хатынскія хлопчыкі глядзелі на Анюту з захапленнем і зайздрасцю. Дзеўчаня, а ўжо вайну бачыла і людзей ратавала! Ды яе ж могуць расстраляць хоць бы за тое, што яна дачка камісара! Праўду кажучы, і Антося могуць расстраляць за тое, што яго бацька пайшоў на фронт змагацца з фрыцамі. Але Антось яшчэ аніводнага немца не бачыў. А Анюта збіраецца ісці з маці ў партызаны! І ніхто не сумняваўся ў тым, што гэта дзяўчынка стане сапраўдным героем.

На другі дзень на досвітку Анюта з маці зніклі. Куды яны пайшлі, ніхто не ведаў.

З таго часу Лёкса стаў марыць пра подзвіг. Але немцы ўсё не прыходзілі, і змагацца хлопчыку пакуль што не было з кім. І ўсё ж ён ведаў: рана ці позна немцы прыйдуць. І пачаў рыхтавацца ў партызаны.

## ЛІСТОЎКІ

Пра тое, што на Лагойшчыне з'явіліся партызаны, у Хатыні ведалі, але ніхто іх пакуль не бачыў. І яшчэ Лёкса чуў, што ў лясах хаваюцца ад немцаў чырвонаармейцы, параненыя і тыя, хто адстаў ад сваіх часцей і не паспеў адысці на ўсход. Не паспеў адысці на ўсход і Антосеў бацька. Савелій вярнуўся дамоў знясілены, пахмуры. Ніхто і не пытаў яго — і так усё было зразумела.

З таго часу не толькі па ягады хадзілі хлопчыкі ў лес. Яны спадзяваліся знайсці партызан, каб тыя ўзялі іх у

свой атрад. Падслухаўшы размову дарослых, даведаліся сябры і пра тое, што без зброі ў партызанскі атрад не прымаюць. Мала яе ў партызан, усім не хапае. Хлопчыкі пачалі блукаць па лясах у пошуках зброі, і сёе-тое знаходзілі. Аднойчы яны натрапілі на мёртвага байца. Побач з ім ляжала вінтоўка. Сябры закапалі вінтоўку на ўзлессі і толькі прыцемкам адважыліся перанесці яе ў вёску і схаваць на гарышчы Лёксавай хаты. У той жа вечар байца пахаваў Савелій, якому сябры даверылі сваю таямніцу.

Хутка партызаны самі далі пра сябе вестку. Гэта было ў канцы ліпеня. Хатынцы прачнуліся як заўсёды рана: яшчэ і сонца не ўзышло з-за лесу. Бабка Алена першай выйшла за брамку з каромыслам. Падышла да калодзежа, а на калодзежным жураўлі лісцік паперы прыклеены. Непісьменная Алена, а даведацца, што на гэтай паперцы напісана, ахвота. Адарвала яна лісцік, круціць яго ў руках, а прачытаць не можа. Тут Лёкса з вядром падышоў.

— На, сынок, прачытай,— падала Алена лістоўку хлопцу.

І той прачытаў уголас:

— «Таварышы! Вы жывеце на зямлі, акупаванай Гітлерам. Вядома, чаго ён хоча: прымусіць вас зняць ураджай, а пасля забраць яго ў вас. За гэтым ён і прыйшоў. Успомніце 1918 год, калі немцы забралі ў вас хлеб і вывезлі яго ў Германію. Не аддавайце немцам хлеб!..»

І яшчэ ў лістоўцы гаварылася пра тое, што немцы прыйшлі не назаўсёды, што іх хутка «выкураць», і каб народ ішоў у партызанскія атрады. Заканчвалася лістоўка так: «Смерць фашыстам!»

— Партызаны пісалі,— ціха сказала Алена і, уважліва зірнуўшы на Лёксу, дадала: — Ты, сынок, языком не мянці. Схавай гэты дакумант. А ўвечары сабярэмся і памяркуем: можа, і сапраўды, трэба ўсё пахаваць? Бо прыйдзе і ўсё пажрэ супастат, каб яго чэрві елі.

Вечарам у хаце дзеда Карабана сабраліся хатынцы. Пагаварылі, памеркавалі і вырашылі калгаснае збожжа ўсім пароўну падзяліць і схаваць. Але выходзіла так, што і хаваць пакуль што не было чаго: леташніх запасаў засталося няшмат, а новы ўраджай яшчэ не сабралі.

— Але ж і ўраджай будзе ў гэтым годзе! — гаварылі хатынцы, пакідаючы хату Карабана.

— А лён! Што за лён урадзіўся!

— А мёду колькі пчолы нанасілі!

— Няўжо ўсё гэта немцу дастанецца? — непакоіліся старыя.

Вырашылі пакуль што хаваць інвентар і калгасных коней, а потым так жа ўпотай жаць збажыну. А цяпер трэба касіць траву, рыхтаваць корм для жывёлы.

## ДЗЕД КАРАБАН

Недзе палалі гарады і вёскі, недзе паміралі людзі. Але ў Хатыні, маленькай вёсачцы, што затаілася сярод лясных гушчароў, не чуваць было выбухаў, стрэлаў, стогну і плачу. Як быццам вайны і зусім не было. Толькі ў настроі людзей адчувалася насцярожанасць і чаканне чагосьці страшнага, немінучага. А часам і такі настрой знікаў, таму што ціха было наўкол, на небе ззяла сонца, задуменна шапталіся аб нечым сосны і бярозы, і ў самой

Хатыні, нібы вада па глыбокім рэчышчы, павольна і мірна цякло жыццё.

— Лёкса-а-а!

Такая ўжо звычка ў Адэлі: крычыць яшчэ ў хаце, потым выходзіць на ганак. І так заўсёды. Ведаючы гэта, Лёкса не спяшаецца бегчы ў хату, а спакойна чакае: маці сама выйдзе. І сапраўды, Адэля тут жа выйшла на ганак са збанам у руках і зноў працяжна, з ласкавасцю ў голасе паклікала:

— Лёкса-а-а!

Лёкса сядзеў на лаўцы і нешта стругаў.

— Аднясі Карабанам збан малака, сынок.

Лёкса кідае недаструганую дзеравяшку і хуценька ўскоквае. Што-што, а гэта ён любіць: хадзіць да дзеда Карабана. Чаго толькі ад яго не пачуеш! Лепшага расказчыка не знойдзеш у Хатыні. А мядок у дзеда Карабана самы духмяны, самы смачны, ні ў кога ў вёсцы няма такога. Цэлы сад застаўлены вуллямі. І пчолы асобыя, не такія, як ва ўсіх. Карабан кажа, што яго пчолы не на ўсякую кветку сядуць, толькі на канюшыну ды на ліпу, таму што ведаюць: цвет канюшыны ды ліпавы цвет самыя смачныя, самыя карысныя для здароўя. Можа, гэта дзед Карабан сам навучыў сваіх пчолак толькі з гэтых кветак мёд браць? Можа, і сапраўды так, бо калі ні прыйдзе Лёкса да дзеда, бачыць, як той усё ходзіць між вулляў і, нахіліўшыся да іх, гаворыць і гаворыць нешта ціхенька і лагодна, а вочы яго неяк дзіўна свецяцца, а пчолы кружацца, лётаюць вакол яго, гудуць яму нешта ў адказ у самае вуха. І ніколі не было, каб хоць адна пчала ўджаліла свайго гаспадара. Відаць, любяць пчолкі старога за

яго ласкавасць і турботу. А дзед Карабан вельмі клапаціўся аб сваіх выхаванцах: то вулей паставіць новы, то стары, яшчэ прыгодны, адрамантуе. Жывуць яны дружна, што і казаць! Колькі разоў Лёкса з зайздрасцю сачыў, як стары, нават не закрыўшы твар сеткай, паволі шпацыруе між вулляў. А вось Лёкса баіцца падыходзіць туды. Аднойчы адважыўся, ды... успамінаць страшна. Тры дні пасля гэтага маці яму халодныя кампрэсы рабіла — так пякло шчаку! А раздулася да таго, што і на вуліцу сорамна было выходзіць: баяўся, што дзеці насміхацца будуць. Не ведаў Лёкса простага сакрэту: дзед Карабан, раней як да пчолак ісці, лістом воўчай ягады твар і рукі націрае. І поўзаюць тады па яго твары пчолы, а не кусаюць, таму што падабаецца ім гэты водар. А ад Лёксы тады мылам пахла. Не спадабалася ім Лёксава мыла, вось і ўджалілі яго.

— Не забудзь жа мёду! — крычыць Адэля наўздагон сыну, які ўжо знік за рогам суседняй хаты.

Раптам з-за свірна мурзатым клубочкам выкацілася і захныкала Зоська:

— І я пайду-у-у-у!

— Ідзі ўжо! — адказала Адэля.

І Зоська пабегла следам за братам.

Карабан сядзеў на ганку сваёй хаты і плёў кошык. Пачаставаўшы дзяцей мёдам, ён зноў узяўся за працу. Удосталь наласаваўшыся мёдам, Зоська пабегла. А Лёкса ўладкаваўся на бервяне, што ляжала пад сцяной Карабанавай хаты, спадзеючыся пачуць якую-небудзь цікавую гісторыю. Карабана мёдам не кармі, а дай пагаварыць. Прычым любіць, каб яго слухалі, не перабіваючы. Лёкса аказаўся самым кемлівым, самым цярплівым слухачом.

І таму Карабан любіў, калі хлопчык прыходзіў да яго. І Лёксу падабалася слухаць хрыплаваты голас старога пад аднастайнае гудзенне пчолак, што лятаюць над садам. Усядуцца, бывала, стары і хлопчык у цянёк пад грушай, і так добра ім абодвум! Карабан расказвае, а Лёкса слухае. І Лёксу здавалася, што стары ведае ўсё на свеце! І расказы яго былі адзін цікавей другога.

А аднойчы ён расказаў хлопчыку пра Хатынь і пра хатынцаў:

— Вось ты кажаш: мяне гэтыя божыя стварэнні любяць. Ды як жа не любіць ім мяне! Ты, Лёкса, памятай, і чалавек гэтак: да яго з дабром — і ён тым жа самым адплаціць. А вось як успомню тыя гады, калі наша зямелька пад графам Тышкевічам была... Ой, як крыўдзіў ён нашых людзей, як крыўдзіў! І адпомсцілі яму людзі. Ой, як адпомсцілі! Вось паслухай. Мне тады гадкоў гэтак восем было. А вось памятаю. Такое, братка, не забываецца. Жыццё наша было не тое, што цяпер, пры Саветах. У той час, пры цары Мікалаі ды пры Тышкевічах, наш мужык, што пчолка божая, цэльны дзень спіну гнуў, здароўе надрываў ды ўсё панскую кішку мядком набіваў. А пра баб нашых дык і казаць няма чаго. Нагараваліся... Дык вось... зямелькі тады зусім у нас не было. А ў Тышкевічаў спакон веку ад Лагойска ажно да самых Плешчаніц — уся зямля графская. І поле, і лугі, і лясы — кроку не ступі! Ні шаста табе ссекчы, каб стог сена падперці, ні жывёлу папасвіць. Лес навокал — а самі ў зямлянках жывем.

Дык вось. Пайшла аднойчы нябожчыца маці мая, царства ёй нябеснае, па траву для казы. Нажала сярпом травы — ды ў пасцілку. Нясе, ад цяжару аж прыгінаецца.

Трава, вядома, сакавітая, балотная. А тут, як з-пад зямлі, ляснік, што лесавік, выскачыў.

«Што гэта ў цябе?» — пытае.

«Вядома, што. Трава»,— адказала маці. А сама ні жывая ні мёртвая ад страху.

«Пакажы, што гэта за трава!» — ляснік кажа. Быццам сам не бача, што трава ў посцілцы, а не што-небудзь. Скінула маці клунак з плеч.

«Дзе ўзяла?»

«На балоце».

«А балота чыё?»

«Панскае».

«А як ты пасмела на панскім балоце траву жаць?»

«А каму яна патрэбна? Не пойдзе ж пан на балота. Трава б усё роўна згніла»,— адказала маці.

«І хай гніе! Усё роўна не маеш права!»

Сказаў так ляснік, выняў з-за папружкі сякеру і давай секчы траву. Усю разам з посцілкай і пасёк. Закрычала маці ад страху і ну бегчы: думала, што вось зараз пагоніцца за ёю і яе засячэ. Бегла, не гледзячы пад ногі, ды ў багну ўвалілася. Уцягвае яе багна, засмоктвае... крычыць маці, ратунку просіць. Але не было ёй ратунку. Не паспеў ляснік. Пакуль дабег, засмактала яе... толькі бурбалкі булькалі на тым месцы... Э-эх! — цяжка ўздыхнуў Карабан.— Вось якое ў нас жыццё было. Ці ж усё перакажаш?

— А што было потым? Што зрабілі з лесніком? — спытаў прыціхлы Лёкса.

— Забілі яго мужыкі. Ліхі чалавек быў. Ну а потым мы рэвалюцыю рабілі. Пачалі лясы Тышкевіча секчы. Цярпенне ва ўсіх скончылася. І не толькі Тышкевіча, а

ўсе панскія лясы секчы пачалі, маёнткі палілі. А потым як пачалі хапаць нас ды ў «халодную» саджаць! У турму, значыць...

— І цябе, дзеда?

— І мяне. Потым выпусцілі. З «воўчым білетам». Дакумент такі замест пашпарта давалі. Значыць, на работу прымаць мяне нельга, начаваць ні ў адной хаце таксама нельга. Быццам воўк ці бандыт які. Але ж свет не без добрых людзей. Жыў я і новую рэвалюцыю рабіў. Гэта ў семнаццатым годзе каторая была. А потым і на сваю Лагойшчыну вярнуўся, каб паноў выганяць, бедным волю даваць. Думаеш, наша Хатыня вось такой адразу стала? Не, братка. Шмат папрацаваць давялося. Нямала поту і крыві праліць. Цяпер людзьмі сталі хатынцы. У кожнай хаце ўсяго паўнюсенька, як мядку ў вуллях. А хат усё больш і больш. І вывадкі цэлыя ў іх, што ў квактух. У аднаго Бараноўскага дзевяць жаўранкаў гадуецца. А ўсё чаму? Таму што людзі жыць лепей сталі. А калісьці тут ні душы не было. Адна хатка стаяла ды і тая паляўнічая. Графіня Соф'я, кажуць, паставіла. На паляванне сюды выязджала. А можа і не яна?.. Хто ж цяпер гэта помніць... А потым Тышкевіч Канстанцін прадаў лес, увесь пасёк, а зямельку з пнямі ды карчамі сваім былым прыгонным людзям аддаў. Гэта пасля таго, як прыгон скасавалі, калі мужык вольную атрымаў, а доля яго такой жа цяжкай засталася... Бач, колькі цяпер хат панаставілі! Вось таму Хатыняй, мусіць, і назвалі. Праўда, гэта зямля Хатынскай яшчэ да нас называлася. На карце «Хатынь» пішацца, а мы «Хатыня» гаворым. Так ласкавей...

А аднойчы Карабан расказаў, як хатынцы спярша ў зямлянках жылі. Акенца над самай зямлёй, і дня ў такой

зямлянцы не ўбачыш. А ноччу падыдзе воўк да зямлянкі і акенца языком ліжа. З галадухі, мабыць. Шкла не было, дык замест яго бычыны пухір нацягвалі. Мутна, але ж святло нейкае ды праходзіць. Вось і лізаў воўк пухір гэты. Даводзілася лучыну паліць, каб звера напужаць. Вельмі ўзрадаваўся Лёкса, калі даведаўся ад Карабана, што першым жыхаром у Хатыні быў Лёксаў прадзед. А потым пасяліліся Мірановічы, Карабаны і ўсе астатнія. Даведаўся ён і пра тое, як на Лагойшчыне калгасы стваралі. Раней за ўсіх сяляне з вёскі Корань пачалі. Забралі зямлю ў ксяндза ды падзялілі ўсім пароўну на пяць бядняцкіх сем'яў. Разам сеялі, разам жалі, а потым усё дзялілі між сабой. Вось так паспрабавалі — добра атрымалася. Усім зайздросна стала. Па іх прыкладу і другія вёскі жыць пачалі. Калгас арганізавалі — «Чырвоная зорка». Тры вёскі ў яго ўвайшлі: Селішча, Мокрадзь і Лавоша. Потым і Хатынь да іх далучылася.

Шмат цікавага даведаўся Лёкса пра сваю Хатынь ад дзеда Карабана. Ні ў адным падручніку гісторыі такога не прачытаеш. Але пра ўсё гэта Карабан расказваў яму яшчэ да вайны. А з таго часу, як вайна пачалася, дзед маўклівы стаў, і слова ад яго не пачуеш. Лёкса заўважыў раптоўную перамену ў старым, і ўсё ж сёння чакаў ад яго новых расказаў.

Пляце Карабан кошык, а Лёкса сядзіць ціха, не варухнецца нават, усё чакае. Зірнуў Карабан на хлопчыка ўважліва і падумаў: «Матчын твар. Выліты. Вось толькі валасы бацькавы, нібы каласы спелыя. У Адэлькі цёмныя». Зірнуў Карабан у Лёксавы вочы — і зразумеў хлопчыка, шкада яго стала. Набіў люльку самасадам, зацягнуўся і пачаў расказваць. А расказаў ён сёння пра тое, як вучыліся

хатынскія дзеці да рэвалюцыі. Школ не было. Палову хаты перагарадзілі: у адной палове сям'я жыве, у другой — дзеці вучацца. А настаўніка з Лагойска запрашалі. Плацілі яму тыя хатынцы, чые дзеці вучыліся. А вучыліся тыя, хто багацейшы быў. Жыў настаўнік у кожнага вучня па чарзе, еў, піў і спаў у яго хаце. Так з хаты ў хату і хадзіў. А калі ва ўсіх пажыве, тады зноў пачынае з першага. Бо жыць яму не было дзе, і плату ад сялян меў невялікую.

Лёкса слухаў, прыціхлы.

— Дзеда, а гэта праўда, што вучняў білі? — спытаў ён.

— Праўда. За памылкі настаўнік «лапай» караў. Колькі памылак зробіш, столькі разоў ён біў па далоні.

— А мяне не білі...— сказаў Лёкса.

— Дык то ж пры Саветах,— уздыхнуў Карабан.— Мы, старыя, людзі цёмныя. А вам, маладым, дарогу ў грамату рэвалюцыя адкрыла. Цяпер толькі б і вучыцца... ды вось зноў вайна... Каб на яе ліха. Стары я. А то пайшоў бы з усімі разам немцаў біць. Я ж рэвалюцыю яшчэ ў пятым годзе рабіў, а потым Калчака гнаў.

— Раскажы, дзеда! — прыліп Лёкса да Карабана, бы пчала да мёду.

Але ў гэты час пачуўся сярдзіты крык Адэлі:

— Лёкса-а-а!.. Каб ты праваліўся-а-а-а!.. Куры гуркі паклявалі-і-і-і!

— Пазней раскажу. А зараз ідзі. Маці кліча,— сказаў дзед, апаласкваючы збан ад малака і наліваючы ў яго духмяны мёд, над якім роем закружыліся пчолы.

Пайшоў Лёкса. А Карабан усё пляце кошык, задумаўшыся, а лазовыя хвосцікі цягнуцца, цягнуцца, уводзяць яго памяць па доўгай сцежцы ў далёкае мінулае... Голас

2 Зак. 3864

Адэлі, што клікала сына, болем адгукнуўся ў яго сэрцы. Паглядзеў стары ў бок лесу, за які кожны дзень хаваецца сонца. Вочы Карабана сядзяць глыбока, і калі ён глядзіць з-пад навіслых броваў, яны, як два кавалачкі яснага неба з-за калматых хмурынак, выглядаюць і ўсміхаюцца некаму. Спакойныя, мудрыя вочы. А варта старому заплюшчыць павекі — і твар застывае, робіцца строгі.

Карабан заплюшчыў вочы. І ўбачыў сябе маладым здаровым хлопцам. Урэзаўся ў памяць той дзень, відаць, і сякерай яго не высячэш, у магілу з сабой панясе.

...Заходзіла сонца. Трывожна шумеў панскі лес. Заціхалі галасы птушак. Конь, прывязаны да сасны, нецярпліва біў капытом. Пятрусь пагладзіў конскую грыву: маўляў, пацярпі крыху, нядоўга засталося чакаць. Зараз прыйдзе. Хутка прыйдзе яна, Анісся. І мы памчым адсюль, куды вочы глядзяць, па-новаму жыць пачнём. Але ўсё шуміць лес, толькі зрэдку крыкне птушка, а Аніссі няма. Змрокам ахуталася зямля, вось ужо і хаты патанулі ў цемры. Недзе на другім канцы вёскі сонна і неяк жаласліва зарыпеў калодзежны журавель. І ўсё заціхла. «Не, не прыйдзе. Гэта канец. Закацілася маё шчасце, як сонца за лес. Толькі сонца ранкам узыдзе, а маё шчасце — ніколі». І ўсё яшчэ чакаў чагосьці Пятрусь. Марудзіў. Не спяшаўся развітвацца з роднымі мясцінамі. Дык ці прыйдзе Анісся? Умова ў іх такая была: як не прыйдзе да захаду сонца, значыць, бацька не пусціў, значыць, паедзе Пятрусь адзін. Дык чаго ж яшчэ чакае хлопец? Пятрусь выцер рукавом няпрошаную слязу, развітваючыся са сваім каханнем, а разам — і з Хатынню, потым ускочыў на каня і, панурыўшы галаву, паехаў па сцяжынцы ў лясны гушчар. Вось так і загінула яго каханне. Зна-

чыць, не выпаў яму лёс з Аніссяй жыццё сваё звязаць, дзетак разам з ёй гадаваць, мілаваць. А ўсё бацька яе, Пракоп. Круты ў яго характар быў, упарты. «Не,— кажа,— за бандыта цябе не аддам, хоць памры!» Анісся паплакала, пагаравала, але не памерла. За другога замуж пайшла: цяжка прыгожай у дзеўках сядзець. А калі вярнуўся «бандыт» той самы, які маёнткі панскія паліў, жывёлу і зямельку беднякам дзяліў, дык ужо не застаў жывога бацькі Аніссі. А Анісся ўжо з дзецьмі была. І хоць па-ранейшаму кахала яна Петруся, а ўсё ж не кінула мужа, шкада яго стала: вельмі ж ён дзетак любіў, асабліва старэйшую, Адэлю. Пагараваў яшчэ Пятрусь, патужыў ды і сам ажаніўся. Добрая ў яго Алена, нічога не скажаш, ды вось толькі на язык вострая, зладу няма з ёй. Гэта не тое, што пакорлівая, сціплая Анісся. Адэлька ўся ў яе, твар і характар такі ж. Таму і палюбіў Карабан Адэлю, як родную дачку, а Лёксу, як роднага ўнука. Моцна палюбіў яго Карабан. Ды і як не любіць гэтага віхрастага хлопчыка з дапытлівымі вачамі? Усё, і радасць, і гора ў сям'і Жалабковічаў блізка да сэрца браў стары Карабан. А калі праўду казаць, не пашанцавала Адэлі. Хоць і неблагі мужык Васіль, і працавіты, і на характар вясёлы, але не было поўнага шчасця ў іх сям'і: першыя дзеткі, пажыўшы крыху, паміралі. Вось гэта гора і адбілася на Адэліным характары. Маўклівай стала, пакорлівай і забабоннай залішне. А можа, проста ў маці пайшла? Тая такой жа была. Чацвёра дзяцей засталося ў Адэлі. Яна душу ім аддае і ўсё баіцца, каб ніхто іх не сурочыў. Сама і пальцам іх не кране: «папсаваць» баіцца. Гэта таму, што першанькія паўміралі. З той пары ўзяла сабе ў галаву, што калі гэтых будзе біць, то і яны памруць. І калі трэба

ёй пакараць дзяцей, просіць Адэля суседак. А аднойчы прыйшла думка, што толькі чырвоная кашуля і выратавала яе Лёксу ад немінучай гібелі ў навальніцу. Беднай кабеце мроіцца, што ўсе перуны і маланкі толькі ў яе дзяцей і цэляць. Ці ж так можна жыць? Трэба пагаварыць з ёю...

Пасля таго як смерць Аніссю забрала, Карабан, як толькі мог, памагаў Адэлі і яе дзецям. То мёду збанок наліе, то кошык спляце, а без Лёксы жыць не можа. Здагадалася аб нечым Алена. Але толькі заікнулася пра сваю здагадку, грымнуў Карабан на старую так, што тая назаўсёды язык прыкусіла.

Карабан расплюшчыў вочы — перад ім, як на далоні, ляжала Хатынь. Карабанава хата стаіць на ўзгорку, і адтуль усё відаць навокал. Ветрык прынёс гаркавы пах дымку, што струменіўся над Адэлінай хатай: час быў даабедзенны, і Адэля, мусіць, завіхалася ля печкі. «Старая хата ў Васіля, новую трэба ставіць»,— падумаў Карабан. Дзе-нідзе блішчаць на сонцы свежыя зрубы. Патанула Хатынь у садах. Вішні і яблыні, на сонцы размораныя, звесілі млява галінкі. Калодзежныя жураўлі высока ў неба цягнуцца, быццам аблокі хочуць падчапіць. Азяроды з пахучай скошанай травой у кожным двары стаяць, утульна жэрдкамі паблісквають. А наўкол Хатыні палі калгасныя бы ў скокі пайшлі. Грэчка ружовай хусткай памахвае, абяцае ўсю вёску кашай накарміць, лён смарагдавым падолам пыл падмятае, усіх жанчын у прыгожыя сукенкі абяцае апрануць, а пшаніца ў жоўтай блузцы каласкамі гарэзліва ківае, маўляў, хто адмовіцца ад маіх белых пірагоў! Глядзіць лес, абступіўшы палі з усіх бакоў, на гэты вясёлы карагод, шуміць трывожна і нешта думае...

Ачнуўся Карабан, страсянуў сівой галавою, нібы хацеў скінуць з сябе нейкае замарачэнне, вочы працёр: мусіць, пamroілася яму, бо ці ж можа быць, каб усё наўкола скакала? Ці задрамаў Карабан, ці сонцам галаву напякло? Ён яшчэ раз абвёў вачамі лес, палі, Хатынь. «Няўжо ўсё гэта немцу дастанецца?» — горкая думка паласнула па сэрцы. І зноў Карабан узяўся за кошык.

## НЕМЦЫ

Паўдзённае сонца пякло неміласэрна. Падышла бабка Тэкля з поўнымі вёдрамі на каромысле. Спынілася. Паставіла вёдры на зямлю. Глядзіць, як спрытна пляце Карабан, якая паслухмяная ў яго руках лаза. Чорнае кацяня з белымі, як смятана, лапкамі ловіць лазовыя хвосцікі, што шоргаюць па пяску. Карабан не заўважае кацяня. Ён усё пляце і пляце, думаючы пра нешта сваё. Тэкля стаяла, глядзела, потым загаварыла:

— І не пячэ табе, Карабан? На самым сонцы сядзіш. Хоць бы ў цянёк перасеў... Мо навальніца будзе: вунь як смаліць!

Карабан зірнуў у сухое, гарачае неба і сказаў:

— Па́ра косці не ломіць. Мне, старому, толькі і пагрэцца. Колькі мне тут засталося... На маю думку, немец і да сваіх гадоў, богам адмераных, дажыць не дасць.

І толькі гэта сказаў Карабан, як пачуўся губны гармонік, потым даляцела чужая песня. Ніколі не чулі хатынцы гэткіх песень. Павыходзілі з хат, прыслухаліся. Немцы, здавалася, не спявалі, а гарланілі. Гармонік і песня ўсё бліжэй, і вось з маладога ельніку, адтуль, дзе знаходзіц-

ца Мокрадзь, паказаліся калёсы. А на іх чацвёра немцаў сядзяць, ногі звесіўшы. Калёсы даверху нагружаны гаршкамі, кубламі, кошыкамі. Конь ідзе сам па сабе, лейцы валакуцца па зямлі. Відаць, седакі добра падпілі. Ідзе конік, вушамі стрыжэ, быццам не любы яму ні песня, ні чужая гаворка. Ідзе, косіць вока на калёсы і раптам як памчыць з гары! Быццам хацеў уцячы ад гаспадароў новых. Воз перакуліўся. Немцы, запэцканыя смятанай, разбітымі яйкамі і залітыя малаком, у адзін момант працвярэзіліся. Ускочылі на ногі і, кульгаючы, з лаянкай падышлі да Тэкліных вёдраў. Акунаючы ў іх свае брудныя рукі, пачалі мыцца, чысціцца. Потым пабеглі па дварах збіраць прадукты замест тых, якія ім зглуміў свавольнік конь.

— А конь, бач ты, Пракопаў! — сказаў Карабан, зірнуўшы на гнядога ўкормленага жарабца.

Тэкля не азвалася, яна стаяла, са скрухай гледзячы на свае забруджаныя вёдры.

У Лёксаў двор зайшоў высокі немец у акулярах. Нічога не сказаўшы, ён адразу накіраваўся ў гарод. Пастаяў, паглядзеў, аб нечым разважаючы, і пайшоў па градзе з гуркамі, тупарылымі ботамі ломячы крохкія сцябліны.

Раз-пораз немец нахіляўся, каб сарваць гурок. Сабраныя гуркі ён кідаў у торбу, падвязаную да шырокай папругі. Лёкса з нянавісцю глядзеў на фашыста, што таптаў яго гарод. А той быццам і не заўважае нікога, усё топчацца на градзе. Здалёк здавалася, што ён танцуе. Калі на градах не засталося аніводнага гурка, немец кончыў свае скокі. Але які стаў гарод! Быццам статак свінней яго таптаў. Распласталася па зямлі лісце, раздаўленае цяжкім ботам, валяліся ў разорах растаптаныя гуркі.

Адэля плакала і ціха прыгаворвала:

— Ах, каб цябе зямля не насіла! Сказаў бы, дык сама б нарвала! І за што ж гэта божанька нас пакараў! Спіначку сваю гнула, рук не шкадавала, саджала, палола, палівала. А ён, чорт гэты сляпы, у адзін момант усё абабраў, патаптаў усё! А каб цябе смерць гэтак таптала, як ты маю зямельку!

Немец не разумеў ані слова. Ён толькі паўтараў, як завадны:

— Рус, рус, спасіба!

— Каб табе тваё «спасіба» ўпоперак горла стала! — не магла супакоіцца Адэля, выціраючы фартухом слёзы.

Немец не спяшаўся ісці. Ён сеў на лаўку, абцёр гурок і смачна захрумстаў, з усмешкай пазіраючы на насупленага Лёксу. З'еўшы гурок, немец зноў пачаў шнарыць па двары. На гэты раз ён палез у склеп, спадзеючыся знайсці там малако, масла, сала. Чамусьці доўга адтуль не выходзіў. Нарэшце Лёкса пачуў са склепа:

— О, майн гот!

І зноў ціха. Раптам у склепе пачулася аўтаматная чарга. Адэля і Лёкса з перапуду пабеглі за хлеў. Нарэшце немец, прыціскаючы да грудзей збанок смятаны, вылез наверх. Ён быў злосны і нечым напалоханы. І трэба ж было яму пайсці за хлеў, дзе якраз і схаваліся Адэля з Лёксам.

— Донэр вэтэр! — вылаяўся немец, даўшы выспятка Лёксу, які са страхам глядзеў на яго. Нечым раззлаваны, немец, няйначай, не ведаў, да чаго прычапіцца. Ён утаропіўся ў Адэліну хустку. Чырвоную хустку, што Васіль яшчэ зімой прывёз ёй з горада. Хустка спаўзла з галавы запла-

канай Адэлі, і кончыкі вусікамі ляжалі на яе грудзях. Немец прыжмурыўся.

— Пі-о-нэр? — сказаў ён па складах.— Нікс карашо. Я ест паф-паф!

І зрабіў жэст, даючы зразумець, каб Адэля зняла хустку і кінула яе на зямлю. Калі Адэля зрабіла тое, што ад яе патрабавалася, немец прыцэліўся і пальнуў па хустцы з аўтамата.

І пайшоў. Адэля, быццам скамянелая, стаяла і глядзела на зрашэчаную кулямі хустку. У грудзях яе нешта абарвалася.

Нарэшце зладзеі, нагрузіўшы калёсы дабром, селі і паехалі далей. Маўкліва і пахмурна глядзелі хатынцы ўслед няпрошаным гасцям. Лёкса таксама глядзеў, схаваўшыся за загародай. Калі калёсы ўжо выехалі на гасцінец, цыбаты немец, што таптаў Лёксаў гарод, крыкнуў сялянам на развітанне, тыцнуўшы сябе пальцам у грудзі.

— Я ест карош зольдат! — І памахаў доўгай, як граблі, рукой. Потым выняў з кішэні губны гармонік, і зноў загучала ў хатынскім лесе чужая песня.

Лёкса ўсё стаяў і глядзеў, пакуль калёсы з немцамі не зніклі за соснамі. Потым пайшоў да маці.

Адэля па-ранейшаму стаяла над хусткай і аб нечым думала. Лёкса паклікаў маці. Адэля быццам не чула. Лёкса асцярожна пацягнуў маці за рукаў.

Адэля схамянулася, паглядзела на сына вачамі, поўнымі слёз, нахілілася, падняла прастрэленую хустку, пайшла ў хату. Адкрыла куфар і схавала хустку глыбока, аж на самае дно, пад ільняныя палотны і ручнікі.

З тае пары затужыла Адэля. Нервовай стала, слязлі-

вай. У гісторыі з хусткай яна бачыла нядобры знак. Немец прастрэліў чырвоную хустку, яе любімую хустку, якая засцерагала яе ад насланняў. Нешта павінна здарыцца — так разважала Адэля. І з таго дня пачала чакаць бяды. Але пры чым тут хустка, калі ідзе вайна? А вайна, як вядома, заўсёды прыносіць бяду.

Лёкса пайшоў зачыніць склеп і ўбачыў у ім мёртвага вужа. Дык вось чаму раззлаваўся немец! Ён проста баязлівец! Вужа палічыў за гадзюку і забіў яго.

Жніво было ў самым разгары. І ў гэтую гарачую пару ў Хатынь нечакана з'явіліся паліцаі, немец і староста Біс з суседняй вёскі. Немцы ўзялі Біса сабе ў паслугачы таму, што той ведаў іхнюю мову — быў у германскім палоне яшчэ ў тую, першую вайну. І гэты прадстаўнік нямецкай улады, сабраўшы сялян, пачаў перакладаць ім усё, што гаварыў немец. Фашыст лапатаў хутка, захліпаючыся. Біс ледзь паспяваў за ім. А той гаварыў пра нейкія «новыя парадкі» нейкай «Новай Еўропы», якую задумаў стварыць Гітлер. Пакуль Лёкса хадзіў у школу, дурэў з хлапчукамі, запускаў у неба папяровага змея, ганяў галубоў, блукаў па лесе, шукаючы птушыныя гнёзды, дыхаў прыволлем палёў ці проста біў лынды, Гітлер ночы не спаў, усё думаў пра тое, каб Лёксава жыццё зрабіць шчаслівым. І дзеля гэтага ён распрацаваў план «Новай Еўропы» яшчэ задоўга да таго, як пачаць вайну. І што з самага моманту вайны, калі верыць таму ж Гітлеру, пачаўся паход у гэту самую «Новую Еўропу». Вось толькі Гітлера непакоіць тое, што шмат, вельмі шмат мужчын «вызваленых народаў» яшчэ і сёння са зброяй у руках служаць у Чырвонай Арміі і тым самым выступаюць супроць «Новай Еўропы», наносячы ёй вялікую шкоду. А каб яны былі разумней-

шыя, то пераканаліся б, што Гітлер нічога кепскага ім не жадае. Наадварот. Ён адновіць прыватную ўласнасць, падарыць ім зямлю. Навошта ім калгасы? Хай толькі кінуць зброю і вернуцца да сваіх сем'яў — яны пераканаюцца ў тым, што ў Гітлера сумленныя планы. Бо хто такія немцы? Дзеля чаго яны пайшлі на Усход? Дзеля таго, каб жыццё савецкіх людзей шчаслівым зрабіць.

Калі немец скончыў гаварыць, стараста пачаў чытаць загады «новага парадку»:

— «Насельніцтву забараняецца нелегальны забой жывёлы ў асабістых мэтах. Віноўнікі, якія парушаць забарону, будуць строга пакараны мясцовым камендантам... Усе запасы ўраджаю павінны быць абмалочаны тэрмінова і здадзены ў нямецкую камендатуру... Непаслушэнства будзе карацца штрафам, пазбаўленнем волі, а ў цяжкіх выпадках — смерцю!»

Стараста ўсё чытаў і чытаў. З натоўпу чуліся незадаволеныя галасы:

— Вось дык парадачкі!..

— Усё смерцю пагражае...

— Прадаўся, бісаў чорт...

Спадылба глядзелі на старасту сяляне. А той усё гаварыў, гаварыў:

— ...Хто будзе сялян падбухторваць да бунту і нядобрае гаварыць пра нямецкую ўладу, не будзе здаваць вопратку і малако нямецкім салдатам, той будзе пакараны. І таму раю выконваць загады. І яшчэ. Вы павінны змагацца з партызанамі, даносіць на іх і затрымліваць. За гэта вы будзеце ўзнагароджаны грашыма, зямлёй і харчаваннем. І яшчэ вам трэба выбраць свайго старасту. Выбіраць будзеце самі.

Пакуль гаварыў Біс, паліцаі расклейвалі на сценах дамоў аб'явы.

А калі нямецкая ўлада пасела ў машыну і паехала, усе кінуліся чытаць гэтыя аб'явы. І Лёкса таксама прачытаў: «Кожны, хто дапаможа ўцёкшым рускім ваеннапалонным ці партызанам харчаваннем ці пусціць іх начаваць, ці акажа якую-небудзь іншую паслугу, будзе пакараны смерцю... Не будуць пакараны тыя, хто пры з'яўленні вышэйпамянёных асоб спешна, не пазней, чым за 24 гадзіны, данясе на іх у бліжэйшую паліцэйскую ўправу...»

І шмат падобнага пісалася ў аб'явах.

— На сваіх руку падымаць вучаць! Цьфу! — пляваліся дзяды.

Абмеркаваўшы апошнія навіны, позна разыходзіліся па хатах у той дзень панурыя хатынцы. Яны зразумелі: нічога добрага «новыя парадкі» ім не абяцаюць.

## НАЧНЫЯ ГОСЦІ

З Кузьмой, маладым партызанам, Лёкса пазнаёміўся ўвосень.

Неяк ноччу ў акно хаты пастукалі. Васіля дома не было: яшчэ днём пайшоў у Барысаў яйкі на соль вымяньваць. Напужалася Адэля, ускочыла з пасцелі і пытае:

— Хто?

— Адчыні, гаспадынька. Свае, — пачуўся са двара мужчынскі голас.

— Цяпер усе свае...— прабурчала Адэля.

— Партызаны мы.

— А калі і партызаны, дык чаго вас носіць па начах?

Сонная і напалоханая, Адэля ўсё ж адчыніла дзверы начным гасцям. Іх было двое: высокі малады і пажылы камлюкаваты барадач. Увайшоўшы ў хату, яны адразу паздымалі мокрыя боты, паставілі іх на цёплы прыпечак. Адэля пераставіла абутак на ляжанку.

— Немцы даўно ў вас былі? — спытаў малады.

— Нешта не прыпомню... Паліцаі толькі. На мінулым тыдні. Усё пабралі, зладзеі,— неахвотна адказала Адэля, недаверліва скасіўшы вочы на гасцей. Маўляў, хто вас ведае: можа, і вы — пераапранутыя паліцаі, нікому зараз веры няма, а на лбе не напісана. Адэля ні аб чым не пыталася. Сама разумела: накарміць гасцей трэба і спаць пакласці. За гэтым і прыйшлі ў яе хату. Моўчкі адсунула заслонку ў печы, дастала чыгунок з бульбай, што ад вячэры засталася, у падпамосце за малаком палезла.

Хутка справіўшыся з ежай, партызаны ляглі спаць — адзін на лаўцы, другі залез на палаткі.

А раніцай Лёкса ўбачыў, што ў вёсцы паўнюсенька партызан. Калі Кузьма пайшоў мяняць вартавога, Лёкса пабег за ім. І такая размова паміж імі адбылася.

— Кузьма, чуеш, Кузьма? — ціха паклікаў Лёкса, дробненька тупаючы за шырокай спіной партызана.

— Чаго табе, малы?

— Вазьмі мяне ў партызаны!

— Бач ты яго! Што надумаў! У партызаны яму. Ад гаршка тры вяршка і ваяваць захацеў. Шмат вас такіх. А хто гаспадарку дагледзіць, дзяцей меншых? Маці надарвалася, нябось, за вамі ходзячы. І накармі гэткую прорву, і абшый, і абмый! І адкуль вас столькі ў Хатыні?.. У партызаны яму... Маці пытаў?

— Ага. Не пускае.

— І хай не пускае. Вайна скончыцца — хто будзе новае жыццё будаваць? Не ўсім жа паміраць.

— Дык я ж не малое дзіця,— пакрыўдзіўся Лёкса.— У мяне і вінтоўка ёсць!

— Вінтоўка, кажаш?.. Дзе ўзяў?

— Каля забітага чырвонаармейца знайшоў. І гранаты ёсць!

Кузьма спыніўся і ўважліва слухаў Лёксу. Нават пра самакрутку забыў: патухла. Потым сказаў:

— Ты вось што, хлопча. Пра свой тайнік нікому. Зразумеў? А я далажу пра цябе камандзіру. А пакуль рабі тое, што я табе скажу.

На тым і пагадзіліся. З тае пары Кузьма быў частым госцем тут. І Лёкса памагаў яму, як толькі мог.

## ВЯЛІКДЗЕНЬ

«А ўсё ж цікава, чаму гэта немцы вялікдзень дазволілі спраўляць? Нешта тут не так»,— разважаў стары Пучок, фарбуючы яйкі. Раней за ўсіх прачнуўся сёння Пучок і яшчэ на досвітку пачаў збірацца ў пасёлак Краснае. Хацелася яму паглядзець, як там людзі святкаваць будуць. Бач, што немец прыдумаў! Дабрадзеем прыкінуўся, вялікдзень дазволіў народу святкаваць. Усе святы забараніў: і Восьмае сакавіка, і Першае мая, дзень Чырвонай Арміі і Кастрычніцкую рэвалюцыю, вядома, таксама. А вось каляды — калі ласка! І яшчэ дзень нараджэння. Ну, дзень нараджэння забараняй ці не забараняй, а і самому адзначыць можна. Пляваць на тваё забароны. Толькі Пучок не памятае, калі ён нарадзіўся. Ды, мусіць, і не

ведаў ніколі. Адным словам, усе святы самыя галоўныя забараніў немец, і раптам — вялікдзень! У касцёле, з арганам, набажэнствам! Ці ж можна гэтаму паверыць? Нешта тут не так. Таму Пучок і збіраецца ў дарогу. Не для таго, каб богу маліцца, а закарцела яму дазнацца: чым гэта дабрадзейнасць нямецкая скончыцца.

Сам Пучок не верыў ні ў бога, ні ў чорта, хоць і таго, і другога з языка не спускаў. А калі і выпадала яму памаліцца, дык толькі тады, калі ўсе маліліся. Але так ужо павялося ў Хатыні, відаць, яшчэ з даўняга часу павялося, што кожны, хоць і не верыць у бога, сваю веру павінен мець — праваслаўную або каталіцкую, усё роўна. А чаму так усё пайшло, ніхто не мог даўмецца. Адзін Карабан быў бліжэй за ўсіх да праўды, калі гаварыў пра гэтую блытаніну, што вінаваты ў гэтым польскія паны, калі яны чатыры стагоддзі таму назад запаланілі зямлю беларускую. Тады палякі сілком прымушалі беларусаў прымаць іх веру, каталіцкую, і маліцца на польскай мове. А потым дайшло да таго, што беларускіх католікоў сталі лічыць палякамі і прымушалі нават польскія імёны даваць дзецям, а тыя павінны былі размаўляць на іхняй мове. А ў гады рэвалюцыі многія зноў пераходзілі ў праваслаўную веру. Усё пераблыталася, што і казаць! І чым яны адрозніваюцца — каталікі ад праваслаўных? І тыя, і другія аднаму богу моляцца, толькі па-рознаму яго называюць. І ксяндзы, і бацюшкі гавораць адно і тое ж: маўляў, бедныя павінны жыць у страху божым і за гэта трапяць у «царства нябеснае», а там не жыццё ў іх будзе, а рай! І тыя, і другія вучаць: «не забі», «не ўкрадзі», а самі што робяць! Вось на мінулым тыдні суседка яго, Тэкля, курыцу аднесла папу, каб той навучыў яе, як казу на ногі паставіць. Ну, наву-

чыў. Прыходзіць Тэкля дахаты і робіць усё так, як поп загадаў. Над вадой малітву пашаптала, падлогу гэтай вадой вакол хворай казы паліла, потым ёю скацінку пацерла. І вось стала Тэкля перад казой на калені і кажа: «Выйдзі, злы дух, з казы!» — а тая замест таго, каб ускочыць ды пабегчы, узяла і ўвечары акалела, не выйшаў з яе злы дух. Вер пасля гэтага богу! А Тэкля — як з ёй ні спрачайся — усё роўна крычыць, што бог ёсць. Пучок не верыць. Ён лічыць, што бога прыдумалі хітрыя папы, каб рабаваць Тэклю і такіх, як яна. Гэта ж вунь як жыве поп Зубовіч! Лепш за ўсіх жыве! І сала ў царкву прыносяць прыхаджане, і масла, і гусяціну, і парасяціну! Быццам ахвяру богу прыносяць, каб той грахі ім адпусціў, хваробу на скаціну не наслаў. Дык ці ж бог гусяцінку жарэ! Дурні! Ашуквае іх поп, каламуціць вадзічку ды ловіць рыбку. А тыя веруюць. Далібог, дурні! Апошняе аддаюць, а самі бацвінне сёрбаюць. Дзяцей бы лепш накармілі!..

Так разважаў Пучок, збіраючыся ў дарогу. Хоць і лічыў сябе Пучок праваслаўным, а пайшоў паглядзець, як у касцёле святкаваць будуць. Пакуль дачакаешся праваслаўнага! У каталікоў ён заўсёды раней — велькапац. А потым і другі можна справіць.

Пайшоў Пучок. А хатынцы ўсёй вёскай святкавалі, адно аднаго ў госці запрашалі. У таго-сяго самагонкай запахла. Потым некаторыя хадзілі па вуліцы з песнямі.

Вярнуўся Пучок толькі на другі дзень. Стомлены, злосны. Хоць не падыходзь да яго. А ўсім ведаць ахвота, як ён там, у Красным, яйкі свянціў. Асабліва карцела Лёксу і Антосю. Але дзіва: як толькі хлопчыкі ўгледзелі на дарозе Пучка, быццам ветрам іх з вуліцы змяло.

Запрашалі Пучка ўсе. І ён хадзіў з хаты ў хату і ўсё расказваў адно і тое ж. І хоць вялікі грэх на вялікдзень, хоць і чужы, пляваціа, а ўсё ж кожны раз, калі ён падыходзіў да аднаго месца ў сваім расказе, смачна пляваў ды так адборна лаяўся, што нават мужчыны на яго шыкалі. Зайшоў Пучок і ў Адэліну хату. І вось што расказаў:

— Прыйшоў я ў Краснае. Да касцёла іду. А што народу там! Яблыку ўпасці няма куды. Тапчуся я на адным і тым жа месцы, пхаюць мяне, а я то бокам, то задам праціскваюся. Дзе там! Столькі панайшло кабет з клуначкамі, з паскамі тварожнымі ды з яйкамі, што і ў касцёл праз іх не ўлезеш. Ужо служба ідзе, а касцёл усіх і не ўмяшчае. Праціснуўся я ўсё ж. Ксёндз пяе, і людзі хорам яму падпяваюць. І тут бачу: побач са мной Біс стаіць. Усе людзі слова ў слова за ксяндзом малітву дзяўбуць, а ён, пся крэў, сваё нешта балбоча. Прыслухаўся я — і сэрца маё ажно захаланула. Цьфу, нячысцік! Каб цябе скруціла! І трэба ж такое выдумаць!..

Тут Пучок змоўк, падставіў чарку. Яму налілі самагонкі. Пучок выпіў не спяшаючыся, закусваць пачаў. А Тэкля нават шыю выцягнула: так ёй ведаць ахвота, што ж такое бубніў чужы стараста? Нарэшце Пучок выцер рукавом вусы і працягваў:

— А бубніў ён вось што: «Езус Марыя! Дзякуй табе за тое, што ворага нашага інакшым зрабіў. Сэрца лютае з немца выняў, а замест яго добрае ўставіў. І хто ж гэта падумаць мог, што вельканац ён нам дазволіць справіць! Не вораг нам Гітлер пасля гэтага, а сябар!»

Загаманілі ў хаце пасля слоў такіх, пляваціа пачалі не горш за самога Пучка. А той усё расказваў:

— Як пачуў гэта я, павярнуўся і прэч з касцёла. Каб побач з такой навалаччу не стаяць. Выйшаў я з духаты на свежае паветра. А тут ксёндз пайшоў хадзіць, святой вадой яйкі апырскваць. Ну і я свой клуначак развязаў. Стаю з бабамі ў адзін рад. Для ксяндза праход вузкі пакінулі. Ходзіць ён, налева і направа святой вадой кропіць. І да мяне падышоў. Акунуў крапіла ў святую ваду і толькі хацеў папырскаць, але тут зірк на мае яйкі — і застыў, увесь белы, як палатно, стаіць і барада ажно адвісла. Потым нахіліўся да мяне, а вочы ў самога калючыя, і шэпча:

«Прэч адсюль... нячысцік!»

Сказаў гэта ён і па баках пачаў азірацца. Шыяй круціць, быццам напужаўся чагосьці. І зноў у мае яйкі ўтаропіўся.

«Схавай зараз жа»,— шыпіць.

Тут ужо і я глянуў. А як глянуў — дык ледзь не самлеў. І як тут не самлець: «Першае Мая» на яйках маіх напісана!

— Аво-ой! — здзівілася Тэкля.

— Цішэй ты! Дай дагаварыць чалавеку! — накінуліся на Тэклю бабы.

А Пучок працягваў:

— Страх мяне ўзяў. Перахрысціўся я: што за насланнё? Што хочаце думайце. І сам ніяк не ўцямлю, што гэта было. Можа, знак які?..

Скончыў свой расказ Пучок і адным махам выліў у рот яшчэ чарку самагонкі. Пачалі бабы разважаць: што ж гэта было? Нехта сказаў:

— На пабеду гэта. Хутка, мусіць, нашы прыйдуць.

— Ну, а потым што, Пучок? — карцела ведаць Тэклі.

— Потым?.. Бачу я такі паварот — і дай бог ногі! А тут гляджу — Бісава жонка стаіць. Узяў я свае яйкі ды ў кошык ёй падкінуў.

Кожны раз, калі Пучок даходзіў да гэтага месца, усе дружна смяяліся. І Пучок таксама. У вачах яго бліскалі хітрынкі: маўляў, ведай нашых! А калі ён, смеючыся, ускідваў галаву, пучок рэдкай бародкі яшчэ больш вытыркаўся наперад і дробненька дрыжаў. Можа, праз гэту бародку і празвалі дзеда Пучком, хто ведае?..

Пасля такой вясёлай бяседы Пучок, адчуваючы сябе героем, уставаў з-за стала, кланяўся і гаварыў:

— Дзякуй гэтаму дому, пойдзем к другому.

І гэтак хадзіў ён з хаты ў хату, пакуль яго, зусім сп'янелага, падхапіўшы пад ручкі, не прыцягнулі дамоў мужыкі.

Так закончыўся вялікдзень.

І ўсё ж Пучок здагадваўся, чыя гэта справа, хто яйкі яму падмяніў. Апрача Лёксы, ніхто не прыходзіў да яго ў тую раніцу, калі ён у касцёл збіраўся. Але прамаўчаў стары. Вельмі злаваў ён на Біса за яго «малітву». І добра, што ён першамайскія яйкі ў кошык старасціхі падкінуў. Хай пахрыстосуюцца нехрысці. А яму, Пучку, бог дарує.

Што было пасля таго, як Пучок з касцёла пайшоў, яму расказваць не хацелася. Ды і каму ж гэта захочацца такое расказваць! А было вось што.

Зайшоў ён за нейкую хату, дастаў з торбы пляшку з самагонкай, лусту хлеба, цыбулю ды соль і падсілкаваўся.

А потым пакуль на базар схадзіў ды купіў сяго-таго — змяркацца пачало. І трэба ж было яму зноў у касцёл зазірнуць перад тым, як дамоў ісці! Усё хацелася пагля-

дзець, як там вялікдзень святкуюць. Зайшоў у касцёл, слухаць пачаў, як ксёндз пяе. А той раптам спяваць скончыў і звяртаецца да народа:

— Грамадзяне парафіяне! Маліцеся за тое, што немец вас ад бальшавізму вызваліў!

Ціха стала ў касцёле. А ксёндз зноў малітву пачаў. Потым махнуў апошні раз кадзілам, ды так спрытна, што дымок ад ладану кольцам узвіўся ўгору. Ксёндз павярнуўся да ўсіх спіной і знік за алтаром. А Пучок разам з усімі, як зачараваны, глядзеў на кольца, якое плыло ўсё вышэй, вышэй, потым пачало шырэць і вось-вось гатова было растварыцца ля самага кліраса, як раптам узнік шум у храме. Нехта крыкнуў:

— Ратуйцеся! Немец хоча нас спаліць!

Што тут пачалося! Загаласілі жанчыны, кінуліся ўсе да дзвярэй, але немцы знадворку зачынілі іх — нікому не выйсці! Тады зноў нехта крыкнуў:

— Маліцеся! Бог за нас заступіцца!

Кінуліся ўсе на калені, маліцца пачалі. І Пучок таксама стаў на калені і ўсе малітвы, якія толькі ведаў, стаў прыгадваць. А потым высветлілася: камендацкі час ужо быў, восем гадзін вечара, вось і зачынілі іх немцы на ўсю ноч, і давялося да раніцы ў храме сядзець. Уладкаваўся Пучок у кутку пад іконай з распятым Хрыстом, пабурчаў яшчэ крыху і заснуў. А раніцой, ледзь свет, раскатурхаў яго царкоўны вартаўнік, выганяць пачаў. Усе пайшлі даўно, а Пучка, мусіць, самагонка адурманіла: так моцна спаў, што і не чуў нават, як дзверы адчынілі і ўсіх павыпускалі. Выйшаў Пучок на волю і пайшоў сваёй дарогай, пасылаючы праклёны ўчарашняму дню: столькі было нягод! Але цяпер ужо Пучок ведаў, чаму немцы вялік-

дзень дазволілі народу спраўляць. Ішоў ён з торбай за плячамі і ўсю дарогу лаўся:

— Бач ты, разумнікі!.. «Немец вас ад бальшавізму вызваліў»!.. Ах ты, чапяла лысая!

## АДАСЕВА ТАЯМНІЦА

Вось ужо трэці дзень Адась ходзіць, быццам у ваду апушчаны.

— І чаго ты, як мокрая курыца, ходзіш? Учарашні дзень шукаеш? — сярдзіта спытаў яго Стэфан.

— Чаго ты да яго прычапіўся? Можа, у хлопца жывот баліць! — заступілася Міхаліна за сына. І яна таксама даўно заўважыла, што сумуе яе Адась. Закралася ў яе падазронасць: праз Марыю Ётку змяніўся хлопец. Дзіва што! Усе хлопцы — і не толькі хатынскія — заглядаюцца на Марыю, вачэй ад яе адвесці не могуць. Сапраўды, прыгожая дзяўчына. Відаць, і яе сыну галаву закруціла. Дык ці скажаш пра гэта Стэфану? Лаяцца пачне: якія цяпер дзеўкі могуць быць у галаве! Вайна! Зачарсцвела сэрца ў Стэфана. Але Міхаліна разумее: вайна вайной, а сэрцу не загадаеш.

— Можа, сыраквашы даць, сынок? Як тут жывату не забалець! Дзіва што! Усё ў нас пабралі, гады. Каб ім самім жываты параспірала. Жуй цяпер праснакі з мякіны. Быццам свінні мы, а не людзі.

Не, не жывот баліць у Адася. Сэрца ные. І не па дзяўчыне. Зусім іншае мучыць хлопца. З галавы не выходзіць размова з паліцаем Грыцьком. Гэта было два дні назад. Наехалі паліцаі ў Хатынь. Як потым высветлілася, парты-

зан чакалі, хацелі засаду на іх зрабіць. Але ці то партызаны даведаліся пра засаду, ці то паліцаям нехта не тыя звесткі даў, але партызаны не прыйшлі. Паліцаі ноч праседзелі ў кустах, а днём пачалі рабаваць Хатынь. Курэй, масла, яйкі — усё пазабіралі. У той самы дзень і адбылася ў Адася размова з Грыцьком. Устаў паліцай з-за стала, за якім Міхаліна яму прыслужвала, Адася пальцам за сабой паклікаў. Выйшлі яны.

— Дык што, хлопец? Як пагляджу я на цябе — і рослы ты, і не хлопчык ужо, добры дзяцюк з цябе вырас,— загаварыў Грыцько. Адась слухаў і не разумеў, куды гне паліцай.— Дык вось. Даю табе тыдзень тэрміну. Падумай. А справу я табе добрую прапаную: да нас ідзі!

— Да вас?! — адхіснуўся Адась, быццам паліцай у твар яму плюнуў. Потым выкруціўся: — Малы я яшчэ, і мундзіра на мяне не падбярэце.

— Ха-ха! — засмяяўся Грыцько.— Нічога! Падбярэм! — потым перайшоў на злосны шэпт: — Можа, думаеш: вось вернуцца чырвоныя, нас усіх павесяць за тое, што на немца служылі, а вас па галоўцы пагладзяць?..— Грыцько, нібы гусак, выцягнуў шыю, чакаючы адказу. Адась маўчаў.— А можа, ты... партызан? — паліцай уеўся ў хлопца вачамі. Адась маўчаў.— Чаго маўчыш?.. Язык праглынуў?.. Ну, што ж... Падумай! — з пагрозай у голасе скончыў размову Грыцько і, крутнуўшыся, пайшоў да весніц. Ужо ідучы па другі бок загароды, ён яшчэ раз крыкнуў:

— Падумай!

Было аб чым падумаць Адасю. Бацькам так і не сказаў нічога. Навошта? Усё роўна ён не пойдзе ў паліцаі. Шмат іх там у Плешчаніцах сабралася — здраднікаў. І сумна

раптам стала Адасю: няўжо і ён падобны на аднаго з гэтых падлюгаў, калі гэты гад прапанаваў яму ўвабрацца ў іхнюю шкуру? Нездарма ж кажуць: бог шэльму меціць. Адась нават у люстэрка зазірнуў. Прыгледзеўся і падумаў: «А я і сапраўды ўжо не хлопчык. Хоць і не вельмі ў рост пайшоў, ды затое ў плячах шырокі. Як бацька кажа: малое дрэва ў корань расце. Так і я. У самы раз вінтоўку ў рукі браць і ў лес ісці». Адась даўно аб гэтым думаў, але цяпер, пасля размовы з Грыцьком, ён вырашыў гэта цвёрда. Трэба спяшацца. Сёння ён нагадае пра абяцанне, якое даў яму дзядзька Савелій.

— Не, хлопец. Пачакаць трэба. Не час яшчэ.

— А чаго чакаць? Да якой пары? Пакуль у паліцаі мяне не возьмуць? — і столькі крыўды і болю было ў голасе Адася, такая мальба ў вачах! Павекі яго задрыжалі, вось-вось расплачацца хлопец.

— А ты не кіпі, бо прастынеш... Не хацеў я табе гаварыць, ды прыйдзецца. Нельга зараз у лес... не паверацъ.

— Мне?! — аж ускочыў Адась, быццам пугай яго сцебанулі. З хвіліну ён дапытліва і з нейкім страхам глядзеў у вочы Савелію. Потым ціха спытаў: — Чаму?

— Не толькі табе,— сказаў і задумаўся Савелій. Потым злосна сплюнуў, сеў на лаўку.— Садзіся пагаворым.

Адась сеў побач.

— Бач, што немец прыдумаў: да партызан шпіёнаў засылаць.— Савелій зірнуў у вочы Адасю.— Зразумеў?

— Не зусім,— сказаў Адась, трошкі здагадваючыся, пра што рэч.

— Дык вось. Тыдзень назад заслалі двух у атрад. Там

прынялі іх. А самі правяраць пачалі. Ціха, без шуму, каб тыя абодва не ведалі.

— А як жа яны ў атрад дарогу знайшлі? — спытаў Адесь.

— Як знайшлі? Партызаны іх завялі. Бачаць: швэндаюцца двое па лесе. А партызаны ў гэты час на заданне ішлі. Спыніліся, пытаюць: хто ды што? «А мы, кажуць, з-пад расстрэлу ўцяклі. З Плешчаніц». Людзі на першы погляд надзейнымі здаліся. Дзіва што — з-пад расстрэлу ўцяклі! Каго ж прымаць у партызаны, як не такіх! Ну і прывялі іх у атрад. Як сваіх прынялі. Праходзіць некаторы час, а яны: «Родныя там у нас, у Плешчаніцах, засталіся. Наведаць бы іх. Ці не пазабівалі іх немцы?» Падумалі партызаны і вырашылі: няхай спярша адзін даведаецца пра жонку і дзяцей сваіх. А потым і другога адпусціць можна. Ды не проста адпусціць, а праверыць іх трэба. А потым, як жа не пусціш іх, калі адзін сказаў: «Я ведаю, дзе можна тол дастаць». У партызан узрыўчаткі — ні грама. Ну, вылучыў камандзір групу старых, надзейных партызан, на заданне пасылае. І аднаго навічка з імі. Строгі загад даў: вачэй з яго не спускаць. Пайшлі яны. Новенькі паказаў, дзе здраднік жыве, і сам жа забіў яго. І тол здабыў. Як не паверыш такому?

Ну і вырашылі партызаны: свой, надзейны, раз здрадніка забіў. І сачыць за ім перасталі. А ён толькі гэтага і чакаў. Вяртаюцца хлопцы ў лагер, а таго і не відно. Чакалі, чакалі — не дачакаліся. Ну, прыходзяць злосныя, камандзіру дакладваюць: так, маўляў, і гэтак. «Цішэй! — кажа камандзір.— Нікому ні слова пра гэта». І ўсё ж неяк пранюхаў другі, што сябар падвёў яго, уцячы хацеў. Шусь у кусты! Тут яго і сцапалі. Прызнаўся: «Немцы,—

кажа,— паслалі». А заданне ў іх такое было: увайсці ў давер і перадаць немцам, дзе размешчаны атрад, а потым навесці карнікаў.

Савелій устаў, падышоў да акна. Задумаўся.

— А потым што? — спытаў Адась.

— Расстралялі падлюгу. А праз тыдзень той, што ўцёк, прывёў карнікаў. Хацеў выслужыцца, гад. А ўсё ж не па-ягонаму выйшла. Прыйшлі немцы, а партызан і няма. Будуць чакаць яны забойцаў сваіх, як жа! Зняліся ў той самы дзень, калі здраднік уцёк, і пайшлі другое месца для лагера шукаць. Дык вось. Прыходзяць немцы — а партызан і след прастыў. Адзін, праўда, след пакінулі. Спецыяльна.

— Які?

— Смярдзючы труп шпіёна. Раззлаваліся немцы, і ледзь не да смерці адлупцавалі таго, другога, што прывёў іх. Во як! А ты, сынок, на партызан не крыўдуй. Сам бачыш, усялякія людзі ёсць. Ды і ты запамятай: казы трэба спераду баяцца, каня ззаду, а ліхога чалавека з усіх бакоў. Пачакай крыху. Я скажу пра цябе ў атрадзе: ёсць, маўляў, такі хлопец, што ў партызаны хоча. Тады і веры больш будзе. А так адразу нельга!

«Нельга дык нельга»,— думаў Адась, успамінаючы размову з Савеліем. І з тае пары ходзіць маўклівы, абыходзіць усіх, быццам утойвае нешта. І ўсё ў павеці ды ў бацькавай кузні корпаецца.

А праз некаторы час чутка пайшла: немец на міне падарваўся, нехта з Першым мая яго павіншаваў. Праўда, гэта адбылося не Першага мая, а крыху пазней. Ці ж гэта галоўнае? Усе расказвалі пра гэта першамайскае віншаванне. Па-рознаму расказвалі. А хатынскія дзеці па-

свойму. Хоць і дадалі, але затое іх расказ быў цікавейшы, чым у дарослых. Быццам па шашы ехалі немцы — пад самым Лагойскам гэта было — і на прасёлак павярнулі. Раптам бачаць: нешта чырванее наперадзе. Шафёр затармазіць паспеў: ледзь не наехаў на чырвоны сцяжок, уваткнуты ў зямлю пасярод дарогі. Афіцэр, што сядзеў у машыне, загадаў салдатам вырваць з зямлі сцяжок. Адзін немец саскочыў з машыны, падбег да сцяжка, учапіўся за яго ды яа-ак тузане! І тут яа-ак бабахне! Пад сцяжком, аказваецца, міна была. Ушчэнт таго немца разарвала. І машыну ўсю разнесла, а разам з ёю і ўсе дзесяць фрыцаў паляглі. Во як! І ніхто не сумняваўся ў тым, што гэта зрабілі партызаны.

Адась па-ранейшаму хадзіў ціхі і задуменны, бацьку ў кузні дапамагаў, а то і сам што-небудзь майстраваў. А калі працаваў, з сярэдзіны зачыняўся, не пускаў нікога. Але твар яго пасвятлеў. І калі дзеці расказвалі пра чырвоны сцяжок, ён здзіўлена слухаў. Няўжо гэта праўда? І сам не мог паверыць у тое, што здарылася. Не, Адась нікому не адкрыецца, нікому не скажа, што гэта ён замініраваў і першамайскі сцяжок над мінай паставіў. Праўду кажучы, загінула не дзесяць немцаў, а ўсяго толькі адзін. Ну дык і што! Ён жа толькі пачаў! Усё роўна яму цяпер ёсць з чым да партызан ісці. Цяпер яму павераць! Вось і карабін сабе майструе. Знайшоў у лесе, яшчэ калі нашы адступалі. Задумаў Адась абрэзаць ствол карабіна да прыцэльнай рамкі. З такога можна страляць на добрых дзвесце метраў! А галоўнае: пад рукой яго насіць можна, пад світкай. Вісіць — і не бачыць ніхто. Чуў Адась і тое, як партызаны немцаў «на пятлю» ловяць. Гэта ён і адзін можа зрабіць. Нацягнеш праз дарогу тонкі дрот,

каб яго не відаць было, наткнецца нямецкі матацыкл — вось табе і дарожная аварыя! Гэтак і без карабіна ваяваць можна. Хутка, хутка Адась пойдзе ў партызаны, і прыветным шумам сустрэнуць яго сосны.

## ВАЛЯНЦІНАЎСКІ БОЙ

У густых, забалочаных, непраходных лясах знайшлі сабе прытулак партызаны. Яны рабілі вылазкі і засады на дарогах, у вёсках, каля паліцэйскіх гарнізонаў, не давалі ворагу спакойна жыць і рабаваць сялян.

Партызанскіх груп на пачатку вайны было не шмат. Але ўжо тады наганяў на немцаў жах «дзядзя Вася», які заявіў пра сябе ў першую ваенную восень на Лагойшчыне. «Дзядзя Вася» — гэта партызанскі псеўданім маёра Чырвонай Арміі Варанянскага. Сабраўшы вакол сябе байцоў, якія трапілі ў акружэнне, і тутэйшых сялян, Варанянскі арганізаваў актыўную партызанскую групу. А потым злучыў некалькі такіх груп у адзін атрад і назваў яго «Мсцівец».

Немцы, захапіўшы Лагойшчыну, панатыкалі ўсюды валасці і паліцэйскія ўправы пры іх. Партызаны перш за ўсё пачалі знішчаць гэтыя асіныя гнёзды. Адзін за адным агромілі яны варожыя гарнізоны. Усё часцей пачалі з'яўляцца трупы немцаў і паліцаяў, падарваныя машыны. Усё часцей немцы арганізоўвалі карныя экспедыцыі на партызан, намагаючыся ачысціць лес ад «бандытаў». Цяжка стала партызанам. Яны зразумелі: трэба аб'ядноўвацца ў буйныя атрады і злучэнні. Такія атрады пачалі з'яўляцца ў першыя месяцы 1942 года, але яны пакуль што не

мелі адзінага кіраўніцтва. Дзеля гэтага і сабраліся на нараду партызаны Лагойскага раёна на паляне, якая знаходзілася за два кіламетры ад пасёлка Валянцінава.

...Лёкса ішоў лясной сцяжынкай. У гушчары, куды не паспела яшчэ зазірнуць сонца, было вільготна ад расы. За спіной хлопчыка матлялася торба, а ў ёй ляжаў рагач, які зрабіў каваль Яскевіч. Па яго просьбе і нясе Лёкса гэты рагач у Селішча цётцы Мар'і. Яе ўжо чыгуноў не трымае. За рагач Лёкса павінен прынесці кавалю плату, але якую — хлопчык і сам пакуль што не ведае.

Не адзін кіламетр пратупаў Лёкса. Жаваранкі заліваліся песнямі, калі ён выйшаў з лесу ў адкрытае поле і ўбачыў перад сабой вёсачку, якая патанала сярод соснаў і елак. Бязлюддзе і цішыня ў вёсцы не спалохалі Лёксу. Гэта стала звычайным для ваеннага часу. Лёкса падышоў да трэцяй хаты, ступіў на ганак і толькі хацеў узяцца за клямку, як раптам пачуў шум матораў. З лесу выпаўз нямецкі грузавік, за ім другі, трэці... Лёкса хуценька ўскочыў у сенцы.

— Немцы! — крыкнуў ён цётцы Мар'і.

Напалоханая Мар'я зашчапіла дзверы на крук. Не, на гэты раз немцы не пайшлі па хатах. Значыць, не рабаваць прыехалі. Стоўпіліся каля сваіх машын, неспакойна па баках азіраюцца. Але часцей галовы паварочваюць у бок пасёлка Валянцінава, што за суседнім лесам.

Нарада ўжо канчалася, калі начальнік разведкі атрада «Мсцівец» прымчаў на кані і паведаміў пра тое, што карнікі з мінамётамі на машынах прыехалі з Плешчаніц. Дзве калоны выгрузіліся ў Валянцінаве, трэцяя спынілася ў Селішчы. І ўжо частка карнікаў з Валянцінава ідзе да паляны, дзе адбывалася нарада.

Суровымі сталі твары камандзіраў.

— Дазналіся, гады! — сказаў нехта.

Трэба было прымаць нейкае рашэнне. Наперадзе быў лес, а за ім нямецкі гарнізон. Ззаду — рака Ілія. Адыходзіць няма куды. Трэба прарывацца. Рашылі не выдаваць сябе да апошняй хвіліны, а потым даць бой.

Па загаду «дзядзі Васі» партызаны занялі абарону. Неўзабаве разведка паведаміла, што немцы акружылі лес. Гэта былі эсэсаўцы, што выгрузіліся ў Валянцінаве. Яны ішлі, хаваючыся за сосны і прыгінаючыся да зямлі, з ручнымі кулямётамі і аўтаматамі. Партызаны чакалі сігналу камандзіра. Чаго ён марудзіць?.. А немцы ідуць рэдкім ланцужком усё бліжэй, бліжэй...

І раптам цішыню ліпеньскай раніцы прарэзала кулямётная чарга. Гэта «дзядзя Вася» даў сігнал адкрыць агонь. Быццам неба абвалілася — так загрукацела, заскрыгатала наўкол. Эсэсаўцы не чакалі такога моцнага залпа. Шквал агню, мусіць, паўтары гадзіны не даваў апамятацца гітлераўцам. Адну за другой пасылалі яны ў паветра ракеты, просячы дапамогі. І тады трэцяя калона выйшла з Селішча.

Лёксу страшна аднаму ў хаце: цётка Мар'я палезла ў падпамосце адразу ж, як толькі пачулася першая кулямётная чарга. І ўсё ж, ён не мог адысці ад акна. Лёкса бачыў, як эсэсаўцы, трымаючы напагатове аўтаматы, ланцужком пайшлі да лесу. Ад выбухаў калацілася зямля. І раптам недзе зусім побач бухнула так, што хата падскочыла, зазвінела разбітая шыба, бразнулі пустыя вёдры, каромысла, загрукацеўшы, зляцела з цвіка.

Тут Лёкса не вытрымаў і таксама палез у падпамосце да цёткі Мар'і.

Але і падмацаванне не дапамагло карнікам. Добра іх памалаціўшы, партызаны перайшлі ўброд раку Ілію і адышлі да Рудні.

Калі заходзіла сонца, сяляне бачылі, як немцы грузілі трупы сваіх салдат і на машынах адвозілі з поля бою. Сярод забітых партызан не было. І сяляне з палёгкай уздыхнулі: у кожнага з іх былі ў партызанах родныя ці знаёмыя.

Цётка Мар'я не пусціла Лёксу ў Хатынь. А на другі дзень ён і сам не спяшаўся ісці. Разам з Юзікам і другімі хлопчыкамі пайшоў у лес па венікі, а за адным разам і па трафеі, якія заўсёды заставаліся пасля бою.

## ТЭКЛІНА КУРЫЦА

Усё часцей пачалі наведваць Хатынь партызаны. І калі яны прыходзілі ў Лёксаву хату, бацька тут жа выправаджваў Лёксу, быццам на двор пагуляць. А на самай справе той павінен быўназіраць: каб хто чужы не зайшоў. Але каго-каго, а Тэклю перахітрыць цяжка. Тэкля ўсё ведала, што ў Хатыні робіцца. І, вядома ж, ні есці, ні спаць не магла, калі першай не даведаецца, што ў Адэлінай хаце робіцца. І гэты раз, заўважыўшы двух мужчын, апранутых у сялянскае, якія ўвайшлі ў хату суседкі, яна прыліпла носам да шкла маленькага акенца, зацененага высокімі кустамі вяргінь з жоўтымі і бардовымі шарыкамі бутонаў, і не спускала вачэй з Адэліных дзвярэй. Адэля сенцы не зачыніла, і дзверы заставаліся наросхрыст. Глядзіць Тэкля, глядзіць, баючыся галаву павярнуць, каб не прапусціць чаго. Раптам бачыць: кудлатка, яе белая нясушка, у Адэліны сенцы пашкандыбала.

— А каб цябе пярун забіў! — зазлавала на курыцу Тэкля.— Дык вось дзе ты нясешся! Да чужых панадзілася! Дзіва што яек у гняздзе меней стала. Я табе! — і забыўшы пра ўсё на свеце, Тэкля выскачыла з хаты і пачала клікаць кудлатку: — Пыль-пыль-пыль! Як зерне дзяўбці, дык да мяне, а яйкі несці — дык да чужых!.. Пыль-пыль-пыль!

Курыца даверліва падбегла да Тэклі, а тая, расставіўшы рукі, як тая квактуха крылы, пачала лавіць няўдзячную. Злавіць не злавіла, але ў свой хлеў загнала.

Лёкса, сочачы за палётам ластавак, што нізка кружыліся над вёскай, не заўважыў, як Тэкля пралезла праз дзірку ў загародзе, пракралася ў сенцы, паднялася па лесвіцы на гарышча і цераз некалькі хвілін вярнулася, трымаючы рукой прыпол, паўнюсенькі яек. Неўзабаве і Адэля палезла на гарышча, каб спячы яечню лясным гасцям. Але ўбачыла пустое гняздо, а пад лесвіцай насыпаную з гарышча пацяруху.

— Лёкса-а-а! — выйшла Адэля на ганак.—Гэта ты на гарышча лазіў?

Не, не лазіў Лёкса на гарышча. Устрывожаная Адэля не ведала, што і падумаць.

Усё ж убачыла Тэкля, як позна вечарам выходзілі тыя двое з Адэлінай хаты, несучы цяжкі мех. «Дык вось для каго Васіль усю ноч жорны круціў! Партызаны!» — сцяміла Тэкля. Аніякага ліха не жадала Тэкля ні партызанам, ні Адэлі. А проста крыўдна ёй было, калі ад яе што-небудзь утойвалі.

На другі дзень, калі кудлатка зноў з кудахтаннем пабегла ў Адэліны сенцы, Тэкля з лямантам выбегла на двор:

— А каб цябе халера ўзяла! Во суседачка ў мяне! Гэта ты свайго сыночка падвучыла курыцу маю прынадзіць на гарышча?! Якая матка, такое і цялятка! Каб вас так чэрві елі, як вы мае яечкі паелі! Каб вам пуза паразрывала! Трасца вам у бок!

— І не сорамна табе абы-што казаць? А яшчэ старая кабета! — толькі і сказала Адэля. І пайшла ў хату, моцна бразнуўшы дзвярамі.

Тэкля — бабка звяглівая. Калі на гарышча лазіла, то, можа, і партызан падгледзела. Лепш змаўчаць і не чапаць яе. Але пра партызан Тэкля ні слова не сказала. Мабыць, на другі раз пакінула.

А Лёкса ледзь не расплакаўся ад крыўды.

— Мама, чаму яна такая?

— Хто, сынок?

— Тэкля.

— Не слухай ты яе, дзіцятка. Дурня хоць у ступе таўчы, усё адно. Вось ляпнула — і ўсё. Не ад злосці гэта яна. Каб большай бяды не было.

## ГОРА САМАГОНКАЙ НЕ ЗАЛЬЕШ

Хатынцы кінуліся ў паніку. Немец лютаваць пачаў — жывёлу забірае, вёскі паліць, а людзей забівае ці ў агонь жывых кідае.

Калі Лёкса падыходзіў да сваёй хаты, то пачуў, што ў ёй нехта галосіць. Сэрца ў хлопчыка сціснулася ад прадчування бяды. Ён асцярожна ступіў на ганак, адчыніў дзверы і яшчэ з сенцаў пачуў голас цёткі Полі:

— І навошта ім было ў хаце сядзець! Хай бы ў кусты

пахаваліся, родненькія вы мае! Лес недалёка! А дачушка мая Манечка! А ўнучачкі мае гаротныя! Гэта ж такую смерць прыняць, у агні гарэць... Ой, мучыліся, бедныя... Ой, мучыліся, родненькія вы мае!..— галасіла цётка Поля.

Лёкса ціха адчыніў дзверы ў хату, непрыкметна праслізнуў каля сцяны і палез на печку. Там, прыціснуўшыся адно да аднаго, сядзелі напалоханыя Іванка і Зося. Убачылі брата, узрадаваліся.

Лёкса даў знак, каб маўчалі, а сам пачаў назіраць за тым, што рабілася ўнізе.

У святле, што падала на стол ад газоўкі, ён убачыў бутэльку з напалову выпітай самагонкай, тры шклянкі, надламаны праснак, бульбу ў мундзірах, гарлач. Лёкса пракаўтнуў сліну — цэлы дзень нічога не еў. Але цярпеў і слухаў, пра што гаварылі ў хаце.

— Самі вінаватыя,— сказала бабка Тэкля, выціраючы вочы ражком завязанай пад падбародкам хусткі.

— Дурное ты пляцеш, Тэкля!..— запярэчыла Адэля.

— Ой, заступніца ты мая родная! Няма маёй дачушачкі, няма маіх ясачак, унучачак яснавоканькіх! — галасіла цётка Поля.

— Дабро не хацелі пакідаць,— таўкла сваё, смаркаючыся, Тэкля.

— Што ты мелеш! Каб ведалі, дык паўцякалі б! Ніхто не думаў, што давядзецца паміраць! — узлавалася Адэля.

— Дабро не паспелі закапаць... Цяпер іх саміх у зямельку закапалі...— стагнала цётка Поля.

— Выпі, Полечка, выпі, родная... Гора самагонкай не зальеш, ■ сэрцу, можа, палягчэе... Можа, і нас заўтра...— не дагаварыўшы, Адэля раптам зарыдала, закрыўшы твар

далонямі.— Праўду кажа Тэкля. Згары яно ў агні, дабро гэтае! Выжыць бы!.. А дабро нажывецца.

— А-а-а!.. Вось бачыш? Во [redacted] ў цябе і пытаюся: чаму другія ў кустах пахаваліся? Га?.. А чаму яны...

— Хопіць табе языком малоць! — зноў накінулася на Тэклю расчырванелая ад слёз Адэля.

— Я не мялю, не. А праз сваё дабро загінула Манька. І ўнучачак праз яе папалілі,— стаяла на сваім Тэкля.

— Ой, дзетачкі вы мае! Ой, жавараначкі вы гаротныя! — гаравала цётка Поля.

— Праз Сцяпана ўсё,— не сунімалася Тэкля.— Таму што партызанам жыта малоў.

— Пры чым тут Сцяпан? Царства яму нябеснае...— перахрысцілася Адэля.— Ты што, не бачыш, што для гэтых звяроў Сцяпан ды Іван — толькі зачэпка? Ім абы ўсіх нас перадушыць! Яны за людзей нас не лічаць! Нават дзяцей малых не шкадуюць! А Ганка, мельнікава дачка, тут пры чым?

— Дык яна ж яму памагала! Кажуць людзі — удзень сялянам муку малола, а ўначы — партызанам.

— А жонка тут пры чым? А Манька Поліна з дзецьмі? А ўсе іншыя, каго яны папалілі? Га?.. Эх, Тэкля, Тэкля! І галава ў цябе сівая, а розуму...— Адэля безнадзейна махнула рукой.

— У маёй галаве розуму больш, чым у вашых! — раз'юшылася раптам Тэкля.— Каб і нас не папалілі! Партызаны да нас ходзяць? Ходзяць! Поім, кормім, пасцельку сцелем! А ці заступяцца за нас, калі немец прыйдзе?

— А чаму ж не? Заступіліся ж... Заўчора, казалі, абоз у паліцаяў адбілі і ўсё дабро назад сялянам вярнулі,— задуменна сказала Адэля.

3 Зак. 3864

Ціха стала ў хаце. Толькі цвыркун за печкай нястомна выводзіў сваю песню.

— Стася Міхалініна ў Хатыню прыходзіла,— раптам прыгадала Тэкля.— Усё плакала, бедная: няма, кажа, жыцця ў мяне з Казікам. Як пайшоў немцу служыць, як стаў бобікам, дык бяды ўвесь час і чакае. Ночы не сплю, кажа, баюся. Няма, кажа, мне шчасця.

— Адкуль тому шчасцю быць? — ухапілася за гэта Адэля, каб гора цёткі Полі развеяць, нагадаць, што і другім не салодка жывецца.— Адкуль жа быць яму, калі муж не чалавек, а звер! Супраць сваіх пайшоў! Каб немец быў, а то ж свой!

— Свой, Адэлька, свой! Каб такім сваім у пекле вечным агнём гарэць! — узлавалася Тэкля.— З таго часу, як яго з Хатыні выгналі, нідзе яму спакою не даюць. Запраданец, кажуць, і ўсё тут.

Тут Лёкса незнарок зачапіў нагой плецены кош на печы і гэтым выдаў сябе. Адэля накінулася на яго:

— Дзе цябе чэрці носяць! Шкуру з цябе спушчу! Пабегаеш ты ў мяне! Рудню немец спаліў, людзей замучыў, у агонь пакідаў. Я табе пахаджу! Вунь Петрусёў Мішка з Янушкавіч як пайшоў у Рудню, так і не прыйшоў. І яго спалілі! І ты хочаш без пары на той свет? Гора ты маё! І Сцяпан недзе швэндаецца! Ногі пазбівала, вас шукаючы...

Адэля расплакалася і доўга не магла супакоіцца. Цётка Поля пайшла, а Тэкля ўсё сядзела і пад'юджвала: вось, маўляў, якія неслухі дзеці пайшлі — вайна іх папсавала, раней часу матку ў магілу заганяць.

Скончылася тым, што Адэля шкуру з Лёксы не спусціла, як абяцала, а толькі штаны. Біць Лёксу сама яна не

стала з тае прычыны, што «пашкодзіць» баялася. А раптам, калі адлупцуе, дык і памрэ Лёкса без пары? Лёкса ведаў матчыну слабінку і часам карыстаўся гэтым. Але цяпер яму не пашанцавала. Адэля так плакала, што немец Рудню спаліў, і так бедавала, што ў яе бессардэчныя дзеці, што Тэкля зжалілася над ёю і па Адэлінай просьбе з вялікім стараннем адсцябала Лёксу лазінаю, ніколечкі не баючыся яго «пашкодзіць». А Лёксу здавалася, што Тэкля за кожным разам выкладвала сваю крыўду, што сабралася ў яе за ўсё жыццё. І за тое, зразумела, што Лёкса ў сад яе лазіў і вішні рваў, і за тое, што курыцу на гарышча прынадзіў (хоць Лёкса і не рабіў гэтага), за комін, які яшчэ да вайны ў ноч на Купалле шклом закрыў, ды ці мала яшчэ за якія крыўды, якія ўчынілі ёй не толькі Лёкса, але і іншыя дзеці.

Калі Тэкля пайшла, Адэля падала на печ Лёксу, які яшчэ ўсхліпваў, кварту з малаком і лусту хлеба.

— На, еш, валацуга ты,— сказала яна, душачыся слязьмі ад жалю да сына.

## БЯДА

Ужо і луг пакасілі, і сена звезлі, і жыта зжалі хатынцы. Адзін Пучок пазней за ўсіх сваю палоску дажынае: прыхварэў крыху. Жне сярпом, па-жаночаму. Жне, сагнуўшыся ў тры пагібелі, церпіць боль у паясніцы. Час ад часу разгінаецца, выпроствае натруджаную сярэдзіну і бурчыць:

— Ні табе трактара, ні табе камбайна. Во час настаў. Цьфу! Каб ты праваліласся, жызня такая. Быццам пры па-

нах жывём. Не, каб усе разам ды з песнямі. А то як пры Тышкевічах. Падзялілі зямельку, пакрамсалі — і капайся ў ёй, бы той жук у гнаі. Многа так не накапаеш. Магілу толькі сабе і выкапаеш.

І прыгадаў Пучок сенакос перад самай вайной. Весела было тады! А людзей, людзей! Жанкі ў стракатых хустках, мільгаюць у іх руках граблі, бліскаючы на сонцы адпаліраванымі чаранкамі, жаўранкі над галавой вісяць і спяваюць свае нястомныя песні. Калі-нікалі жаночы голас завядзе песню — высока і звонка, ды так жаласліва, быццам галосіць па кім. Тады і жаўранкаў не чуваць, быццам таксама прыціхлі і слухаюць... А змоўкне песня — зноў ад кос чуецца: ужжых!.. ужжых!..

І падае скошаная трава разам з белымі рамонкамі, фіялетавым асотам, з васількамі і зязюльчынымі слёзкамі. І чамусьці не шкада іх. А весела! Весела ад водару, што ліецца ад кветак на лузе, ад скошанай і падсохлай за ноч травы, ад паху смалы, што ішоў ад недалёкага лесу, ад блакітнага неба з застылымі, быццам намаляванымі, аблокамі. Весела таму, што так многа людзей і вясёлкавых колераў! А ў канцы лугу нехта цюкае малатком: кляпае касу. Касцы, выстраіўшыся роўнымі радамі, крок за крокам пасоўваюцца наперад, пакідаючы пасля сябе шырокія пракосы.

Вось так і касілі мужчыны, адпачываючы пасля кожнага прагону. Дойдуць да канца лугу і вяртаюцца назад, пачынаюць новы пракос. І так да абеду. А на другой палове лугу гаманілі жанкі. Зграбалі прасохлае сена ў копы, потым ставілі стагі. Падчэпяць віламі з капы вялізнае бярэмя і кідаюць на стог, які ўсё расце і расце. А дзяўчаты нагамі сена топчуць і граблямі наўкол прыгладжваюць.

А калі стог вырастаў так, што не было сілы закідваць сена наверх, на падмогу спяшаліся мужчыны. Верх стога ўсё звужаўся, звужаўся, і, нарэшце, ён вырастаў такі вялізны, увянчаны яловай жэрдкай, што любата было глянуць.

А потым — абед у цяньку пад соснамі! Халоднае малако, схаванае ад сонца пад густымі галінамі старой замшэлай елкі, добра праганяе смагу. Улягуцца касцы на зямлі — і салодкая стома разальецца па ўсім целе, лашчачы натруджаныя мускулы, а лёгкі ветрык наганяе дрымоту. І так прыемна было!..

А цяпер... Пабурчыць, пабурчыць Пучок і зноў за работу бярэцца. А наўкол зжатыя ніўкі ляжаць. І голае поле, падзеленае межамі, выглядае панура, сіратліва. Толькі адна нязжатая палоска Пучка светлай выспачкай і жаўцее. Крумкачы над пожняй лятаюць з карканнем: мабыць, гняздо з птушаняткамі пад серп каму-небудзь трапіла, вось і кружацца драпежнікі, знюхаўшы здабычу.

— Ужжых! — разануў па залацістых сцяблінах Пучок. Бразнула жалеза: аб камень серп зачапіўся. Падняў камень Пучок, адкінуў яго — і быццам вецер прайшоў па нязжатым жыце: каласавічок з яго выскачыў і наўцёкі! Бяжыць заяц у бок лесу, пятляе, каб сляды свае заблытаць.

— Бач ты яго! І хату, і стол знайшоў у маім хлебе. Дармаед!.. Ату яго! Ату-у-у! — закрычаў Пучок наўздагон перапалоханаму зайцу.

І зноў схіліўся над жнівом Пучок. Раптам чуе: галосіць нехта. Ці не Адэлін голас? Кінуў серп на ржышча. Прыслухаўся. Цяпер ужо не толькі жаночае галашэнне даля-

тала ў Хатыні да яго палоскі. Моцна, наўзрыд галасілі дзеці.

— Што там у іх? Мо бяда якая? — сказаў уголас Пучок.

Павярнуўся да вёскі, пачаў углядацца, быццам за дрэвамі і ўбачыў бы нешта. Але вось галасы пачалі сціхаць, а праз некалькі хвілін усё ўляглося.

— Можа, так што? Хлапчук дзе ўлез, выцяўся? — рашыў Пучок і падняў з іржышча серп.

Дажаў Пучок сваю палоску, калі ўжо садзілася сонца. Прыйшоў ён да Савелія каня прасіць, каб снапы дахаты прывезці. І пачуў навіну — паліцаі ў Лёксы карову забралі.

Каб Лёкса ведаў, што такое здарыцца, дык ці ж палез бы ён па арэхі! А пакуль Лёкса арэхі рваў, Ляля залезла ў маліннік і крок за крокам, паскубваючы траву, выйшла на гасцінец. І толькі калі пачуў Лёкса рыканне, саскочыў з дрэва і што было сілы памчаўся, ломячы кусты маліны, абдзіраючы да крыві ногі. Але было позна. Ляля, іх карміліца, прывязаная да драбін, на якіх ехалі паліцаі, ішла, упіраючыся, і ўсё намагалася забадануць паліцая, што крочыў побач з дубцом у руцэ. Ён падганяў карову:

— Пшла, касатка! Пшла! Каму кажу!.. Ну!..

Лёкса выскачыў на дарогу і кінуўся да каровы.

— Дзядзечкі! Аддайце карову! Гэта мая карова! — са слязьмі пачаў прасіць Лёкса, учапіўшыся рукамі за вяроўку, якой Лялін рогі былі прывязаны да драбін.

— На лобе ў яе не напісана, што твая! Прэч адсюль, пакуль цэлы, шчанюк!.. А можа, ты партызан? — крыкнуў барадач з драбін.

І Лёкса пазнаў таго самага паліцая, што падгаворваў хатынскіх мужчын ісці служыць да немцаў. Гэта быў Грыцько.

— Партызан! Партызан! — дружна падхапілі астатнія і зарагаталі.

— Марш адсюль, пакуль цябе не гэта самае...— сказаў барадач і зрабіў выразны жэст, быццам страляе ў Лёксу.

— Цікай, хлопча! Більшай біды б не було! Гэты застрэліць можа! — шапнуў Лёксе той, што падганяў дубцом карову.

Прасіць і спрачацца было дарэмна. Усхліпваючы і размазваючы слёзы па шчоках, Лёкса павярнуўся і пайшоў назад. Але не паспеў ён адысці і пяці метраў, як за яго спіной застракатала аўтаматная чарга. Барадач страляў у паветра, але Лёкса гэтага не ведаў. Ён кінуўся бегчы, не гледзячы пад ногі, і раптам ускрыкнуў, прысеў ад болю: аб востры сук прапароў пятку. Цяпер не толькі што бегчы, ісці Лёкса не мог. Заплакаўшы ад крыўды і болю, Лёкса зламаў арэшыну і, абапіраючыся на яе, паскакаў на адной назе ў бок Хатыні.

Быццам громам аглушыла Адэлю страшная навіна. Кінуўшы ўсё, нават рук не выцершы ад цеста, якое замешвала для праснакоў, пабегла туды, дзе Лёкса пасвіў карову. Даўно так не бегала Адэля: мо толькі ў юнацтве. Яна бегла напрасткі, прадзіраючыся праз густы ельнік, абдзіраючы твар і рукі. Пад нагамі звонка трашчаў сухі буралом, слёзы засцілалі вочы, а ў горле стаяў горкі камяк, які Адэля намагалася праглынуць, і ўсё ніяк не магла.

— Ляля-а-а-а!..

Лес падхапіў крык і адгукнуўся стогалосым рэхам недзе ўдалечыні. Крычала Адэля і сама не пазнавала свайго голасу. Ён быў сіплы, пераходзіў у скавытанне і раптам абрываўся: ад бегу і хвалявання не хапала паветра. Адэля задыхалася, але ўсё крычала, крычала, клікала сваю Лялю, сваю карміліцу. А Ляля не адгукалася. Лес стаяў маўклівы. Толькі цяжкае дыханне і глухія ўдары ўласнага сэрца гулка аддаваліся ў Адэліных вушах. Слёзы душылі яе. І калі яна зразумела, што Лялю ўжо не вернеш, павалілася на калені, загаласіла.

Не памятала Адэля, як даплялася дамоў. А ў хаце ціха, пуста, сіратліва, быццам толькі што нябожчыка на могілкі аднеслі. Адэля зноў заплакала ціха, быццам заскавытала. А як убачыла Лёксу, накінулася на яго:

— Чаго ты Лялю туды павёў, неслух?! Каму казала: туды не хадзі, за старой лазняй пасі!.. Арэхаў яму закарцела! Па свеце ўсіх нас пусціў! — Адэля задыхалася ад злосці і слёз.— Вось на табе арэхаў! На!.. На!.. Во табе!.. Во!..

Адэлю, заўсёды стрыманую, ціхую Адэлю, быццам падмянілі. Куды падзелася яе забабоннасць! З гора і адчаю яна моцна адлупцавала Лёксу. Біла чым папала — качаргой, паленам: што пад руку трапляла. Плакаў Лёкса ад болю і крыўды. Плакалі Іванка і Зося ад жалю і страху за брата. А потым увесь дзень прасядзела Адэля ля сына, які ляжаў на ложку. І ўсё думала, думала, думала... Усхліпвалі малодшыя дзеці, цэлы дзень някормленыя: не да іх было Адэлі. Яны паглядалі на маці, але есці не прасілі: баяліся падысці, баяліся паклікаць — яшчэ ніколі не бачылі яе такой. Потым нехта з суседзяў адвёў іх да сябе. А Адэля ўсё думала, думала... Дагараў агонь на

камінку. Ціха патрэсквала ўжо пачарнелая драўніна. І ці то задрамала Адэля, ці то на памяць прыйшло, але так ясна паўстаў перад ёй кавалачак яе далёкага маленства, што не бачыла, як патух камінок, не чула, як шкрабецца пад прыпечкам мыш.

...Гарыць на прыпечку лучына. Маленькая Адэля ляжыць хворая: пакусаў яе панскі сабака, як вішаньку сарвала, што звісала цераз плот. Маці тады батрачыла: зямелькі сваёй не было. І даводзілася ёй Адэльку з сабой на панскі двор браць — не было з кім яе ў хаце пакінуць. І вось ляжыць Адэлька пакусаная. Маці над ёй нахілілася, у слязах уся, і спявае ёй песню. Ціхую, пяшчотную, сумную да слёз. А песня гэта пра ўдалага малайца, якога чакае і ніяк не можа дачакацца маладзіца. Яе любы паехаў за высокія горы, за шырокія долы, за сіняе мора, каб долю шчаслівую знайсці і прывезці яе, гэту долю, сваёй ненагляднай, якая ў няшчасці жыве. Доўга бадзяўся па белым свеце добры маладзец, з рознымі людзьмі, такімі ж, як і ён, гора зазнаваў, але долі шчаслівай так і не знайшоў. Чым канчалася сумная песня, Адэля так ніколі і не пачула: яна засынала раней, чым маці канчала спяваць...

І не заўважыла Адэля, як сама паціху напяваць пачала. Зарыпеў драўляны ложак, на якім ляжаў Лёкса. Ачнулася Адэля, прыслухалася: не, не кліча яе сын, спіць, мусіць. Намагаецца яна адагнаць сумныя думкі, але нічога не можа з сабой зрабіць. І што толькі не лезе ў галаву! Вось і маці яе баялася, што памрэ Адэлька, сабакам пакусаная. Ад адной толькі думкі, што яна «пашкодзіла» Лёксу, Адэля млела, халадзела ўся. Яе апанаваў страх за сына: каб жа з ім нічога не здарылася, каб жа бог не

адняў яго ў яе за тое, што пабіла. І хустку сваю прыгадала Адэля, што немец яшчэ ў першы год вайны пастраляў. Усё адно да аднаго. Бяды не мінуць. Гаравала Адэля. І за што яе бог так карае? А ці ж яе адну? І пачала яна ўспамінаць пра чужую бяду-гора. І палягчэла крыху. Не, нельга напускаць на сябе такі адчай. Дзеля дзяцей сябе пaберагчы трэба. Вось і Зоська расце, Іванка і Сцёпка, старэйшы сынок. Васіль гаспадар добры, клапоціцца аб ёй, аб дзецях. Каб не ён, дык хоць кладзіся ды памірай: не ўхадзілася б з гаспадаркай. Вунь як Папковічыха, жонка калгаснага старшыні, з дзецьмі пакутуе. Пайшоў муж на фронт, а ёй хоць разарвіся. І тое трэба, і таго няма... Ці ж гэта жыццё? Не, што і казаць, не так ужо і кепска ёй, Адэлі. Вось толькі што здароўе ўжо не тое. І пастарэла заўчасна за апошнія два гады. Голас ужо не той, не звініць, як раней, і маршчыны каля вачэй заляглі. А куточкі вуснаў зусім долу апусціліся, праклаўшы дзве журботныя складкі. Слязлівай і нервовай стала. Пастаянная нястача і страх зжыліся з яе сэрцам, у вачах затаіўся нейкі спалох. Яна ўздрыгвала ад кожнага шоргату ўначы, а днём палахліва азіралася, калі хто клікаў яе. Маўклівай стала. Ды і не толькі дарослыя, дзеці і тыя здзічэлі, слова не выцягнеш з іх. А калі і давяралі свае таямніцы, дык толькі самым надзейным таварышам. І дзіцячыя душы калечыла вайна. Пасяліла ў іх страх і недавер да дарослых, да ўсяго. Што і казаць! Рабіла сваю чорную справу вайна.

— Што ў пацёмках сядзіце?

Гэта Карабан. Пачуўшы пра чужую бяду, прыйшоў свайго юнага сябра праведаць, Адэлю суцешыць. На камінку тлеў агонь. Адэля сядзела на лаўцы ў кутку, за-

думенна гледзячы перад сабой. Толькі твар яе бледнай плямай высвечваўся ў прыцемках. Калі ў хату ўвайшоў Карабан, устала з лаўкі, падкінула цурак у камінок. Агонь успыхнуў, асвяціў хату. Карабан паставіў на стол збан мёду, прысеў. У хаце панавала панурая цішыня.

— Спіць?

— Спіць,— паўшэптам адказала Адэля, выціраючы далоняй слёзы, што ўсё цяклі з вачэй. Бачыць Карабан: ёй і самой шкада сына, дараваць сабе не можа.

Пасядзелі моўчкі.

— Яно так...— няпэўна сказаў Карабан, пацмокаў пагаслую люльку, высыпаў пад ногі попел, тытунём люльку набіў. Паднёс няспешна трут, прыкурыў.

— Яно так...— зацягваючыся, зноў парушыў маўчанне.— Калі цягнуць апошнюю карову — бяда... Але хлопца да смерці забіваць... праз скаціну... Цьфу! — злосна сплюнуў Карабан.— Значыць так: фашыст над намі здзекуецца, а мы адзін аднаго забіваць пачнем, дзетак сваіх калечыць. Гэта не тое нешта... не так трэба...

— Эх, дзядзька! — пачуўся з печы голас гаспадара.— Паслухай, што Пучок гаворыць: «І напаю, і накармлю, і спаць пакладу, калі хто прыйдзе, толькі хай каровы мае не чапае». Без каровы хоць у пятлю лезь. Што есці будзем? — Васіль ледзь не плакаў. Ён некалькі дзён быў у Барысаве на заробках, хату будаваў. А вярнуўся — бяда яго чакала ў Хатыні.

— Калі будзеш на печы сядзець, дык не толькі карову праседзіш. Не плакаць, а справу рабіць трэба. Ці мо так і будзем, рукі склаўшы, смерці сваёй чакаць? Карова — гэта палітычная справа. Што праўда, то праўда. Але ж і нас з каровамі разам пагнаць могуць.

— А што загадаеш рабіць? — ускінуўся раптам Васіль.

— А я нічога не загадваю. Камандзіры на тое ёсць, каб загадваць. А які з мяне камандзір?.. Ды не пра тое я... А што, вось так і будзем чакаць, пакуль нас усіх супастат не пазабівае ды ў сваіх хатах не спаліць?..

Зноў стала ціха. Голас старога чамусьці заўсёды рабіўся суровы, калі ён гаварыў з Васілём.

— Загадкі гаворыш, дзядзька,— ціха сказаў Васіль.

— Не загадкі гэта. Стары я. Каму патрэбен? Якая з мяне карысць? Адна марока. Век свой дажываю. Дзетак мне шкада! Лёксу твайго. Куды глядзяць мужыкі? Чаму ў лес не ідуць? — узлаваўся дзед Карабан.

— Усіх нас папаляць, калі ў лес пойдуць! — умяшалася раптам Адэля.

— У цябе, Адэля, бабскі розум. Знайшлася заступніца,— адрэзаў Карабан.

— Ну і партызаны не заступнікі! Бог за нас заступіцца! Не пойдзе Васіль у лес! Не пушчу! — заявіла Адэля.— Не ўправіцца мне без яго!

— Куды ўжо ў лес! І без нас хоць адбаўляй! А дзетак карміць хто будзе? Можа, і вайне той хутка канец...— узрадаваўся Васіль жончынай падтрымцы.

— Убаку думаеш адседзецца... Яно, такое...— узрушыўся дзед,— на здраду падобна! Вось! — выпаліў Карабан і сам сваіх слоў напалохаўся.

Васіля быццам з печкі падкінула. Ён стаў перад Карабанам — увесь чырвоны, са сціснутымі кулакамі.

— Ты што?! Звар'яцеў? Я ў паліцаях не служу!

— Дык і што, што не служыш! Але і ў партызаны не ідзеш! Абыякавы ты! А абыякавы горш за ворага! Калі

вораг, дык ведаеш, што ён вораг — забіць можа. А абыякавы? На ягоных вачах забіваюць, а ён маўчыць! Значыцца, згоду сваю на тое моўчкі дае!..

— Які ты, дзядзька...— адмахнуўся Васіль, крыху апамятаўшыся, і зноў палез на печ.

Ніхто не чуў, як у сенцах бразнула клямка. У хату нехта ўвайшоў. Гэта Тэкля. Яшчэ за дзвярамі падслухала яна ўсю гаворку, прыклаўшы вуха да шчыліны. І не паспела пераступіць парог, як заявіла:

— А што? Ці ж мы не памагаем партызанам? І самі таго не ядзім, не п'ём, што ім аддаём! А нядаўна Яскевіч штыкі для іх вінтовак вастрыў!

— Ну і язык у цябе! Круціцца, што сарока на калу! — паківаў галавой Васіль.

— Сам ты сарока! Сваімі вачамі бачыла! — не здавалася Тэкля.

— Так, распусціла ты язык,— задуменна сказаў Карабан і, выразна зірнуўшы на Тэклю, пастукаў костачкамі пальцаў па стале.— І сцены вушы маюць. Чаго раскудахталася? Бачыла — маўчы! Навошта чалавека і ўсю Хатыню падводзіш? Вунь Куксу за тое, што партызанам муку малоў, немец разам з Рудняй спаліў!

— Праз такіх, як ты! Разнесла такая сарока — і ўсім капут! — падтрымаў Карабана Васіль.

— Не прадацелька я! Я ж не сказала, што і ты партызанам муку малоў! Мы іх і кормім, мы іх і поім, а як што — дык самі ў кусты бягуць! А нам сваёй галавой расплочвайся! І нас праз іх папаляць! Папомніце маё слова!

— Маўчы, дурніца! Накаркаеш! — не вытрымала Адэля. І перахрысцілася, сплюнуўшы тры разы.

— А-а, што з вамі гаварыць! Граматныя дужа! Адна Тэкля дурная, па-вашаму!

Махнуўшы рукою, Тэкля, раззлаваная, выскачыла за дзверы. І чутно было, як ужо на вуліцы яна ўсё крычала, ніяк не супакойваючыся:

— Разумныя якія! Адна я дурніца! Каб вам бог розум уставіў!

Заварушыўся Лёкса за шафай. Адэля кінулася да сына за квяцістую шырму.

— Што, сынок?

— Піць...

Адэля дакранулася да сынавага лба — гарачы. Маці схадзіла ў сенцы па ваду, прыўзняла Лёксаву галаву з падушкі, дала яму піць.

— Нічога, хлопчык, да вяселля загаіцца. Нутро маладое, моцнае. Хутка будзем з табой новыя вуллі пчолкам ставіць. Старыя ўжо спарахнелі,— ласкава сказаў Карабан і, цяжка ўздыхнуўшы, падняўся на ногі, пайшоў да парога і, ужо стоячы ў дзвярах, сказаў:

— Ты на мяне не злуй, Васіль. Толькі праўда мая. А калі надумаеш, мне скажы. Падсаблю... Абы-каго не бяруць. Ёсць там людзі ў мяне.

І пайшоў Карабан, асцярожна, без груку зачыніўшы за сабой дзверы.

— Ідзі ж, правядзі старога...— кінула на печ Адэля.

Васіль злез, накінуў світку і выйшаў следам за Карабанам.

Вярнуўся ён пахмурны. А ноччу доўга заснуць не мог. Усё ўспамінаў словы, якія яму Карабан на развітанне кінуў: «Чуў — немцаў назад пагналі? З чым сваіх сустракаць будзеш?»

Моцна заселі гэтыя словы ў сэрцы Васіля. «З чым сваіх сустракаць будзеш?» Вунь колькі людзей за вайну загінула. Дзеці? Ва ўсіх ёсць дзеці. Не толькі ў цябе. У цябе іх чацвёра. А ў іншых і сем, і дзевяць, і то ў партызаны ідуць. Партызаны клапоцяцца аб тых сем'ях, у якіх гаспадары на фронце ці ў лесе — усё адно. Бач, як немец на іх палюе, на партызан. Значыць, моцна яны ў пячонках нямецкіх сядзяць. Злуюць, але дастаць партызан не могуць: дрыгвы, лесу баяцца. Дрыгвы не высушыць, дык лес высякаць пачалі. Няма чаго больш сумнявацца. Трэба ісці ў партызаны. А там глядзіш, і вайне канец... А раптам заб'юць?.. Што тады?.. Можа, пачакаць крыху? Страшнавата ў лес ісці. Не ведаеш, дзе горш — там ці тут? На партызан аблавы робяць з сабакамі, а вёскі паляць... А! Адзін чорт, мусіць... Адседзецца? А што тады Чырвонай Арміі скажаш? Уладзе Савецкай? Дзецям, калі падрастуць? Не, брат. Не выйдзе. А ўсё ж пачакаць трэба. Не таму, што страшна наседжанае гняздо пакідаць. А таму, што сям'і на запас што-небудзь пакінуць трэба.

Такое апраўданне знайшоў для сябе Васіль.

Толькі пачало днець, устала Адэля па звычцы, каб карову карміць. А як прыгадала, што Лялі няма, дык і рукі апусціліся, ні за што ўзяцца не можа. Куры ходзяць, кудахчуць, есці просяць. Парсючок у хляве вішчыць, таксама прагаладаўся за ноч. Адэля быццам і не бачыць нічога, не чуе. Сядзіць на лавачцы, галаву звесіла і думку горкую думае: вось і чорны дзень у іх хату прыйшоў. І няма куды ад бяды-гора падзецца, не хопіць Васілёвых заробкаў, хоць па свеце з торбай ідзі. Адэля ўткнулася

твараМ у далоні, сядзіць, хістаецца ў такт назойліваму страшнаму пытанню: што ж рабіць? Што ж рабіць?..

Тэкля сачыла за ёй з-за агароджы. Смешная, мілая Тэкля! Адзінокая, за ўсё сваё жыццё нікім не сагрэтая, яна была ўсё ж добрай, незласлівай, і блізка да сэрца брала чужую бяду, толькі выгляду не падавала. Шкада ёй Адэлю. Стаіць і глядзіць. А ў самой слёзы па шчоках паўзуць, маршчынкі запаўняюць. Падышла да суседкі.

— Лёкса спіць яшчэ? — з неўласцівай для сябе ласкавасцю ў голасе спытала Тэкля.

Адэля здрыганулася, адвяла ад твару далоні, паглядзела спалохана, як чалавек, у якога быццам падслухалі думкі. Прыгадала ўчарашні дзень, адказала няветліва:

— Спіць.

— Як прачнецца, пакліч мяне. Ад перапуду лячыць яго трэба, ды траўкі божай да пяткі прыкласці. Каб антонаў агонь не прыкінуўся, ратуй, божа,— перахрысцілася Тэкля.

Хутка з Тэклінага двара пацягнула курыным булёнам. «І што за свята ў яе такое?» — падумала Адэля, гледзячы на Тэкліну хату. Але не ўбачыла ніякіх святочных прыкмет. Неўзабаве перад ёю быццам з-пад зямлі вырасла Тэкля. У руках яна трымала чыгунок, абкручаны анучкай, каб не апячы рук.

— На вось, Лёксе свайму аднясі.

Адэля ад здзіўлення з месца нават не скранулася. Тэкля і сама быццам нечага спужалася: павярнулася, пайшла з чыгунком у хату. Зайшла ў чыстую палову, чыгунок на стол паставіла. Калі праходзіла міма Адэлі, яшчэ раз нагадала:

— Пакліч, як паснедае. Лячыць буду.

Тэкліна жаласлівасць і клопат узрушылі Адэлю. Убегла яна ў хлеў і выплакалася там, душу слязьмі аблегчыла. Не, не ведала яна Тэклі. Добрая яна, хоць і сварлівая. Відаць, сама ў жыцці шмат гора паспытала. Праўду кажа народ: каб чалавека спазнаць, трэба з ім пуд солі з'есці. І таго мала.

Лячыла Тэкля Лёксу хлебным мякішам, у які волас, вырваны з Лёксавай галавы, укачала. І ўсё качала гэты хлебны шарык па яго голым жываце, і ўсё шаптала нешта ды прыгаворвала, убок сплёўвала. Хоць Лёкса ляжаў у гарачцы, усё роўна козытна яму было і трошкі смешна. А да раны на яго пятцы Тэкля прымочкі рабіла. Апусціць у карычняваты настой божай траўкі чыстую анучку і да нагі прыкладвае. Ды лепей ад тых лекаў Лёксу не стала.

Доўга Лёкса праляжаў. А пакуль хварэў, усякія думкі лезлі ў галаву. Горкая крыўда не праходзіла і нараджала шмат пытанняў, на якія Лёкса не мог знайсці адказу. За што яго пабілі? Ці ж ён вінаваты, што паліцаі забралі карову? І чаму яго так жорстка пакараў не хто-небудзь, а родная маці, якая пальцам яго ні аднаго разу не кранула? Няўжо ён, Лёкса, зрабіў нешта такое... Не, маці памыляецца. Гэта Лёкса адчуваў усім сэрцам, але толькі не розумам. Праўда, ён быў блізкі да праўды, калі думаў, што ва ўсім вінавата карова. Але чаму карова? Няўжо гэтая рагатая скаціна для маці даражэй за яго, Лёксу? Мусіць, без яе і сапраўды пражыць нельга. А без яго, Лёксы, можна?.. І як толькі Лёкса дадумваўся да такога, горкая крыўда новай хваляй падступала да сэрца, слёзы душылі яго, так шкада яму рабілася самога сябе. Ляля даражэйшая за Лёксу! Першы час ён так і думаў. Але калі пачаў

заўважаць матчыны вочы, запухлыя ад слёз і поўныя раскаяння, жаласць агортвала яго, і ён гатовы быў цалаваць маці, каб толькі яна не плакала ўпотай праз яго. А тое, што маці плакала больш праз яго, а не за карову, ён адчуў па тым, як маці даглядала яго, як уздыхала і падоўгу шаптала малітвы, замольваючы свой грэх і просячы ў бога здароўя для яе ненаглядн ага сына. І цікавая рэч! Калі Лёкса шкадаваў маці, яго ахоплівала злосць на бацьку. Чаму ён да гэтае пары ў партызаны не пайшоў? І яго, Лёксу, не пусціў? Ды калі б яны былі ў партызанах, можа, і немцаў даўно прагналі б, і нічога гэтага не здарылася б, і маці не плакала б, і ён не валяўся б увесь пабіты. А можа, дзед Карабан кажа праўду? Можа, яго бацька баязлівец? Ад гэтай думкі хлопчыку рабілася сорамна за бацьку. А можа, іншая прычына? Але якая? Аднойчы Лёкса спытаўся ў бацькі, чаму ён у партызаны не ідзе. Кузьма дык пайшоў, не пабаяўся. Але ў адказ зарабіў кухталя. На гэтым усе яго пытанні і скончыліся. Дзіўны ўсё ж народ гэтыя дарослыя. Усё ў іх складана, заблытана. Зразумець іх цяжка.

## ЛЕКІ КУЗЬМЫ

Невядома, колькі б яшчэ хварэў Лёкса, каб не Кузьма. Пачуўшы пра бяду свайго сябра, ён прыслаў праз Савелія ёд, бінты, вату і нейкія таблеткі. Пасля гэтага Лёкса хутка стаў на ногі. А ўсё ж самым лепшым лякарствам для яго аказалася малако. Ляліна малако! І гэта было як у казцы.

Аднойчы раніцой Адэля, як заўсёды, устала рана. Па-

чала курэй і парсючка карміць, як раптам пачула з апусцелага стойла:

— Му-у-у!..

Аслупянела Адэля. «Звар'яцела я, мусіць. Усё Ляля з галавы не ідзе». Не паспела падумаць гэтак, як зноў даляцела са стойла:

— Му-у-у!..

«Вось так Ляля есці заўсёды прасіла»,— падумала Адэля і перахрысцілася. І нешта пацягнула яе ў хлеў. Падышла яна асцярожна, адчыніла вароты, а там... Ляля стаіць. Стаіць і глядзіць на яе сумнымі вачамі.

Гэта быў самы шчаслівы дзень у сям'і Васіля за ўсю вайну. З таго самага дня і Лёкса папраўляцца стаў.

Вестка пра Лялю маланкай разнеслася па ўсёй Хатыні. І толькі вечарам Адэля па сакрэту даведалася ад Карабана: Кузьма карову ноччу ў хлеў прывёў. Праўда, гэта была не Ляля, а другая карова. Але як дзве кроплі вады на Лялю падобна. І яе немцы забралі ў кагосьці, а партызаны адбілі абоз з нарабаваным сялянскім дабром і жывёлай і па просьбе Кузьмы вярнулі Адэлі карову.

Пасля гэтага выпадку канчаткова рашыў Васіль у партызаны пайсці. Вось толькі жонку трэба да гэтага падрыхтаваць. Але Адэлю і ўпрошваць не давялося. Як толькі Васіль загаварыў пра тое, што ў лес хоча ісці, яна і пярэчыць не стала. Куды ж ісці, як не ў партызаны! Калі ўсе такія, як Кузьма, толькі ў лес і ісці! І рашыў Васіль: вось толькі гаспадарку давядзе да ладу, дах на хаце паправіць — працякае ў левым куце, дроў назапасіць, яшчэ сёе-тое зробіць, а там і ў лес падавацца можна.

## ВАЙНЫ БЕЗ АХВЯР НЕ БЫВАЕ

Даўно не званілі званы ў царкве на могілках. І вось зноў жалобныя меладычныя ўдары мякка рассякаюць вячэрнюю цішыню. І плывуць званы над хатынскім лесам, і знікаюць недзе ўвышыні, у ружовай смузе аблокаў, у апошніх праменнях сонца.

— Вязуць! Вязуць! — пачуў Лёкса галасы за акном і выбег на вуліцу. З боку Мокрадзі ішло пахавальнае шэсце. Гнядая кабылка, запрэжаная ў калёсы, плялася, панурыўшы галаву, быццам адчувала, якую паклажу давялося ёй везці. І месяца не прайшло з таго часу, як немец Рудню спаліў, як плакала ў няўцешным горы цётка Поля, і вось зноў Лёкса чуе плач. Гэта рыдала дачка нябожчыцы. Яна ішла за трунοй, то ўзнімаючы рукі да неба, то разводзіла іх, то сплятала далонямі перад сабой, і хрыплае рыданне вырывалася з яе грудзей. Здалёк здавалася, што яна пасылае небу праклёны.

Лёкса не пайшоў на могілкі. Яму было страшна. Ён залез на Карабанаву грушу і адтуль назіраў, што робіцца на могілках. Праз гадзіну ўсё сціхла: ні званоў, ні плачу, ні шоргату зямлі — быццам усё прыснілася. Толькі грудок зямлі, з усіх бакоў абкладзены дзёрнам, быў маўклівым сведкам цяжкай страты, якая спасцігла яшчэ адну сям'ю ў гэты суровы час.

Не паспеў Лёкса саскочыць з дрэва, як да лаўкі, што стаяла пад грушай, падышлі Карабан і Савелій. Яны вярнуліся з могілак. Селі, задымілі тытунём.

— Кепскія нашы справы, Карабан,— задыміўшы, сказаў Савелій.— Гэтак мы ўсе хутка з жыццём развітаемся. Каб за такое расстрэльваць! З бабамі ваюе немец. Ці ж

гэта па правілах так ваяваць? За добрае сэрца чалавека забіць! Як мошак людзей душыць, навалач, быццам і не людзі мы...

Лёкса, затаіўшыся на грушы, пачуў расказ пра расстрэл макраджан.

Яшчэ ўвесну над Марозаўкай, што за пяць кіламетраў ад Хатыні, высадзіўся з самалёта атрад дэсантнікаў. Адзін разбіўся — не раскрыўся парашут. Там яго і пахавалі, дзе ўпаў, паміж Марозаўкай і Лавошай. Астатнія прызямліліся дзе хто, а некаторыя ля Мокрадзі апынуліся. І вось адзін з іх зайшоў у вёску, вады папрасіў. Дар'я Пятроўская вынесла чалавеку папіць і кавалак сала дала яму з сабой на дарогу, што з зімы прыхавала. Пайшоў чалавек у лес, знік у гушчары, сваіх шукаючы. Не адзін месяц прайшоў з тае пары, жыта ўжо паспелі ў полі зжаць, як раптам нечакана, тры дні таму назад, у Мокрадзь наляцелі карнікі. Афіцэр нямецкі з паперай нейкай хадзіў. Зірне ў яе — і шукае таго, хто ў паперы той значыўся. Гэтак сабралі немцы семярых: і Косцю Емяльянава, і Мяркулава, былога брыгадзіра, што нагу яшчэ ў вайну з белафінамі страціў... і Дар'я Пятроўская сярод іх апынулася. Павялі ўсіх за вёску ў поле, паставілі на мяжы і ўсіх расстралялі.

— Емяльянава за сувязь з партызанамі забілі,— ціха гаворыць Савелій.— Ды як забілі: загадаў яму немец рот раскрыць, а сам дула пісталета сунуў у яго і стрэліў, гад...

— А Мяркулава за што? — глуха спытаў Карабан.

— Як нашы адступалі, у першае ваеннае лета было, Мяркулаву загадалі калгаснае збожжа сцерагчы. Ніхто ж не ведаў, што вайна так зацягнецца. Прыйшлі немцы,

убачылі запасы і забаранілі сялянам браць. Маўляў, потым вернуцца за ім. І зноў таму ж Мяркулаву даручылі сцерагчы збожжа. А як пайшлі немцы, той узяў ды і падзяліў зерне паміж сялянамі. Як чалавек зрабіў: плюнуў на загад нямецкай улады... Вось і ён, Мяркулаў, у спісе тым апынуўся... Выдаў нехта. Паспрабуй даведайся, хто. На першай асіне павесіў бы гада. І не знойдзеш яго. Затаіўся здраднік, жыве з намі тут побач... А хто?

— Ціхая свіння глыбока капае,— задуменна сказаў Карабан.

Пальцы яго дрыжалі, люлька даўно пагасла, але ён не заўважаў гэтага, слухаў Савелія і ўсё думаў аб нечым. І, відаць, змрочныя былі яго думкі: маршчына над пераноссем запала яшчэ глыбей, засвяціліся нядобрыя агеньчыкі ў вачах, увесь твар старога быццам з каменю высечаны, застылы, суровы і нават страшны.

— Сёння брат брату сусед: жыві ды азірайся,— працягваў Савелій, прыкурваючы новую цыгарку.

Усё гаварыў, гаварыў Савелій... А Карабану на памяць прыйшло, як аднойчы асеннім вечарам, на захадзе сонца зазванілі раптам званы на могілках, абвясціўшы аб тым, што нехта са сваім жыццём развітаўся. Перад вайной гэта было. У самую гарачую пару. Калі калгасных і хатніх клопатаў хоць адбаўляй, і забыць паспелі хатынцы, што даўным-даўно не бачылі Юзэфу. Восемдзесят гадкоў на белым свеце пражыла старая. Непрыкметна і ціха патухала яе жыццё. Не магла яна ўжо ні есці, ні піць, і сама прасіла бога, каб той злітаваўся над ёю і смерць прыслаў. І смерць прыйшла. Не наракала Юзэфа, не. Прыняла госцю, як мае быць, скарылася. Аджыла сваё, адходзіла

і супакоілася. Па старому звычаю адпявалі Юзэфу. А раніцай першы сняжок пасыпаў. Пад гэты сняжок і аднеслі труну на могілкі. І засыпалі яе зямлёй, і крыж паставілі. Усё было, як трэба. І пахавалі нябожчыцу так, як яна жадала.

«Ну вось і праводзілі Юзэфу ў апошнюю дарогу. Прыйшоў яе час,— сказаў дзед Карабан, стоячы над магілай.— Цяпер мая чарга».

«Не плач, Карабан! Да ста гадкоў пражывеш. Гэткі волат ды ваяка, ты яшчэ два разы жаніцца паспееш!» — сумна жартавалі хатынцы.

«Жарты жартамі, а ўсё па законах прыроды»,— адказаў тады Карабан.

— Усё па законах прыроды...— сам таго не заўважаючы, уголас паўтарыў цяпер Карабан.

— Па якіх гэта законах? — не зразумеўшы старога, незадаволена запярэчыў Савелій.— Гэта калі стары чалавек памірае, ці ад хваробы якой, тады і закон! А гэта... гэта ж забойства! — Савелій закашляўся, папярхнуўшыся тытунёвым дымам.

Карабан не пярэчыў: і ён так думаў.

— Які табе закон на вайне,— ужо спакайней працягваў Савелій.— Прыйшоў вораг, забіў — і ўвесь закон. Як гэтых семярых. Адзін жывы застаўся, Петрусёў сын. Куля не зачапіла яго, а ён паваліўся і нежывым прыкінуўся. Выпаўз з-пад трупаў, калі сцямнела... Тры дні немцы не дазвалялі хаваць забітых. Потым закапалі ўсіх разам, ды толькі Дар'ю сюды завезлі, муж яе тут пахаваны. Кажуць, дачка так захацела: на зямлі разам усё жыццё пражылі, хай і ў зямлі побач ляжаць... Не намнога Дар'я пражыла свайго Франца, на два гадкі ўсяго... Ды і дэсанту таму

не пашанцавала, амаль усе ў баях з немцамі загінулі: Алёха, радыст, добры хлопец быў, і Федзя, што фельчарам у партызан быў... Нязвыклыя да лесу, відаць, гарадскія.

— Вайны, Савелій, без ахвяр не бывае, і мы не павінны сядзець склаўшы рукі,— перапыніў Савелія Карабан.

Яшчэ доўга гаварылі мужчыны. А Лёкса ўсё ніяк не мог злезці з дрэва, нават ногі адседзеў. Але размова, якую ён незнарок падслухаў, глыбока запала ў яго душу, асабліва словы Карабана: «Вайна без ахвяр не бывае, і мы не павінны сядзець склаўшы рукі».

## ЛЁКСАВА ПОМСТА

Лёкса ўвайшоў у Селішча, калі сонца стаяла над галавой. Грэць не грэла, як летам, але жыць пад такім сонцам можна было пакуль што і без світкі. Да зімы было не так далёка, але і не блізка. На гэты раз Лёкса нёс цётцы Мар'і вілы.

Каля хаты Лёкса ўбачыў Юзіка — малодшага сына цёткі Мар'і.

Не тое, каб сябрам быў яму Юзік, а так, калі прыйдзе Лёкса ў Селішча, тады і расказваюць розныя навіны, пра сваё жыццё-быццё распытваюць хлопцы адзін у другога. Сёння Юзік быў нейкі не такі, як заўсёды. Ён сядзеў на лаўцы і Лёксу ў хату не запрашаў. Прыход Лёксы, здавалася, і радаваў яго і не. Быццам не ў час прыйшоў Лёкса. Той бачыць: нешта мучыць хлопца. І Юзік сам не стрымаўся.

— У нас паліцай сядзіць,— даверліва шапнуў ён, і быццам пасля гэтага яму палягчэла.

«Дык вось чаму ён не паклікаў мяне ў хату!» — падумаў Лёкса. І спытаў:

— А што яму трэба?

— Бацьку ўгаворвае ў паліцаі ісці. І карову нашу забраць хоча. Калі, кажа, пойдзеш да нас, пакіну карову, а не пойдзеш — забяру.

— Грыцько? — мільганула здагадка ў Лёксы. Быццам адзін толькі Грыцько агітуе сялян на немцаў служыць і пагражае карову забраць. Але чамусьці ён так падумаў.

— Ты яго ведаеш? — здзівіўся Юзік.

— Барадаты? — спытаў Лёкса.

— Ага, з барадой...— адказаў Юзік.

Выйшла Мар'я, нешта шапнула сыну. Той згодна кіўнуў.

...Накурана ў хаце. П'яны Грыцько ўсё смаліць і смаліць цыгарэты і кідае на падлогу недакуркі. А бацька Юзікаў усё падлівае і падлівае ў яго чарку самагонку.

— Саветы для мяне, што пя... пятля на шыю,— бубніў паліцай.— Я Саветам вялікі падлік ппрад-яў-ляю. Ты мяне зразумеў?

Грыцько так ляпнуў гаспадара па спіне, што і сам ледзь утрымаўся на зэдліку.

— Зразумеў, зразумеў. Я цябе адразу зразумеў,— адказаў Іван, пераглянуўшыся з Мар'яй.

Яшчэ і на ганак не паспеў ступіць гэты барадач, як Мар'я адчула нешта нядобрае. «Я,— кажа,— па карову прыйшоў. Камандзір паслаў. Малако параненым партызанам трэба». Не разгубілася Мар'я, прапанавала госцю малака пакаштаваць, перш чым карову забіраць. А за малаком і самагонка на стале з'явілася, закусь усякая. Барадач закурыў, і не што-небудзь, а цыгарэты. Фабрыч-

ныя. Падняў Юзік адзін недакурак, што барадач у кут хаты кінуў, а на ім па-нямецку напісана. Маці паказаў. Шапнула Мар'я сыну. Той непрыкметна выйшаў з хаты. А праз якіх-небудзь дзесяць хвілін уся вёска ведала: не партызан гэта, а паліцай. Рабаваць прыйшоў і сакрэты пра партызан выпытваць. Папярэдзілі партызан, якія тым часам недалёка ў засадзе былі.

А Грыцько ўсё больш і больш п'янеў. Ён падазрона аглядаў хату, і яго вырачаныя, налітыя крывёю вочы былі страшныя.

— Ты слухай мяне. Ідзі да нас, Іван. Калі Саветы вернуцца, разам адказ трымаць будзем. А хай яго ліха! Адзін раз жывём на свеце! Усе ляжам пад абразы і вочы закоцім. А мне рук усё роўна не адмыць. Не пр... пр... пррраздацель я! Не!!! — гаркнуў раптам Грыцько, стукнуўшы валасатым кулаком па стале, ды так, што посуд зазвінеў, а надкусаны гурок падскочыў, пакаціўся па стале і плюхнуўся на падлогу.— Я ахвярррра ррэвалюцыі... ахвярррра Саветаў. Рраскулачылі мяне. Зразумеў? Усё забралі. Зразумеў? І застаўся я ў чым стаяў. Забралі ўсё, гады. Маёмасць, скаціну, усё! Падчыстую. Ты мяне зразумеў?! — Грыцько абапёрся рукамі аб стол, прыўзняўся з зэдліка, спадылба гледзячы на Івана, як быццам шукаў у яго спачування. Потым махнуў рукой і сеў.— Э-э!.. Што я? Вось знаёмы мой, Тупіга! Во гэта гусь! А што я?.. А вось ён... ён... у Дзір... Дзірлевангера ён служыць. А Дзірл... евангер абы-каго сабе не возьме. Забойцы яму патрэбны! Вось! А я?.. Што я?.. Я толькі на самагон вымяньваю ўсё... усё, што ў вас забяру. Ну, калі-нікалі і пажартаваць можна,— з гэтымі словамі паліцай выцягнуў з кішэні пісталет, пакруціў яго ў руках і зноў засунуў у кішэню.—

А карову тваю я ўсё роўна забяру. За-бя-ру! Таму што гэта мая ка... ік!.. рова. Зразумеў? Партызаны, сукіны сыны, маю карову забралі? Забралі! А я ў цябе забяру. Таму што мае дзеці без малака засталіся.

— Дык ты і адымай у партызан. Што ты ў маіх дзетак адымаеш? — не стрымаўся Іван.

— Цыц! Як ты са мной размаўляеш! Не забывай, хто я такі!.. У партызан, кажаш? Які ж ты... хітры! Хі-і-ітры! — і Грыцько пагразіў пальцам.— Паспрабуй адымі ў партызан. Страшнавата. У цябе лягчэй. Без вы-ні-каў! Зразумеў?..

У гэты момант у хату ўбеглі Юзік і Лёкса. Яшчэ з парога яны закрычалі:

— Дзядзечка! Вас там клічуць! — і зніклі.

— Клічуць?.. Мяне?.. Хто? — утаропіўся ён асалавелымі вачамі ў гаспадара. Той паціснуў плячамі.— Пайду пагляджу. Гэта мае, мусіць, хлопцы...

Грыцько ўстаў і, хістаючыся, выйшаў у сенцы, адчыніў дзверы, ступіў на ганак. Прагучаў стрэл. Партызанская куля аказалася трапнай. Паліцай раптоўна абмяк, калені яго падагнуліся, і ён кулём скаціўся на падмерзлую, з пажоўклай травою зямлю.

## ХУТЧЭЙ БЫ ЗАСПЯВАЛІ ЖАВАРАНКІ

Зіма выдалася лютая, снежная. За ноч гурбы намятала такія, што раніцай не заўсёды ўдавалася з хаты выйсці. Амаль кожны дзень людзі сцяжынку рыдлёўкамі ад ганка да брамкі расчышчалі. Дзятва з ахвотай узяла на сябе гэты клопат. У школу хадзіць не даводзілася, вучыць уро-

кі таксама. Не было школы ні ў Хатыні, ні ў суседніх вёсках. А калі б і былі дзе-небудзь далёка, дык ці ж адпусцілі б маці сваіх дзяцей у зімнюю сцюжу галодных, разутых, без цёплай адзежы? Ваўкі зусім асмялелі: сабак выцягваюць з будак па начах. Ды і немцы яшчэ загад аддалі: з вёсак не выходзіць, толькі па прапусках спецыяльных. А калі няма паперы такой ды з вёскі выйшаў — партызан, значыць, расстраляць могуць. Нават у тых вёсках, дзе школы не згарэлі пасля бамбёжак і баёў, дзеці не вучацца. Падручнікаў няма, сшыткаў няма, пісаць няма чым, і многіх маладых настаўнікаў вывезлі ў Германію, у няволю. Старыя настаўнікі адмаўляліся выкладаць па новай, антысавецкай праграме. А калі іх сілком прымушалі вучыць дзяцей, то ўсё роўна з гэтага нічога не атрымлівалася. Прыйшоў аднойчы Савелій і расказаў, як павесілі немцы старога настаўніка за тое, што той вучням сказаў: «Не хадзіце, дзеткі, у школу, не зношвайце дарэмна бацькоўскіх чаравікаў».

Не, не ходзяць хатынскія дзеці ў школу. Лёкса разоў з дзесяць перачытаў кніжку пра Чапаева, што бацька да вайны з горада прывёз. Усе хатынскія хлопчыкі і дзяўчынкі яе прачыталі. Вось так і мяняюцца кніжкамі. У Антося Лёкса здабыў кніжку пра Рабінзона. Антось чытаць яшчэ не ўмеў, і Лёкса вучыў яго. Чым яшчэ заняцца ў зімовую пару? Сядуцца іншы раз у каго-небудзь ды ціхенька частушкі партызанскія співаюць. У карты хлопцы навучыліся гуляць, у падкіднога дурня. А калі надакучыць — у «маялку». Гульня гэта з горада нейкім чынам да іх дайшла. Кавалачак свінцу ці волава ў пушыстую футру зашывалі, і гэту «маялку» нагой падбівалі, хто правай, а хто спрытнейшы, той і левай нагой. І лічылі: хто больш разоў

наб'е, не саб'ецца, той і выйграў. Гульня пустая, але што рабіць, трэба ж чым-небудзь заняцца! А калі і гэта надакучыць, цацкі майстравалі. І не абы-якія: пугач і пісталет! Самыя лепшыя пісталеты майстраваў Воўка Яскевіч. Затое Лёкса ўсіх у «маялку» абыгрываў.

Не толькі гульнямі цешыліся хатынскія хлопчыкі. Каб ногі не адмарожваць, навучыліся самі валёнкі біць. Стары Пучок іх навучыў: з авечай воўны. Начэшуць гэтай самай воўны, потым выкрайку з анучкі накладуць, зверху яшчэ слой начосу. А потым доўга ўсё гэта качалкай качаюць. І атрымліваюцца валёнкі. Мяккія, цёплыя. Але толькі ў маразы ў такіх можна хадзіць. Ледзь мокры снег — прамакаюць. Праўда, і на такія валёнкі немцы палявалі. Даводзілася далей іх хаваць. Ды ў вайну не толькі валёнкі, усё навучышся рабіць. І па гаспадарцы шмат працы выпадала: ці то дроў напілаваць ды пасячы, ці то жывёлу накарміць, напаіць. Але самае цяжкае для Лёксы, і не толькі для яго, а і для ўсіх хлопчыкаў,— гэта сячкарня. Стой ды круці, стой ды круці. У вачах мільгаціць ад такой «круцёлкі». Добра яшчэ, калі хто бульбянік у карыта падкідвае, хутчэй справа ідзе. А калі адзін? Бегай туды-сюды. Зморышся так, што і малака піць не захочаш. Даводзіцца часта на дапамогу Антося клікаць. Вось так адзін аднаму і памагаюць.

— Лёкса! — задыхаўшыся, убег у хлеў Антось.— Раней не мог... не пушчалі. Дай памагу!

І адразу ж пачаў класці ў карыта салому. Лёкса, абедзвюма рукамі ўзяўшыся за гладкі, адпаліраваны чаранок, прымацаваны да кола з нажамі, круціць. Вострыя нажы дробна наразаюць салому, і сечка залатой

пацярухай сыплецца на ток, пад самыя ногі. Калі насыплецца вялізная куча, Лёкса нагамі адграбае яе ў кут, дзе яшчэ большая куча ляжыць, а Антось усё падкладвае і падкладвае ў карыта салому. А каб весялей было працаваць, сябры частушкі ціха спяваюць, якія Лёксу Кузьма навучыў. Круціць Лёкса кола і выводзіць тоненькім галаском:

Вось і дзень той недалёка,
сонца мыецца ў расе.
Немцу [illegible] за вока — вока,
а за зуб — вымаю ўсе.

І Антось не адстае. Цяпер ужо абое спяваюць:

Вельмі туга немцу стала,
проста хоць крычы «капут».
З неба сонца ледзь прапала,
партызаны тут як тут.

Шмат партызанскіх частушак ведаюць хлопчыкі. З такімі песнямі і кола круціць лягчэй. Добра яшчэ, што сёння нажы вострыя. А калі затупяцца? Моцы не хапае.

— Давай мяняцца,— кажа Антось.

А Лёкса і сапраўды ўжо стаміўся. Твар расчырванеўся, пот кропелькамі выступіў на лбе, і дыхае цяжка, быццам паравоз пыхціць.

— Ну, давай,— згаджаецца, нарэшце, Лёкса.

Памяняліся месцамі. Лёкса кладзе салому ў карытца і зноў заводзіць:

Выйшлі немцы на засаду,
каля лесу заляглі,—

Антось падхапіў, і зноў сябры пяюць разам:

а мы іх, фашысцкіх гадаў,
прыкавалі да зямлі.

Беларускі лес начыста
азвярэлы немец ссек,
мы ж тут гарнізон фашыстаў
супакоілі навек.

Просіць фрыц, зайшоўшы ў хату:
— Матка, яйка, матка, шпэк!..
А яму ражна у горла —
падавіўся каб навек.

Круціцца кола, сыплецца залацістая сечка. Сябры перапелі ўсе частушкі, якія ведалі.

— Ты чуў? — пытае потым адзін.

— Што? — цікавіцца другі.

І тут яны адзін аднаму пераказваюць усе навіны, што прасочваюцца ў Хатынь, якая схавалася ў гушчары лясоў.

Шмат цікавага Лёкса наслухаўся ад дзеда Карабана і расказваў свайму малодшаму сябру. Сёння ён расказаў Антосю пра Напалеона, каторы, як і Гітлер, хацеў Расію заваяваць. Ды з ганьбай яго прагналі з рускай зямлі. І на Лагойшчыне Напалеон пабываў, калі пры адступленні цераз Бярэзіну перапраўляўся. Адну ноч нават у Плешчаніцах начаваў. У той час графіня Соф'я Тышкевіч там у маёнтку жыла.

— Карабан кажа, што Гітлер, як і Напалеон, сабе шыю скруціць,— закончыў свой расказ Лёкса.

А Кузьма расказаў Лёксу пра тое, як партызаны хацелі Гарбаты мост захапіць. Вось ужо колькі разоў намагаліся яны зняць з моста нямецкіх вартавых — але ніяк! Моцна ахоўвалася ўрочышча з гэтым мостам. Дзіва што! Гэта быў час, калі партызаны знішчылі ўсе гарнізоны, і

толькі два яшчэ заставаліся — у Лагойску і ў Плешчаніцах. А Гарбаты мост злучаў іх. Ого, каб ён узляцеў у неба! Паскакалі б тады фрыцы! І што толькі не прыдумвалі партызаны, каб перахітрыць ворага! Нават у балоце, што з абодвух бакоў моста, доўга праседжвалі, чакаючы змены вартавых, каб накінуцца ў той момант, калі немцы павыходзяць са сваіх бункераў. Але ўсё было дарэмна. Столькі яны гэтых бункераў панаставілі, ды яшчэ з гарматамі! А ў партызан гармат няма. Голымі рукамі іх не возьмеш. Але нічога, пажывём — пабачым, чыя возьме. Ва ўсякім разе Лёкса не тужыў, ён верыў у тое, што партызаны ўсё ж перахітруюць немцаў. Былі ў яго і іншыя цікавыя навіны, больш прыемныя. Расказаў яму Кузьма пра партызана Марусіка. Ну і паляк! З такім не прападзеш! Увесну гэта было. Сяляне з вёскі Гаравец сказалі партызанам, што паблізу, побач з лесам, у закінутай лазні нейкі чалавек хаваецца і ўсё пра партызан пытае. А сам выходзіць з лазні не хоча і ўсё гаворыць не па-нашаму. Можа, шпіён?

Тады да лазні прыйшлі партызаны.

«Эй! Ты хто? Выходзь!» — крыкнулі яны. А з лазні нехта адказвае па-польску:

«А вы хто? Калі партызаны, дык выйду. Вы мне і патрэбны. А калі паліцаі, то лепей бяжыце адсюль. Бо зараз я ў вас гранату кіну».

Так расказваў Лёкса. А можа, усё інакш было? Але ўсё роўна Антосю цікава. Ён нават пра кола забыўся і круціць яго перастаў.

— А што потым? — не вытрываў ён.

— Гэта Марусік быў. Ён у Чырвонай Арміі ваяваў, а немцы яго ў палон узялі. Ён уцёк і партызан пачаў шу-

каць. Вось і знайшоў. Толькі вінтоўкі ў яго не было. Дык ён у першым баі яе здабыў.

— Як? — спытаў Антось, зноў круцячы кола.

— Вельмі проста. Партызаны даведаліся пра тое, што немцы хочуць у Юнцэвічах гарнізон стварыць. І вось прыехала туды некалькі машын з фрыцамі. А дзядзя Вася загадаў выкурыць немцаў, каб ніякага гарнізона там не было. Вось і пайшла група партызан на гэта заданне, а з імі Маруся...

Антось засмяяўся.

— Гэта партызаны яго так жартам называюць,— растлумачыў Лёкса.— Дык вось. Вінтоўкі ў яго не было, дык ён з паленам ваяваў. Трох немцаў забіў, а вінтоўку здабыў сабе. Хоць і паранілі яго ў руку.

— Вось дык Маруся! — з захапленнем сказаў Антось.

— Гэта што! А як ён у Валянцінаўскім баі немцаў біў! Залез на сасну. Ён немцаў бачыць, а тыя яго — не. І пстрык, пстрык! Усіх кулямётчыкаў пазабіваў. Пакладзе аднаго, а замест таго другі паўзе. А Марусік і гэтага — пстрык! Кузьма кажа, што Марусіку ордэн могуць даць, такі ён смелы...

— І дадуць! — упэўнена заявіў Антось.

— Вядома! — падтрымаў сябра Лёкса.— І пра чэха аднаго Кузьма мне расказаў. Вось толькі прозвішча забыў, ці то Горка, ці Горак... Ад слова «гара». Таксама смелы.

— Лёкса, а чаму яны ў сябе не ваююць? — спытаў Антось.

— Хто? — не зразумеў Лёкса.

— Марусік і гэты... Горка... Што, у іх немцаў няма?

— Во сказаў! Як жа няма, калі немцы паўсюль! Яны

прымусілі Горака супроць нас пайсці, а ён узяў і на наш бок перайшоў. І французы такія ёсць, і немцы...

— І немцы?!.— здзівіўся Антось.

— А ты думаў. Немцы ўсякія бываюць. Так мне Кузьма гаварыў. Ёсць такія, што ваяваць з намі не хочуць, а Гітлер іх прымушае. А яны ўсё роўна не хочуць. Камуністы. Вось цяпер яны да нас перайшлі і супроць Гітлера ваюють. Яны не хочуць вайны.

Памаўчалі хлопчыкі. Кожны думаў пра нешта сваё. Быццам усё расказаў Лёкса, але па тым, як ён скоса пазіраў на сябрука, было відаць, што яму яшчэ нешта хочацца сказаць, і нават вельмі важнае. І Лёкса не стрымаўся:

— Антось, а Антось?

— Ча-го? — пытае той, ужо ледзь круцячы кола. Хоць на ім і былі рукавіцы, каб не слізгалі рукі па адпаліраваным чаранку, але сілы пакідалі Антося. Заўважыўшы гэта, Лёкса сказаў:

— Давай мяняцца. Бацвіння падкінь.

І зноў закруцілася кола сячкарні.

— Антось, чуеш, Антось? А што я хацеў табе сказаць!..

— Ну чаго? Кажы!

Лёкса ўсё ніяк не мог адважыцца. Потым падышоў да варотаў, выглянуў: ці няма каго? Вярнуўся і ціха сказаў:

— А я ў партызаны іду!

— Брэшаш?

— Не.

— Пабажыся!

— Далібог, праўда'

— Піянерскае?

— Піянерскае!

Антосю не толькі што піянерам, акцябронкам яшчэ не давялося быць. І Лёкса адзін толькі клас скончыў. Але ўсё ж сябры лічылі сябе піянерамі.

— Калі? — больш даверліва спытаў Антось.

— Як толькі жаваранкі запяюць.

— У сакавіку, значыцца,— задуменна сказаў Антось, нешта мяркуючы.— А чаму, калі жаваранкі?

— Кузьма кажа, пацярпі крыху, пакуль халады не сыдуць. Бо партызаны ў зямлянках памерзлі. Хварэюць. Нядаўна адзін на сухоты захварэў. Памерці можа. Крывёю кашляе. Ды і параненых шмат. Лекаў не хапае. Дык вось... Як толькі пацяплее... У мяне ўжо і шапка ёсць. Паказаць?

— Пакажы.

Лёкса пайшоў у кут хлява, корпаўся там, соп, дарэмна намагаючыся ссунуць з месца бочку. Давялося клікаць на падмогу Антося. Удвух хлопчыкі прыўзнялі цяжкую дубовую бочку, і, падсунуўшы пад яе руку, Лёкса выцягнуў нешта, закручанае ў анучку. У ёй аказалася кубанка з чорнай аўчыны з чырвонай стужкай наўскасяк. Як у партызан!

— Бач ты! — захапленнем і зайздрасцю бліснулі Антосевы вочы.— Але ў сакавіку будзе цёпла...

— Ну дык і што? Гэта ў вёсцы. А ў лесе яшчэ вільготна будзе. Мне Пучок шапку зрабіў. За тое, што я яму валёнкі памагаў біць. А стужку чырвоную я ад Зосьчынай сукенкі адрэзаў. Крыху карацейшая будзе — не здагадаецца. Падумае — вырасла. Яшчэ ўзрадуецца.

Антось стаў панылы. Гаварыў шмат і пра ўсё, ды толь-

кі пра тое, што Лёкса ідзе ў партызаны, ні гуку. Калі скончылі рэзаць сечку, ён лісліва зірнуў на Лёксу і папрасіў:

— Лёкса, скажы пра мяне Кузьму і камандзіру. Хай і мяне возьмуць. Добра?

Лёкса аж заганарыўся, пачуўшы такую просьбу сябрука, і наўмысна памаўчаў, каб набіць сабе цану. Яго, Лёксу, просяць узяць з сабой у партызаны! Быццам ён і сам партызан. Так некалі Лёкса прасіў Кузьму. Але што адказаў Кузьма на яго просьбу? Маўляў, куды табе! Спярша падрасці. Ад гаршка тры вяршка. Шмат вас такіх! І як крыўдна было Лёксу ад гэтых слоў! Не, ён не скажа такога свайму сябру.

— Добра. Я пагавару. Дай толькі мне самаму партызанам стаць.

— А ці ж ты яшчэ не партызан? Вунь ужо колькі зрабіў! Паліцая забіў, вінтоўку і гранаты хаваў і нікога не баяўся, а потым партызанам аддаў, а Пучок праз цябе старасціху з Першамаем павіншаваў. Памятаеш? На вялікдзень!

— Паліцая не я забіваў, а партызаны. Мы з Юзікам толькі паклікалі яго. А ўсё астатняе мы рабілі з табой.

— Я зараз пра цябе кажу,— дзелавіта запярэчыў Антось, які сціпла вырашыў, што пра яго заслугі яшчэ рана гаварыць, таму што іх не так ужо і багата.

Калі Антось адыходзіў, Лёкса шапнуў яму:

— Лічы, што мы ўжо ў партызанах. Вось толькі б жаваранкі хутчэй заспявалі!

## СМЕРЦЬ КУЗЬМЫ

Заціх у прыцемках заснежаны лес. Набег вятрыска, паварушыў гарэзліва макаўкі соснаў. Але не да пацешак соснам. Як вартавыя, стаяць яны і прыслухоўваюцца, што на зямлі робіцца. Быццам сцягі ў жалобе, схілілі сваё цяжкае голле яліны, на зямлю глядзяць, на якой сляды крывавыя. І вецер, убачыўшы смутак іх, прабег па гэтых слядах і знайшоў у ельніку маладога партызана Кузьму. Ляжыць Кузьма, абняўшы рукамі родную зямлю, сваёй крывёю палітую, прыцісну́ўся шчакой і слухае. Слухае, як пад лютаўскім снегам жыццё магутнае прачынаецца. Слухае, як былінкі, на зіму паснуўшы, учапіўшыся ў зямлю карэньчыкамі, да вясны рыхтуюцца, праз зямлю прарасці і ў рост збіраюцца. Слухае, слухае Кузьма гукі зямлі, а сам ніколі ўжо не прачнецца.

Навечна заснуў.

Правёў халоднай далоняй вецер па яго густых валасах, прылашчыў і паляцеў, ап'янелы ад гора, за галінкі чапляючыся. А тыя, пераняўшы журбу, таксама хістаюцца. Паляцеў вецер у поле бяду-гора сваё развеяць. Прыляцеў — і замёр.

Поле тое саванам смерці пакрыта ўсё. Захінула снежнай прасцінай цэлую процьму трупаў. І крумкачы з глухім карканнем абляпілі ўсё поле, кружацца над ім, спажыву ўчуўшы. А на полі тым, дзе рука стаўма тырчыць скурчаная, а дзе штык неба працяў. Перамяшаўся белы снег з крывёю чырвонаю, з сажай чорнаю. Шмат ворагаў палягло ў мундзірах зялёных і мундзірах чорных. Крумкачы ўжо трызну справілі.

Вось вайна што нарабіла.

## СТРАШНАЯ НОЧ

Ходзіць бяда наўкол Хатыні. А ў яе бок нават вока не скосіць. Хутка два гады вайне. А кашчавая бокам Хатынь абходзіць. Ходзіць смерць ад сяла да сяла, касцьмі, як вартаўнік трашчоткай, трашчыць, страх на людзей наганяе. Але ці ж можа так быць, каб столькі крыві бязвіннай пралілося, а іх як быццам і не заўважае кашчавая? Прыціснуліся хаты да зямлі ад страху, бы насцярожаныя спіны звяркоў цямнеюць, да снегу прыпалі. А наўкол лес стогне ў начы. Гайдае вецер сосны-мачты, а тыя рыпяць, але моцна за зямлю трымаюцца.

Ну і ночка выдалася! Хоць і старая пагалоска, што ў такое надвор'е нават сабаку гаспадар з хаты не выганіць, але праўда! Хто ж гэта ў такую завею пойдзе? Таракан і той у шчыліну схавацца стараецца. А што ж казаць пра чалавека! Выйдзе ў поле — назад не вернецца. Завіхурыць яго, закруціць, з ног саб'е, намяце над ім снежную гурбу, жывым пахавае.

Лёкса прачнуўся сярод ночы, як ад штуршка: быццам паклікаў яго нехта. Прыслухаўся: ціха. І раптам да яго вушэй даляцеў далёкі крык. Ён прарываўся праз завею, заглушаў рыпенне соснаў і выццё ветру ў коміне. Нехта крычаў пранізліва і жаласліва. Лёкса скурчыўся, нацягнуў на галаву коўдру, потым усё ж скінуў яе і пачаў прыслухоўвацца. Зноў той жа крык, але крыху бліжэй. Быццам нехта ратунку прасіў. Рыпнулі палаткі пад Сцяпанам: і ён прачнуўся.

— Сцёпа! — ціха паклікаў Лёкса брата.— Хто гэта крычыць?

Сцяпан памаўчаў. Потым сказаў няўпэўнена:

— Заяц гэта... Калі напужаецца, крычыць, як дзіця малое. Бегае сюды-туды і галосіць. А можа...

— Цішэй! — абарваў яго Лёкса.

Зноў нехта крычаў, цяпер яшчэ бліжэй. На гэты раз крык быў кароткі, бы ўсхліп, і патануў, захлынуўшыся ў снежным віхры.

— А можа, гэта вецер? — пачуўся голас Адэлі.

Наступіла цішыня. І зноў загула завея. І зноў да Лёксы даляцеў голас, хрыплы, жаласны, сіратлівы... Крык доўга гучаў, потым сціх тужліва, безнадзейна. І столькі болю, столькі чагосьці нечалавечага было ў хрыплым, надтрэснутым голасе, што мароз пайшоў па скуры. Крык паўтараўся цераз роўныя прамежкі часу, а ў перапынках яшчэ мацней завываў раз'юшаны вецер. Здавалася: ён у паядынку з кімсьці хапае сваю здабычу, шкуматае яе і ў шаленстве шпурляе на зямлю, топча яе і ціхенька скавыча, быццам пасмейваецца. Потым усё пачыналася зноўку. Толькі пачуецца крык — як зноў вецер шкуматае сваю змучаную, знясіленую ахвяру. Раптам, калі ўсё сціхла і вецер пераводзіў дух, каб набрацца сілы перад новай сутычкай, пад акном, што выходзіла на вуліцу, пачуліся нечыя таропкія крокі. Снег рыпеў пад нагамі. Калі крокі крыху аддаліліся, пачуўся пранізлівы крык, ад якога кроў у Лёксавых жылах застыла.

— Хры-ы-ысця-а-а-а-а!..

Недзе завыў сабака, мабыць, з перапуду. І раптам усё сціхла. Зноў завыў вецер у коміне.

Свіст завірухі, выццё сабакі і тужлівы крык яшчэ доўга гучалі ў Лёксавых вушах, аддаючыся болем у сэрцы. У хаце маўчалі. Усё яшчэ прыслухоўваліся. Нарэшце Адэля сказала:

— Гэта бедная Стэфа. Усё дачку кліча: звар'яцела, гаротніца.

Азваўся і Васіль: ён ужо даўно не спаў.

— Не жыць ёй на гэтым свеце. Ходзіць з вёскі ў вёску. Не есць, не п'е. Людзей цураецца, ад усіх уцякае, у кожным чалавеку ворага бачыць.

— А Гэльчын Бобік ужо тры дні вые не сціхаючы,— сказала Адэля,— пысу ў неба задзярэ і вые.

— Пажар будзе,— растлумачыў Васіль.

— А можа Стэфіну смерць чуе...— уздыхнула Адэля.— Што ёй, гаротніцы, пакутаваць? Смерць для яе — адзіны ратунак.

— Бач ты, што немец з народам робіць...— уздыхнуў Васіль.

— Татка, а што немец з Хрысцяй зрабіў? — спытаў Лёкса.

— А тое, што і з усімі, сынок. Некалькі дзён таму...

— У пятніцу,— падказала Адэля.

— Ага. Здаецца, у пятніцу... Немцы сялян на дарогу сагналі. А на той дарозе партызаны завал зрабілі. Навалілі соснаў, ды так загарадзілі, што ні табе праехаць, ні прайсці, хоць ераплан выпісвай. А немцы ўжо ведаюць: дзе завалы, там і міны. Ужо не адзін Ганс падарваўся, дарогу чысцячы. І прыдумалі ж, душагубы, мінашукальнікі! Мала таго, што дзяцей жывых у агонь кідаюць. Міны шукаць іх прымусілі, гады!

— Ці ж гэтак шукаюць? Каб у іх саміх кішкі павывальваліся! — з абурэннем сказала Адэля.

— А я што кажу? Дзеля гэтага сапёры ёсць. Яны сваю справу разумеюць, прыладу спецыяльную маюць. А тут загадаў немец, даўгі такі, у акулярах, і на адну на-

гу кульгавы. І вось гэты чорт кульгавы даў каманду людзей да бервяна вяроўкамі прывязаць. А потым: «Шнэль! Шнэль!» — крычаць. Пачалі людзей аўтаматамі падганяць. Цягнуць, бедныя, бервяно. А яно, вядома, цяжкае. Ідуць, спатыкаюцца, падаюць. Ды і страх той жа: што калі раптам на міну наступяць — і жыццю канец. Гэтак і звар'яцець можна. У бедных, мусіць, валасы ад страху варушыліся. А тыя гады лаюцца, пугай падганяюць, калі бачаць, што чалавек з сілы выбіўся. Вось як... Паспрабуй пацягні тое бервяно, а яно ж і за карчы чапляецца. Дарогі зараз няроўныя, пабітыя. Вось і цягнулі яны бервяно тое, пакуль... не падарваліся...

— Божачка ты мой! — усхліпнула Адэля. Хоць яна і ведала ўсю гэту гісторыю, але, слухаючы Васіля, зноў усё перажывала.

— ...І Хрысця таксама. Дык тыя, што з правага боку ішлі, тым нічога. Вось і Стэфа жывой засталася, хоць і розум страціла. А Хрысця з левага боку ішла. Яна, кажуць, і наступіла на міну...

— А божачка ты мой! — выдыхнула Адэля, засмаркалася.— А дзеўка якая была! А прыгажуня! А косы! Не валасы, а лён!..

— Дык во за косы і прыцягнуў яе немец, каб яго самога гэтак смерць цягала! Прыцягнуў ды і прывязаў за косы вяроўкай да бервяна. Здзекаваўся, гад... Хутчэй бы пагібель на іх прыйшла. Ды гэта што! Вунь у царкву нехрысці людзей пазганялі, зачынілі, бензінам сцены аблілі і падпалілі. Усе жывымі згарэлі.

— Бог не даруе,— сурова сказала Адэля.

— Што бог! Раз дапусціў гэткае, дык і чакаць ад яго няма чаго. Бог, бог! Народ не даруе, а не бог. Чула?

Партызаны ўжо ўсе нямецкія гарнізоны разграмілі. Толькі ў Плешчаніцах ды ў Лагойску і сядзяць яшчэ крывасмокі. Але і тым хутка будзе каюк.

— Цішэй ты! Падслухаць могуць! Мала што... Ды і мальца не палохай: разгаварыўся, на ноч гледзячы.

Памаўчалі. Кожны думаў пра сваё. Чутно было, як шамацяць за шпалерамі прусакі. Мірна спалі Іванка і Зося: іх не разбудзіў страшны крык.

— Пакуль той каюк на іх прыйдзе,— зноў загаварыла Адэля,— усіх нас тут пазабіваюць.

Васіль маўчаў. І тады Адэля адважылася:

— Вася, чуеш?

— Ну?

— А можа, усім нам у лес пайсці? Баюся я нешта. Там, кажуць, зацішней.

— Хто яго ведае,— не адразу адказаў Васіль.— І ў лесе на партызан немец аблавы робіць. І там людзі гінуць. Гэта каму як пашанцуе. Напісана на раду доўга жыць, дык і жыць будзеш, а не напісана — нічога не паможа, за куст не схаваешся.

— Сцеражонага бог сцеражэ,— паспрабавала пярэчыць Адэля.

— А ты ўсё са сваім богам, як чорт з пісанай торбай,— незадаволена буркнуў Васіль.

— Памаўчы лепей! Бяду наклічаш! — накінулася на мужа Адэля.

Зноў змоўклі. Цяпер ужо абое думалі аб адным і тым жа — дзе ж больш бяспечна: у лесе ці ў вёсцы?

— Вася, а калі ў партызаны ісці, дык усёй вёскай трэба.

— Чаму гэта?

— А вунь, як у іншых. Адзін пайшоў, а праз яго ўсю вёску спалілі. Усе, значыцца, з партызанамі звязаны... А што далёка хадзіць? Адась Міхалінін... усё з дому сыходзіць, прападае недзе. Можа, партызанам стаў? Усё сакрэты ў яго... Як бы нас праз яго...

— Э, Адэлька! — перабіў жонку Васіль.— Што гэта ты апошні час усяго баяцца пачала? З тваім розумам навалюеш у гэтай вайне! Калі думаць так, як ты, дык і ваяваць нашаму мужыку нельга. Ніхто ж не кажа, што ўся вёска на немца служыць, калі адзін сабака прадаўся. Баба ты. Баба і ёсць. Вайна, брат, гэта не проста так табе. На вайне думаць трэба. Каб не прыціснула мне нагу бервяном, калі страху перасцілаў, пайшоў бы. Да-аўно б пайшоў, таму што шмат зразумеў за гэты час,— сказаў Васіль і цяжка ўздыхнуў.

— Разумны ты вельмі! Немец у тваім паняцці капацца не будзе. У яго свая галава. І куды нам ісці? Вунь з таго часу, як падняла балею з бялізнай, дык ні падняць нічога не магу, ні з месца чаго перасунуць. Вядро вады прынясу—і потам абліваюся, ледзьве ногі цягну. І боль у жываце жыцця не дае. Не-е... няма як нам ісці. Будзем жыць і на бога спадзявацца. Можа, злітуецца,— гаварыла ўсё Адэля. Але Васіль яе ўжо не чуў. Яго змарыў сон. І хутка ён захроп моцна, на ўсю хату.

Лёкса не мог заснуць. Яму было страшна. Ён ляжаў і думаў: і ўсё ж у лесе не так, мабыць, жудасна. І чаму так доўга няма Кузьмы? Вось і сакавік не за гарамі. Хутка снег пачне раставаць і жаваранкі прыляцяць. Ён павінен прыйсці. Не мог жа Кузьма забыць яго? Сам жа казаў: «Дачакайся першых жаваранкаў». Чамусьці Лёксу прыгадаліся і другія словы, тыя, што Кузьма сказаў яму ў пер-

шы дзень іх знаёмства. «Вайна скончыцца — хто будзе новае жыццё будаваць? Не ўсім жа паміраць».— «А можа, яго забілі?.. Не! — адагнаў ён страшную думку.— Такога не заб'еш!» Не ведаў Лёкса, што Кузьма загінуў у Зарэчанскім баі.

Усю ноч ён не заплюшчваў вачэй. А за акном усё лютавала завея, апошняя завея гэтай зімы. Ужо сакавік гукае. Ледзяшоў панавесіў, каб па іх зіма прэч уцякала, у зямлю сплываючы. Таму і злавала зіма, раз'юшылася, што не хацела вясну пускаць.

Вецер раз'юшана гойдаў сосны. І таму, што не мог зваліць магутныя дрэвы, стагнаў знясілена і злосна. І таму яшчэ больш раз'юшана накінуўся на мізэрную постаць, што, хістаючыся, увайшла ў лес.

— Хрысця... Хрысця... дзіцятка маё... Хрысця... дачушка...— ужо шаптала Стэфа пасінелымі вуснамі. Хрыплы шэпт часам пераходзіў у сіплы выкрык:

— Хры-ысця!..

Сілы пакідалі жанчыну. Ёй здавалася, што Хрысця хаваецца ад яе, гуляе з ёй у хованкі. Тады Стэфа лавіла яе, раскінуўшы рукі, і калі здань Хрысці знікала ад яе, яна скардзілася:

— Не хавайся... Хрысця... дачушка... Выйдзі з-за елачкі... выйдзі... там глыбокі снег... мне не прайсці...

І зноў яна лавіла Хрысцю, зноў гукала яе. А наўкол толькі лес, ноч, завея.

Раніцай Стэфу знайшлі нежывую. Яна сядзела на ўскрайку лесу, прыхінуўшыся да сасны, уся зацярушаная снегам. Яна глядзела перад сабой шклянымі вачамі, рот яе застыў у нямым крыку. Здавалася, яна ўсё гукае, гукае сваю Хрысцю...

МАР'Я І СОСНЫ

Партызаны бязлітасна знішчалі ворагаў. Толькі ў Лагойску і Плешчаніцах заставаліся яшчэ фашысцкія гарнізоны. Партызаны псавалі ім тэлефонную сувязь, рабілі на дарогах завалы і засады. Немцы баяліся ездзіць па дарогах, а харчаванне і боепрыпасы ім у Плешчаніцы скідвалі з самалётаў. І вось пачалі яны думаць пра тое, як зноў выкарыстаць шашу. Праўда, яны не забывалі, як у канцы восені зрабілі такую спробу. Але чым усё гэта скончылася? Баючыся нападу партызан, немцы вылучылі тады моцна ўзброеную варту, якая суправаджала абозы. Як заўсёды, выйшлі ў адзін і той жа час з Плешчаніц і з Лагойска, каб сустрэцца ў Слагавішчы і памяняцца там грузам. А калі вярталіся назад у свае гарнізоны, партызаны ўжо чакалі іх у засадах і, выкарыстаўшы зручны момант, адкрылі агонь. Гітлераўцы кінуліся ў лес, але іх чакалі і там. Амаль усе немцы і паліцаі былі перабіты. І партызанам дасталіся вялікія трафеі.

А цяпер партызаны акружылі Плешчаніцы і асаджвалі гарнізон цэлы тыдзень. Потым знялі блакаду і пайшлі ў лес. А другога сакавіка 1943 года начальнік ахоўнай паліцыі і СД у Беларусі Штраўх падпісаў загад аб правядзенні карнай аперацыі пад назвай «Дзірлевангер». У загадзе гаварылася: «У раёне Лагойска, а таксама ў раёнах паміж Лагойскам і Смалявічамі размяшчаюцца вялікія і малыя банды партызан, якія знаходзяцца часткова ў лясах, часткова ў прылягаючых вёсках. Гэтыя банды вядуць актыўную дзейнасць, падрываюць чыгунку на ўсходзе ад Мінска, а таксама арганізоўваюць налёты на шасейныя дарогі.

На барацьбу з партызанскімі бандамі і іх знішчэнне ў Лагойск накіроўваецца батальён Дзірлевангера.

Гэтаму батальёну дадаецца каманда СД пад кіраўніцтвам капітана войск СС Вільке...»

На другі дзень капітан войск СС Вільке прыбыў у Лагойск, дзе ўжо стаяла частка батальёна маёра Дзірлевангера. А праз дзесяць дзён з Магілёва вярнуўся маёр з рэшткамі свайго батальёна. І пачалося... Узняліся агнём вёскі Халмецічы, Ляды, Прылепы, Дуброўка... А ў тых вёсках, дзе не было партызан, усё роўна забівалі старых, жанчын, дзяцей. І фашысты запісвалі іх у графу «забітыя партызаны». За гэта ім давалі ўзнагароды. Ці не ўсё роўна, як знішчаць народ! А загад аб барацьбе з партызанамі фашыстам быў вельмі зручны! Хто там будзе правяраць, кім былі забітыя і спаленыя! Партызан узяць цяжка: у лесе яны адчуваюць сябе, як дома. Хай і расплочваюцца за іх сяляне.

Каб зручней было змагацца з партызанамі і для большай сваёй бяспекі немцы пачалі сячы лясы ўздоўж дарог. На валку лесу яны зганялі сялян.

Горка было Мар'і, сэрца аблівалася крывёю ўсякі раз, калі сасна з глухім стогнам падала на зямлю. Вось і яшчэ адна павалілася. Вось так, мабыць, падае салдат, забіты куляй. Ляжыць і не варухнецца магутны ствол. Толькі галіны яшчэ калышацца, быццам валасы на галаве ад ветру. І яшчэ Мар'і здалося, што, калі падала сасна, маладыя ялінкі падставілі ёй сваё голле, спрабуючы ўтрымаць яе, але сасна, смяротна параненая, усё падала, падала — спярша павольна, а потым імкліва, таму што не ўтрымалі тонкія галінкі суседак магутнае цела сасны. Мар'я ўпотай выцірала слёзы кончыкамі спаўзшай з га-

лавы хусткі. Наўкол шоргалі пілы, стукалі сякеры, а сэрца балюча ныла. «А яшчэ кажуць: бяда не па лесе ходзіць, а па людзях. Сваімі ж рукамі лес нішчым! — думала Мар'я.— А паспрабуй не сячы — тут жа аўтаматам табе ў спіну: шнэль, шнэль, працуй, рус! Як ты пасля гэтага не будзеш працаваць? Калі дома цябе дзеці чакаюць. І трэба ж было ёй трапіць на вочы немцам! Каб ведала, дык зусім у Казыры не хадзіла б. Абышліся б дзеці і без сала». Мар'я моўчкі разбірала завал. Бурчалі сяляне:

— Самі ж завал рабілі. З партызанамі разам. І нядаўна зусім было. А цяпер разбірай. Цьфу! Прападзі яна, жысць такая!

Дарога была перакапана равамі, упоперак яе ляжалі яшчэ раней спілаваныя сосны. Цяпер і іх трэба было з дарогі сцягнуць. І тады яны пілавалі лес. Але ж тады для партызан! І для сябе! Каб немец праехаць не мог, каб не рабаваў, не забіваў. І сосны, здавалася, з радасцю ішлі на гэту ахвяру, каб сабой лес засланіць, людзей ад бяды ратаваць! Цяпер іншая рэч.

Пачуўся шум матораў. Мар'я азірнулася. З боку шашы набліжаліся машыны. Наперадзе ішла легкавая з афіцэрамі, а за ёю два грузавікі. Гэта быў патруль і група сувязістаў. Іх суправаджалі два ўзводы ахоўнага батальёна Дзірлевангера. Паміж Лагойскам і Плешчаніцамі партызаны сапсавалі тэлефонныя правады, вось і выехалі рамонтнікі наладзіць сувязь.

Мар'я стаяла бліжэй за ўсіх. Да яе і падышоў паліцай.

— Партызан тут няма? — спытаў ён і пачаў азірацца па баках. Пужлівыя вочкі яго шнырылі па хмызняку, што стаяў паабапал дарогі.

— Як быццам не, не бачылі,— адказалі за Мар'ю мужыкі.

Патруль паехаў далей. Але не паспелі машыны ад'ехаць і трыста метраў, як прагучала кулямётная чарга і вінтовачныя залпы. Стралялі з лесу.

Паміж партызанамі і немцамі пачаўся бой. Мар'я схавалася ў роў і там чакала, пакуль скончыцца страляніна. Калі ўсё сціхла, яна вылезла са свайго сховішча і ўбачыла сляды бітвы. Гарэла перакуленая машына, [redacted] яшчэ дзве стаялі скасабочаныя, валялася разбітая паходная кухня. Паўсюль ляжалі трупы немцаў і паліцаяў. Сярод забітых аказаўся і самы галоўны паліцэйскі начальнік, той самы, які пытаўся пра партызан.

Партызаны пасля бою зніклі ў лесе. А немцы, падбіраючы параненых, звязаліся па рацыі з гарнізонам, просячы падмогі, каб даганяць партызан.

Пасля гэтага разгрому ўцалелыя фашысты азвярэлі. Яны накінуліся на людзей, акружылі іх цесным колам і пагналі па шашы. Іх было дваццаць шэсць, сялян, што сяклі лес.

— Вы партызаны! Вы ведалі пра засаду! Мы ўсіх вас расстраляем! — крычалі паліцаі, піхаючы іх у спіну прыкладамі.

Каля вёскі Губа сялян прымусілі кінуць сякеры і пілы і пагналі далей, у Плешчаніцы. Раптам адзін паліцай, той, што даваў каманду кінуць сякеры і пілы, загадаў:

— Маліцеся! Можа, тады мы вас памілуем!

І людзі пачалі маліцца. Хто не ведаў ні адной малітвы, таго білі прыкладамі, і яны вымушаны былі хоць што-небудзь шаптаць. Справа ад Мар'і нехта мармытаў па-польску «Езус Марыю», [redacted] за спіной яна пачула бас:

— Отче наш, иже еси на небеси...

Голасу Мар'і не было чуваць: ён патануў у нястройным хоры мужчынскіх галасоў.

Раптам з-за павароту паказалася аўтамашына з салдатамі карнага батальёна Дзірлевангера. Гэта і было падмацаванне, якое прасіў разбіты патруль. Параўняўшыся з групай арыштаваных сялян, карнікі саскочылі з машын і пачалі расстрэльваць сялян з аўтаматаў і кулямётаў. Нехта крыкнуў:

— Уцякайце!

Усе пабеглі. І Мар'я таксама. Але нядоўга яна бегла. Зрабіўшы крокаў дзесяць, яна адчула, як нешта моцна штурханула яе ў спіну і стала горача-горача ў грудзях. Потым яна ўбачыла, як падаюць сосны. Спярша яны былі крывава-чырвоныя, як на захадзе сонца, потым сталі барвовыя, потым чорныя і раптам зусім асмаленыя, як вугаль. Але гэта падалі не сосны, а Мар'я. Яна падала, раскінуўшы рукі, быццам хацела ўтрымацца за галіны дрэў. І маладая ялінка падставіла ёй свае галінкі, спрабуючы падтрымаць яе. Важкае цела Мар'і ўпала, нібы ссечаная сасна, толькі рукі слізганулі па іглiцы. Мар'я павалілася са стогнам. І больш не ўстала. Ужо не бачыла яна, як немцы пераловілі сялян, якія разбегліся, загадалі легчы на дарогу тварам да зямлі і расстралялі іх з кулямёта. Яна ляжала так, нібы сваёй спіной засланіла лес, і маўклівы дакор застыў у яе вачах. Голле маладой ялінкі дробна дрыжала над ёю і ўсё асыпала слязінкі на мёртвы Мар'ін твар...

# СНЫ АДАСЯ

Белае воблачка паказалася над лесам. Па-ранішняму чыстым нядаўна было неба, і вось — воблака. Яно паявялічваецца, расце, быццам ветрам гоніць яго бліжэй, бліжэй... Ды гэта ж бусел! Цікава, чаму ён прыляцеў у сакавіку?

Адась стаіць ля агароджы і, узняўшы галаву, глядзіць на вялікую белую птушку. Выцягнуўшы ногі і шыю, тая плаўна кружыла над высокай бязлістаю ліпай, над сваім гняздом. Адась падумаў, што следам за буслам прыляціць і бусліха. Вось толькі гняздо паправіць, зацыруе новымі прутамі дзіркі, прынясе травы, саломы, анучак розных, каб подсціл цёплы для птушанятак быў. Але дзе яму цяпер усё гэта здабыць? Травы няма яшчэ, і мароз па начах не-не ды і кусане. Не замёрз бы. «Рана, рана прыляцеў ты, бусел»,— у сне падумаў Адась. Ён паглядзеў пад ногі, хацеў убачыць блакітны наздраваты снег. Але раптам адчуў, як ногі правальваюцца ў нешта мяккае, цёплае. Адась стаяў ужо не на снезе, а на чырвонай, сагрэтай сонцам канюшыне. Над сакавітымі мядовымі кветкамі лятalі пчолы і вельмі моцна гулі. Зірнуў Адась на ліпу — а на ёй лісцікі зялёныя, ■ на вяршыні гняздо, ■ з гнязда дзюбачкі чорныя павытыркаліся, разявілі дзюбачкі бусляняты, шыйкі выцягваюць, есці просяць. А самі да таго блакітна-белыя, быццам камячкі вясенняга расталага снегу! «Мусіць, я сплю»,— зноў падумаў у сне Адась. Але вось прыляцеў бусел-бацька і сеў на край гнязда. У дзюбе яго выгіналася чорная, бліскучая на сонцы гадзюка. Спалохаўся Адась, адскочыў да хаты і з ганка пачаў назіраць, як бусел глытае здабычу. А гадзіна

так выкручваецца, так выгінаецца, потым злаўчылася — жыг уніз! Маланкай бліснула ля ног Адася, з шыпеннем знікла ў агародчыку.

— Эх ты, разява! — зазлаваў на бусла Адась.

І ў той жа момант з усіх куткоў двара павыпаўзалі гады. Замест змяіных галоў у іх галовы старасты Біса з суседняй вёскі. І на ўсіх нямецкія шэрыя круглыя шапкі, а над казыркамі бялеюць косткі і чарапы. Гады чамусьці не шыпяць, а гудуць, цягнуцца доўгімі чырвонымі языкамі да Адася, вось-вось уджаляць... Прыгледзеўся Адась і бачыць: не языкі гэта, а полымя з іх глотак вылятае. Прыціснуўся да дзвярэй Адась. Як зачараваны, глядзіць на кола агню, якое ўсё больш звужаецца наўкол яго. Раптам адна гадзюка — скок на грудзі Адасю! Абкруціла шыю, душыць пачала. Вось-вось задыхнецца Адась... Тут дзверы за яго спіной адчыніліся — і ён праваліўся ў чорную бездань.

Прачнуўся Адась мокры ад халоднага поту. Нешта сціскала грудзі. Некалькі хвілін ляжаў з заплюшчанымі вачамі, не мог зразумець: ява гэта ці сон? І раптам пачуў ля твару нешта падобнае на гудзенне. Адась зрабіў намаганне і расплюшчыў вочы — на яго глядзела мяккімі прыжмуранымі вачамі кошка Машка, якая мірна драмала на Адасевых грудзях. Сагрэтая целам хлопчыка, Машка лагодна муркала.

— Псік, халера! — закрычаў сонны Адась. І, сагнаўшы з сябе кошку, павярнуўся на другі бок. Але спаць не хацелася.

За акном віднела. Цікалі ходзікі на сцяне. У падпеччы шкраблася мыш. «Зерне пачула. Няйначай, як мех прагрызла»,— мільганула ў галаве Адася. Але адразу ж за-

быўся на зерне, бо ён яшчэ жыў у сне. Не мог пазбыцца ад пачуцця агіды і страху. Быццам усё, што прыснілася, было на яве. Ён уздрыгануўся пры адным успаміне аб гадзюках. «І трэба ж было прысніць такое! І што гэта можа азначаць? Можа, гэты сон што-небудзь прарочыць? Мамку спытаю. А гэтага Біса намалюю з галавой гада і пушчу па яго вёсцы. Во раззлуецца! Гадзюка і ёсць, раз немцам служыць. Наш дзядзька Юзік, хоць мы і выбралі яго старастам, нікога і пальцам не крануў, драбочка не адняў, адным словам, свой чалавек. А гэты... хоць і не наш, не хатынскі, а ні нам, ні сваім аднавяскоўцам жыцця не дае... Прыстукнуць бы яго, як гадзюку тую, сапраўдную...»

І прыгадаў Адась...

Летась бусел змяю выпусціў, праглынуць не паспеў, вырвалася ўсё ж і выпала з гнязда на зямлю. Змучаная, пасля таго як пабывала ў дзюбе, гадзіна павольна адпаўзла ў кусты. Тады Адась і Толік Бараноўскі схапілі калы і дабілі пачвару.

«Нічога, дачакаешся і ты свайго. І ты, і ўсе паліцаі. За ўсё адпомсцім. Бокам вам выйдуць слёзы нашы». Чамусьці менавіта сёння дужа ненавідзеў здраднікаў Адась. І пачаў ён марыць, як адпомсціць за ўсё гора, за ўсю крыўду хатынцаў, за ўсіх людзей, жывых і мёртвых. Вось толькі б пайсці яму ў партызаны. Ужо заспявалі першыя жаваранкі, і заўтра ён пойдзе ў лес. У дарогу ўсё гатова, і ён чакае сігналу ад Савелія. Адась у марах бачыць сябе падрыўніком на чыгунцы. Адзін за адным узлятаюць у неба варожыя эшалоны. Гэта ён, Адась Туманскі, падрывае іх. І вось ён у зямлянцы. Сам камандзір брыгады дзядзя Вася паціскае яму руку, дзякуй кажа.

А вось ён ратуе Марыю, сінявокую дзяўчыну, па якой сохне не адзін хлопец. Адась забівае немца, і абое, Адась і Марыя, бягуць у лес да партызан. Марыя таксама яму кажа дзякуй, толькі не руку паціскае, як дзядзя Вася, ■ сарамліва цалуе свайго збаўцу. Уявіўшы сабе, як Марыя цалуе яго, Адась адчуў, як салодкая хваля ахінула сэрца. І так прыемна яму раптам стала ад незразумелага яшчэ пачуцця! Аддаўшыся марам, Адась і не заўважыў, як зноў заснуў. І сны завялі яго далёка-далёка...

Ідзе Адась па прывольным квяцістым лузе. Вецер, рамонкавы, цёплай хваляй забіваецца ў ноздры, вочы, вушы, матляе кветкі, кудлаціць валасы. Ці раптам уляжацца вецер, і тады ў цішыню мядовую акунецца Адась. Толькі чутно, як стракочуць конікі ды жаваранкі ў небе спяваюць. Раптам бачыць Адась: насустрач двое ідуць. Ды гэта ж ён сам, маленькі Адасік! У чырвонай палатнянай кашулі да пят, галоўка белая-белая, нібы лён, а вочкі-васілёчкі сумныя-сумныя. Побач з ім бацька крочыць.

Параўняліся яны.

— Адкуль ты? — спытаў старэйшы Адась малодшага.

— З маленства...

— А ідзеш куды?

— Далёка-далёка...— нібы рэха, азваўся Адасік, не спыняючыся.

Бацька быццам не бачыць, не чуе нічога. Ідзе высокі, з ганарліва ўскінутай галавой, і глядзіць некуды ўдалячынь. А ў вачах яго смутак. Ён ступае павольна, цяжка і моцна трымае за руку Адасіка. Адасік быццам і не ідзе, а, як птушанятка, пырхае над лугам, і трава пад яго нагамі не ўгінаецца.

Спыніліся яны. Адасік пытае:

— Татка, а дзе ж хаты?

— Кветкамі параслі.

— Але ж гэта аксамікі! Яны растуць толькі на могілках!.. Татка, ты чуеш?.. Званы звоняць!

— Чую, сынок.

— А чаму так жалобна звоняць?

— Гэта зямля стогне.

— А што за птушкі ў небе спяваюць?

— Жаваранкі.

— Вазьмі мяне на рукі. Я маленькі. Мне нічога не відаць. Я пагляджу на іх зблізку.

Бацька падняў Адасіка на рукі.

— А мне больш падабаецца, як спяваюць жаваранкі, а не званы.— Адасік засмяяўся.— Я хачу да іх, татка!

І з гэтымі словамі Адасік пацягнуўся рукамі да жаваранкаў, да сонца, адарваўся ад бацькі і, як птушанятка, узляцеў угору. І там, высока ў небе, яго звонкі смех зліўся з песнямі жаваранкаў.

— Куды ж ты, сынок? Вярніся! — закрычаў бацька.

Але Адасіка ўжо не было. Ён стаў жаваранкам. І як ні ўглядаўся бацька, не мог ён распазнаць свайго Адасіка. Паспрабуй разгледзь, дзе там твой жаваранaчак! Маленькія, шэранькія, яны лятаюць у блакітным неабсяжным небе над прывольным лугам, спяваюць пра нешта сваё, дзіцячае, светлае. А аднекуль знізу, з-пад кветак, з-пад зямлі ім уторыць самотны перагуд званоў. І ўжо не бацька, а маці бяжыць басанож па лузе і ўсё гукае, гукае свайго сыночка:

— Адасік!.. Адасік!.. Вярніся!..

## ТРЫВОЖНАЯ РАНІЦА

Міхаліна завіхалася ля прыпечка. Бразнуў пусты чыгунок, засланка.

— Адасік! Прачніся, сынок! Не к дабру нешта разаспаўся! Ідзі дроў насячы! І вёдры пустыя стаяць. Памажы, дзіцятка. Бацька толькі ўвечары, мабыць, вернецца,— будзіла сына Міхаліна.

Нібы ржавыя вароты, ашалела завішчала на ўсю хату Машка: Міхаліна наступіла ёй на хвост.

— Псік, каб цябе халера! Замінае тут пад нагамі!.. Адась! — ужо злосна крыкнула Міхаліна.

Адась працёр вочы, неахвотна ўстаў. Незразумелая туга сціскала сэрца. І, каб аблегчыць сваю душу, расказаў пра свае сны маці. Выслухала Міхаліна і сказала:

— Нядобрыя твае сны, дзіцятка. Ворагу б нашаму такія сны...

У сенцах пачуліся крокі, і тут жа ў дзвярах паказалася галава бабкі Тэклі.

— Ці ёсць тут хто жывы?

— Пакуль усе жывыя, кума,— нявесела адгукнулася Міхаліна.

— Позненька нешта вы ўстаеце сёння. А вось мне дык не спалася. Сэрца за ноч набалела. Так набалела, што ні ўздыхнуць, ні войкнуць не магла. І чаго толькі не перадумала! І чаго толькі не прыпомніла! Змучылася ўся. А твой дзе?

— Пайшоў звечара. Можа, вымяняе вілкі ды сякеру на што-небудзь? Ды і солі няма. А без солі як? Сама ведаеш.

— Як не ведаць,— адказала Тэкля.— Мая сякера за-

тупілася, і дроў не насячэш. Добра табе, Міхаліна: гаспадар у хаце, ды яшчэ каваль.

І пачала расказваць Тэкля пра свае горкія думы, на жыццё скардзіцца. Міхаліна таксама падзялілася з ёю пра свае турботы, пра сны Адася расказала. Перахрысцілася Тэкля, як пачула такія сны.

— Як бы немец не прыйшоў. Вось жа Рудню спаліў, Халмецічы, Ляды... Усё агнём пусціў. А дзетак колькі загубіў! А каб табе рукі паадсыхалі! А каб цябе самога на тым свеце агнём пякло, не адпускала! І за што нас бог пакараў? Наслаў жа на нашу галовачку нячыстую сілу! Кладзешся спаць і не ведаеш, што цябе раніцой чакае...— бедавала бабка Тэкля.

Паслухаў Адась размову маці і бабкі Тэклі, і на сэрцы яшчэ больш трывожна стала. Узяў ён вёдры, па ваду пайшоў.

Прастуджана зарыпеў калодзежны журавель, Адась акунуў дубовае вядро ў чорную сцюдзёную ваду і пачаў выцягваць яго з калодзежа. Разгойдваецца вядро, выплёскваецца вада і недзе глыбока плюхаецца з глухім звонам. Нахіліўся Адась над калодзежам, глядзіцца ў зыбкае люстэрка. Раптам побач з яго галавой яшчэ адна галава ўзнікла, скача, крыўляецца.

— Ау! Адасік!.. Ха-ха-ха!..

— Ха-ха-ха!..— рэхам адгукнулася ў калодзежы.

Ад нечаканасці ўздрыгануў Адась, і паўвядра вады плюхнула ўніз. Адась азірнуўся. За спіной стаяла Марыя. Угледзелася яна ў твар хлопца і смяяцца перастала.

— Што гэта ты сёння такі?..— пытае.

— Які? — збянтэжыўся Адась.

— Дзіўны ты. Сумны.

— А чаго радавацца? — адказаў Адась і сумна-сумна паглядзеў на Марыю. Узяў у дзяўчыны вядро, памог ёй вады набраць. Марыя стаяла і задуменна церабіла кончыкі сваёй хусткі. Прыціхла чамусьці.

— Бач, які ты сёння?.. Калі ўжо такі, дык можа і зерне за мяне намелеш?.. Партызанам! — апошняе слова яна шапнула яму на вуха, абдаўшы сваім цёплым, як сырадой, дыханнем.— Прыйдзеш?

— Прыйду,— буркнуў Адась, усміхнуўся Марыі і пайшоў ад калодзежа, ступаючы асцярожна, каб не разліць ваду.

За стол у Адэлінай хаце сёння селі пазней звычайнага: Васіля чакалі. Ён хадзіў па дварах, яйкі збіраў. Заўтра павязе іх у Барысаў на соль выменьваць. Скончыліся запасы солі і ў сялян, і ў партызан. Кепска без солі. Так вось і жывуць хатынцы: пазбіраюць яйкі з кожнага двара, потым у Барысаў па чарзе возяць, на соль мяняюць, і соль гэту паміж сялян і партызан дзеляць. Цяпер Васіль у Барысаў паедзе. Вось і ходзіць ён па дварах.

Вярнуўся Васіль, калі ўсе сядзелі за сталом і выскрэбвалі рэдкую зацірку. Васіль падсеў да стала.

— Што з іх возьмеш,— бурчаў ён, падносячы лыжку да рота.— Тэкля плача, курыца несціся перастала. У Іосіфа Бараноўскага адзінаццаць чалавек, дзевяць бясштанікаў бегае, вывадак цэлы. Ад такіх і адно яйка адняць грэх. Выкруцімся як-небудзь, дадзім ім солі.

Адэля, прыбіраючы са стала, скардзілася на лёс. Вось і жыта канчаецца, хутка не тое што на хлеб, на зацірку мукі не будзе. Вясна ўжо ж. Зіму неяк перазімавалі, а цяпер хоць зубы на паліцу.

— Лялю карміць няма чым. Адны рэбры тырчаць. Два літры толькі і надаіла. Што ж гэта будзе, Васіль?

— А тое і будзе. Вунь Бараноўскі кажа: «Да траўкі б дажыць». Як усе, так і мы. Каб толькі немец не прыйшоў. Неспакойна нешта. Ціха ў вёсцы. Нават сабакі не брэшуць. Што б гэта магло азначаць? Ходзяць чуткі, быццам немец за партызан во як узяўся! Лес высякаюць. Баяцца, гады. Каб іх саміх павысякала!

— Быццам галосіць нехта?.. Чуеш?..— Адэля застыла з ручніком у руках. Васіль прыслухаўся.

— Сабака вые,— сказаў ён.

— Не хацела табе казаць, Вася. Таму што ведаю: не любіш ты прыкметы слухаць. А сёння скажу. Ляля наша... так жаласна глядзела на мяне, так жаласна... усю раніцу рыкала, з хлева ўцячы намагалася... Во, чуеш?.. Зноў рыкае... Ой, чуе маё сэрца...

— Сціхні, Адэлька! — не даўшы дагаварыць жонцы, раптам прыкрыкнуў на яе Васіль.— Бач, што надумала!.. Усё будзе добра, дурнічка,— закончыў ён ужо лагодна. А ў самога трывожна забілася сэрца.

## ПРАЛЕСКА

Спехам паснедаўшы і насекшы дроў, Адась ішоў да Марыінай хаты, каб малоць жыта партызанам. Сустрэча ля калодзежа нешта перавярнула ў яго душы, напоўніла яе незразумелай радасцю. Сны, страхі, голад, невядомасць заўтрашняга дня — усё засталося ззаду. Зараз была толькі Марыя, ён і вясна! Адась падыходзіў ужо да Марыінай хаты, як раптам напалохаўся нечага. Як паду-

маў, што яны ўдваіх жыта будуць малоць, так і збянтэжыўся. Павярнуўся... і пайшоў у лес. Нешта вабіла яго туды, хацелася паблукаць аднаму па лесе, паслухаць, як прачынаецца зямля, як устае леташняя трава, прымятая снегам.

Адась загледзеўся на ручай, які булькаў пад скарынкай заледзянелага снегу, упарта прабіваючы сабе дарогу, і там, дзе яму было не па сіле пераскочыць снежны грудок, ён ухітраўся прасачыцца пад ім. Потым з новай сілай вырываўся на волю і з вясёлым цурчаннем нёс з сабою шыгалле і кавалкі кары. Адась ішоў за ручаём і раптам замёр: у снежнай ямцы, пад ялінкай, куды завёў яго ручай, сінела пралеска! Адась стаяў зачараваны. Яму ніколі не даводзілася бачыць, як пралеска прабіваецца з-пад снегу. Зараз ён убачыў гэты цуд. Глядзеў і вачам сваім не верыў. Ды і ранавата! Але кветка сінела, чыстая, нібы бязвоблачнае неба, глядзела на Адася сваім адзіным вокам чулліва і далікатна. Яна быццам сама напрошвалася, каб яе сарвалі для Марыі. І Адась падышоў, асцярожна сарваў кволую кветачку. Ён панёс яе асцярожна, затуляючы рукой, каб не пашкодзіць тонкія пялёсткі незнарок зачапіўшай галінкай. Адась ішоў да Марыі.

Так і не змалолі яны жыта. Адась выскачыў з гумна ўвесь пунсовы, адчуваючы на сваіх вуснах першы трапяткі пацалунак Марыі. Гэта здарылася неспадзявана для іх абаіх. Калі Адась увайшоў у гумно, Марыя ўжо была там. Адась сціпла падаў дзяўчыне кветку. Марыя заружавелася ўся, але адолела збянтэжанасць і папрасіла:

— Прадзень мне яе ў касу!

Адась дрыготкімі непаслухмянымі пальцамі стаў упрыгожваць ільняную касу Марыі, што важкім вянком

ляжала на галаве. І пакуль ён упрыгожваў дзяўчыну, падносячы ёй падарунак першага кахання, першую пралеску, Марыя, сама таго не чакаючы ад сябе, прыўстала на пальчыкі і ціха дакранулася вуснамі да яго вуснаў. Адась, не памятаючы сябе, абняў Марыю, прыціснуў да сябе, потым рэзка адштурхнуў яе і выскачыў з гумна.

## АПОШНІ ДЗЕНЬ

Расправіўшыся з сялянамі, што секлі лес, эсэсаўцы паехалі далей. Дарога іх ляжала на Хатынь: нехта сказаў, што менавіта туды пайшлі партызаны, якія напалі на патруль.

Гэта быў панядзелак.

Радаваліся старыя вясне. Наліваліся сокам бярозы, вось ужо і пратапінкі з'явіліся, у вёсцы амаль не засталося снегу, толькі ў лесе ён яшчэ ляжыць рыхлы, мокры. Птушкі спяваюць, заліваюцца, у паветры пахне смалой ад соснаў, нагрэтых за дзень сонцам.

Прылёг Карабан на лавачцы, на сонейку грэецца. Выйшла з хаты Алена.

— Бач, распесціўся, стары кот! — і сама падставіла твар сонцу, якое ўжо хілілася на захад.

— Распесцішся, калі сонейка грэе так цёпла,— зажмурыўся Карабан.— Хоць бяры ды памірай. Так добра!

Падышоў Васіль.

— Рана паміраць. Пабралі ўсё ў нас, гады!

— Абы галава была ды рукі. Усё нажывём,— адказаў Карабан.— А паміраць мне можна. Вунь колькі параосткаў нашых, Карабанавых, амаль уся Хатыня! Хай растуць здаровенькія.

Падышла Тэкля з вёдрамі. Сказала з дакорам:

— Ляжыце, на сонейку грэецеся. Як бы немец не прыйшоў. Гэта ж трэба! Ніхто лес высякаць не пайшоў! Аніводнай душы з Хатыні! Каб іх там, гадаў, усіх соснамі падушыла! — прынесла бабка Тэкля разам з вёдрамі, поўнымі вады, і навіны, што чула ля калодзежа.

— Не сварыся, Тэкля! Дай лепш вады напіцца,—папрасіў Васіль.

Алена вынесла конаўку. Зачарпнуў Васіль сцюдзёнай вады з вядра, у якім неба блакіт адбіваўся. П'е са смачным прыхлёбваннем, усё вышэй галаву закідвае. А струменьчыкі цякуць за каўнер расшпіленай кашулі, казычуць, апякаюць холадам грудзі. Напіўся Васіль, крактануў ад асалоды. Рэшткі недапітай вады на курэй выплюхнуў. Разбегліся з кудахтаннем куры.

— Ну, пайшоў я. Адэля, мусіць, зачакалася. Свята ж сёння.

— Якое? Нешта не прыпомню,— сказаў Карабан.

— Саракі! — за Васіля адказала Тэкля.— Гэта ж сорак вяровак трэба сёння парваць, каб сорак пакутнікаў ад пакут выратаваць! — растлумачыла яна.

— Бараноўскага дзеці перакінулі вяроўку цераз бэльку ў хляве і гушкаюцца на гэтых арэлях. А вяроўка ўсё ніяк не рвецца,— уставіла бабка Алена.

— Дык гэта ж давядзецца пакутаваць сарака пакутнікам,— перахрысцілася Тэкля.

— На аднаго меней будзе! Мой Лёкса вяроўку парваў ужо, дык я яго гэтай жа самай вяроўкай па задзе перахрысціў,— весела пажартаваў Васіль і, смеючыся, закульгаў да сваёй хаты.

Жоўта-зялёныя грузавікі, бітком набітыя эсэсаўцамі, павольна, перавальваючыся з боку на бок, едуць па ляснож дарозе. З-пад колаў ляціць расталы, перамешаны з зямлёй снег. Дарога ўхабістая, машыны гайдае. На грузавіках, пафарбаваных у ахоўны колер, не відно гразі. Затое «дворнікі» з рыпеннем размазваюць карычневую жыжку па шкле...

Грузавікі спыніліся за вёскай Губа, не даехаўшы да Хатыні. Эсэсаўцы саскочылі на зямлю, прывялі ў баявую гатоўнасць аўтаматы, кулямёты і мінамёты. Афіцэр загадаў ціха падысці да Хатыні і акружыць яе. Зялёныя і чорныя шынялі рассыпаліся па лесе, рэдкім ланцужком падступаючы да Хатыні.

Ледзьве цікаюць «ходзікі» на сцяне. Трэба падцягнуць гіру: зусім нізка апусцілася, гадзіннік вось-вось спыніцца. Але ніхто гэтага не заўважаў. Воўкава цётка прала. І раўнамернае гудзенне калаўрота навявала на хлопчыка сон. Сястрычка Соня няньчыла ў кутку ляльку, пашытую з анучак. Воўка і Соня апошні час жылі ў цёткі і толькі зрэдку наведвалі сваю хату. Вялікая сям'я ў каваля Антона Яскевіча. Раней было сем чалавек, а як прывёў старэйшы сын нявестку ў хату, а потым Толік нарадзіўся — зусім цесна стала. Вось і ўзяла да сябе Воўку з Соняй адзінокая цётка, сястра Воўкавай маці.

Воўка выйшаў з хаты і зажмурыўся: пасля прыцемак яркае сонца так і пырснула ў вочы. Ён удыхнуў вільготнае паветра разам з гаркавым дымком, што віўся з комінаў над хатамі, і, задаволена ўсміхаючыся, падставіў твар сонцу. Позірк яго спыніўся на старой, пахілай шпакоўні, прыбітай да страхі свірна. І Воўка падумаў, што хутка прыляцяць шпакі, і што ім прыемна было б жыць у но-

5 Зак. 3864

вай хатцы. Праз некалькі хвілін за склепам застукаў малаток — гэта Воўка майстраваў новую шпакоўню. Калі шпакоўня была гатова і да яе засталося прыбіць толькі шост, не хапіла аднаго цвіка. Воўка адкінуў малаток і пайшоў у свіран па цвікі. Але толькі ён выйшаў з-за склепа, як пачуў страляніну. Хлопчык спыніўся. Страляніна далятала з левага боку, з бярэзніку, цераз які ішла дарога на Слагавішча. Воўка зірнуў у той бок і... абамлеў: проста на яго ішлі немцы. Яны былі яшчэ далёка і не заўважылі Воўку. Яны ішлі прыгнуўшыся, крадучыся, трымаючы напагатове аўтаматы. Воўка адскочыў назад і прытаіўся за склепам. Неўзабаве ён пачуў, як на ганку хаты загрукалі цяжкія падкутыя боты, потым закрычала цётка — прагучаў стрэл... і стала ціха. А праз некалькі хвілін цыбатая постаць кінулася ў хлеў, потым у свіран, як быццам немец шукаў кагосьці. Не, не выганяў ён карову, не ганяўся за курамі. Забілася Воўкава сэрца ад страху: не рабаваць прыйшоў немец, а забіваць! Не стаў чакаць Воўка, пакуль знойдуць яго за свірнам, і паўзком пачаў прабірацца ў лес, у бок Мокрадзі.

Адась бег ад Марыі, ног не чуючы пад сабой ад шчасця. Ён бег па лужынах, не разбіраючы дарогі. Насустрач імчаўся Сцяпан.

— Немцы! Усю вёску ачапілі! — крыкнуў ён Адасю, прабягаючы міма.

Адась спыніўся. Да яго свядомасці не адразу дайшоў сэнс пачутага. Але вось зноў нехта закрычаў:

— Немцы! Хавайцеся!

Адась пабялеў. Апамятаўся і зноў пабег, прастуючы

па гародах, пераскакваючы цераз нізкія платы. Задыханы, убег у хату і з парога крыкнуў:

— Немцы!

Марыя ўвайшла ў хату пунсовая. Вочы яе ззялі, нібы два васількі ў расе. У льняных косах сінела пралеска. Маці як глянула на Марыю, адразу ж адчула сваім мацярынскім сэрцам: закахалася дзеўка. Але і выгляду не падала, што заўважыла перамену ў дачцэ, ды і Бараноўскія, маці з сынам Толікам, у іх гасцявалі. Марыя прайшла ў свой пакойчык. Ганна гаварыла далей:

— А наша Кудрэля, дзякуй богу, ладная скацінка, карміліца наша. Дай бог ёй здароўя. Вось толькі да траўкі дажыць бы. Глядзіш: нешта і надоіш. Ды вось саломы рэшткі засталіся і бацвінне канчаецца. Хутка карміць не будзе чым,— скардзілася Ганна.— Вось і Марыю апрануць няма ў што. Расце дзеўка, нібы травінка ў вясновы дождж. Нявеста ўжо! — апошнія словы Ганна шапнула на вуха Бараноўскай, каб не пачула Марыя, і азірнулася на пакойчык, куды толькі што ўвайшла дачка.

Толік дапіваў апошні глыток малака: яго пачаставала Ганна, як раптам у хату ўварваўся крык:

— Немцы!

— Немцы! — кінуў з парога Лёкса.

Уздрыганулася Адэля. Неяк дзіўна зірнула на сына, потым перавяла вочы на мужа. У хату даносілася страляніна.

— Чуеш, Вася?.. Вось яно... пачалося...— прашаптала пабялелымі вуснамі Адэля. І ў гэту хвіліну твар яе, застылы і строгі, нагадваў ікону.

— Немцы!.. Немцы!..— неслася па Хатыні.

— Манька!.. Юзік!.. Дзе вас чэрці носяць!.. У хату!.. Хутчэй!.. У склеп лезьце!.. У хаце знойдуць!.. Дзеці!.. Юзік!.. Манька!..

Доўга не сціхала страляніна. Потым наступіла цішыня. І раптам у акно Міхаліны забарабанілі кулакамі, і тут жа нехта закрычаў на ўсю вуліцу:

— На сходку! Усе! І дзеці таксама! Хутчэй!.. На сходку!.. Усе!..

— Усе?.. Навошта?.. А дзецям навошта?.. Аво-ой-авой! — забегала па хаце разгубленая Міхаліна.— Мы ж нічога не пахавалі! Давайце, дзеткі, хоць што-небудзь у прыпечак засунем... можа, і не знойдуць...

— Хутчэй!.. Хутчэй!..— даносіліся з вуліцы галасы паліцэйскіх.

— А чорт яго бяры, дабро гэта! — раптам спынілася Міхаліна пасярэдзіне хаты з ільняным абрусам у руках, нядаўна сатканым Стасяй.— Можа, і не возьмуць нічога... а скажуць ды пойдуць...— і кінула абрус назад у куфар.

— Мама, я не пайду на сходку. Я лепш у кусты схаваюся,— сказаў Адась, прадчуваючы нядобрае.— А раптам у Германію пагоняць? Ці ў паліцаі прымусяць ісці?

— Сынок! А калі пытацца пра цябе будуць? Бачылі ж цябе! Ты ж усіх нас загубіш! — пачала прасіць Міхаліна.— Пойдзем! Усе пойдзем!.. Можа, і абыдзецца... Міша!.. Віля!..— паклікала Міхаліна малодшых сына і дачку.— Хадземце, дзеткі! Стася! Хадзем, дачушка! — Стася ўжо другі дзень гасцявала ў маці. Сёння дамоў збіралася.

Усе выйшлі з хаты. Да іх дому ўжо падыходзіў Васіль з сям'ёй. Міхаліна ўбачыла белы, як палатно, твар Адэлі, вочы яе, што безуважна глядзелі перад сабой. Яна ішла, адной рукой абняўшы Лёксу, які прыціснуўся да яе і дробненька перабіраў нагамі, каб паспець за маці, другой — вяла Іванку. Васіль і Сцяпан замыкалі шэсце. Раптам Адэля павярнулася і неяк надломана закрычала.

— Зоська-а!.. Зося!.. Мы ж Зосечку забылі...— апошнія словы яна прагаварыла жаласліва, з маленнем гледзячы на Васіля.

— Можа, схавалася дзе-небудзь,— сказаў Васіль.— Няважна.— І падумаў: «Калі нас... дык хоць Зося жывая будзе».

...Як убачыла Міхаліна гэту сям'ю, дык усё ўсярэдзіне ў яе пахаладзела. «Ці не ў апошнюю дарожаньку сабраліся? Дзеля чаго нас на сходку клічуць? А дзяцей для чаго? А можа, не ісці? А можа, хоць дзетак пахаваць? Але куды? А можа, дарэмна я Адася ў кусты не пусціла? А малых дзетак навошта?..»

— Да вашага гумна ідзіце,— кінуў ёй Васіль, праходзячы міма.

— Да гумна? Навошта? — ёкнула сэрца ў Міхаліны.

— А хто ж яго ведае? Сказалі так,— сурова адказаў Васіль.

— А божачка мой, божа! Адасік, родненькі, а можа, ты ўцячэш?.. А можа, дзетак пахаваць?..

— Позна ўжо,— пабялелымі вуснамі адказаў Адась.

Так, ужо было позна. Эсэсаўцы прыспешвалі людзей, выганялі ўсіх з дамоў, упартых падганялі прыкладамі. Ля хаты Савелія пачулася кароткая аўтаматная чарга, нехта закрычаў, загаласіў, яшчэ стрэл, і ўсё зноў сціхла.

Міхаліна стаяла, аслупянелая. Потым паглядзела ў неба, у якім мірна ззяла сонца, быццам чакала адтуль ратунку, потым узяла дзяцей за рукі і паволі, цяжкімі шырокімі крокамі пайшла да гумна.

Не паспелі пайсці Бараноўскія,— у хату ўварваліся немцы. Выгналі ўсіх, пакінулі адну Марыю.

— Мамачка! Родненькая!.. Ратуйце-е-е-е!.. А-а-а!..

Пачула Ганна крык дачкі, рванулася да ганка, ды немец ашчэрыўся, замахнуўся на яе прыкладам:

— Цурук!

Нешта загрымела ў хаце, ці то стол, ці то лаўка перакулілася. І ўсё сціхла. Марыя больш не крычала. Калі адчыніліся дзверы і на ганак немцы выпхнулі Марыю, яе нельга было пазнаць. Каса яе распусцілася і светлай хваляй падала на плечы і аголеныя грудзі, што віднеліся з-пад разадранай ільняной сарочкі, у валасах заблыталася змятая пралеска. Пасмачка валасоў падала на бледны, нейкі чужы, не Марыйчын твар, расшыраныя вочы дзіка блішчалі. Ганна з крыкам кінулася да дачкі:

— А дачушачка ты мая родная!.. А што ж яны з табой зрабілі! Душагубы праклятыя!..— як звар'яцелая, Ганна рвала на сабе валасы і рыдала.

Марыя безуважна глядзела некуды ўдалячынь. Здавалася, ёй цяпер усё роўна, і толькі смерць можа пазбавіць яе ад ганьбы.

Усіх пагналі да гумна, што стаяла на краі вёскі. Ганна ішла, абняўшы Марыю за плечы, і галасіла. Хатынцы вельмі на іх не глядзелі: у кожнага было сваё гора.

Нават старых і хворых карнікі выцягвалі з хат. Хто супраціўляўся, таго забівалі на месцы. Усё гналі і гналі людзей на край сяла да вялізнага старога гумна Туман-

скага. Басанож, па лужынах і яшчэ халоднай зямлі, па снезе, што не паспеў растаць у зацененых мясцінах вуліцы, ішла нявестка каваля Яскевіча, прыціснуўшы да грудзей спавітага сына. Ішла і галасіла:

— Жаўраначак мой родненькі!.. Ясачка мая ненаглядная!.. Няўжо і цябе ворагі не пашкадуюць!.. Ты ж яшчэ і ножкамі не хадзіў!.. І траўкі зялёненькай не бачыў!.. І зубік толькі ўчора пайшоў!..

— Шнэль! Шнэль! — піхаў яе ў спіну карнік дулам аўтамата.

У адным боце — мусіць, другі не паспеў нацягнуць — кульгаў Пучок. А ледзь жывога, пабітага Карабана мужчыны амаль неслі на руках. Побач плялася бабка Алена і галасіла:

— А куды ж вы яго гоніце на смерць!.. А колькі ж яму жыць тут засталося!.. А далі б яму спакойна памерці ў сваёй хаце!.. Злітуйцеся над ім, панове!..

— Шнэль! Шнэль! Партызан! — раўлі фашысты, не звяртаючы ўвагі на Алену.

У вялізны натоўп упіхнулі сям'ю Бараноўскага. Тут жа апынулася і Тэкля.

— Божачка! Злітуйся над намі! — галасіла яна, заламваючы перад сабой рукі.— А куды ж гэта нас гоняць!.. Пастраляюць нас, папаляць у гэтым гумне!.. А якія ж гэта мы партызаны!.. Хоць бы дзетак пашкадавалі, ірады!.. Няма ў вас сэрца!.. Пагібелі на вас няма, трасца вам у бок!..

А людзей усё больш і больш... Вось мільгануў тварык Антося, яго спалоханыя васільковыя вочкі, і адразу ж яго засланілі ў натоўпе. Страшнае шэсце пацягнулася да гумна.

Быццам куля, імчаўся пад гару Воўка. Ззаду засталася вёска. Мокрыя валасы прыліплі да лба. Набрыняла ад поту кашуля.

Жыг!.. Жыг!..— засвістала над галавой.

«Заўважылі! Толькі б паспець за прыгорак!.. Толькі б паспець!.. А там можна скаціцца снежным камяком уніз!..» Шалёна калоціцца сэрца, вось-вось выскачыць з грудзей... Цяжка дыхаць... падкошваюцца калені... «Яшчэ трошкі!.. Трошачкі!.. Ну!..»

Воўка паваліўся. Раптам стала ціха. Ні ветру, ні свісту куль. Доўга ляжаў з заплюшчанымі вачамі, намагаючыся зразумець: жывы ён ці мёртвы? Паварушыў пальцам, і шалёная радасць ахапіла яго: «Жывы! А можа, паранены?.. Не, нічога не баліць... Як страшна расплюшчыць вочы... Дзе ж гэта я?..»

Воўка праваліўся ў яму, у якой хатынцы хавалі на зіму бульбу.

Яма была пустая, а на дне яе ляжаў снег і падгніўшая салома. Яма выратавала Воўку. Немцы рашылі, што куля дагнала хлопчыка, і больш не стралялі.

Воўка ляжаў, скруціўшыся ў клубочак, баючыся паварушыцца. І ўсё пераджытае зноў замільгацела перад вачамі, нібы ў кашмарным сне. Толькі тут, у яме, дайшло да яго розуму: у Хатынь прыйшла бяда, жудасная, непапраўная.

Немцы ўсіх сагналі ў прасторнае гумно Стэфана Туманскага. Зачынілі дзверы, аблілі заднюю сцяну бензінам і падпалілі. Калі загарэўся саламяны дах і на галовы пасыпаліся іскры, людзі зразумелі, што іх паляць жывымі. З правага боку ляжалі яшчэ не абмалочаныя леташнія

снапы жыта, якія Туманскі пакінуў на чорны дзень. Немцы такія снапы не забіралі, і Стэфан збіраўся іх абмалаціць, калі скончыцца мука. І вось цяпер гэтыя не абмалочаныя снапы ўзяліся агнём. Усе, хто быў у гумне, падаліся да дзвярэй. Лёкса з маці аказаліся прыціснутымі да сцяны. Адэля моцна трымала сына за руку. Полымя разгаралася, і ўжо нельга было дыхаць — пякло паветра. Плакалі дзеці, галасілі бабы, крычалі мужыкі. Вось-вось абрынецца на іх галовы палаючы дах... І тады ў гэтым страшэнным пекле і таўханіне некалькі жанчын усё ж здолелі акружыць сваіх дзяцей, запхнуўшы іх у самую сярэдзіну, і прыкрылі іх сабою: калі абрынецца лавіна агню, дык хай на іх, мацярок! Нават у такую хвіліну яны спадзяваліся на тое, што дзеці застануцца жывымі. Немцы пачалі страляць з аўтаматаў у зачыненае палаючае гумно. Закрычалі параненыя, забітыя наваліліся сваімі целамі на жывых. А агнём ужо ўзнялося ўсё! Тады мужыкі з усяе сілы націснулі на дзверы, але тыя не паддаваліся. І раптам быццам чыясьці рука адчыніла знадворку завалу!.. Дзверы паваліліся разам з людзьмі, жывымі і мёртвымі. Тыя, хто мог, уставалі на ногі і, ахопленыя полымем, тут жа падалі, скошаныя кулямі. Адэлю і Лёксу вынесла з палаючага гумна натоўпам. Ім удалося ўстаяць на нагах, і яны кінуліся бегчы. А немцы ўсё стралялі. Адэля ўпала, пацягнуўшы за сабою Лёксу. І тут Лёксу здалося, што аднойчы гэта ўжо было. Вось так жа бег ён з маці, і яна моцна трымала яго за руку. Вось так жа маці павалілася на зямлю, пацягнуўшы яго за сабой, і прыкрыла яго сваім целам. І так жа грукацела наўкол, і агонь бліскавіцамі гойсаў за спіной. Толькі тады грукацеў гром! Толькі тады была навальні-

ца... І гэта было летам. І не было вайны. Гэта было даўно. Вельмі даўно...

Доўга ён так ляжаў, не варушыўся, слухаючы стрэлы, крыкі, трэск агню. Раптам стала ціха — абрынуўся дах, і адразу скончыліся нечалавечыя пакуты няшчасных.

Адэля не варушылася. Лёкса ціха паклікаў:

— Мама!

Адэля не азвалася. Лёкса ляжаў, прыціснуты яе целам. Анямела рука. Ён яшчэ раз паклікаў:

— Мама!

Адэля маўчала. На ёй тлела адзежа. Лёксу стала страшна. Ён выбраўся з-пад цела маці, адпоўз убок і страціў прытомнасць.

Немцы хадзілі і дабівалі тых, хто быў яшчэ жывы. Адзін падышоў да Лёксы, пхнуў яго ботам і, вырашыўшы, што хлопчык нежывы, адышоўся. Доўга яшчэ не сціхала страляніна.

Далёкія, прыглушаныя гукі даляталі з вёскі да пыгорка. Прытаіўшыся ў яме, Воўка ўсё яшчэ баяўся паварушыцца. Рыканне кароў, якіх гналі немцы, кудахтанне курэй, парасячы віск, галашэнне жанчын, нечалавечыя, дзікія крыкі, стрэлы...

Цішыня наступіла раптоўна.

Хлопчык адубянеў, лежачы ў мокрым снезе. Ён калаціўся, як у ліхаманцы. «Чаму так ціха?» Нядобрае прадчуванне сціснула сэрца. Пакутліва доўга цягнуўся час, але выглянуць з ямы ён баяўся. Неўзабаве з вёскі пацягнула гарам. Горкі дым выядаў вочы. Вецер прынёс пах паленага мяса. Воўку стала моташна. Неяк адразу пацямнела — сонца не відаць. Вось тройчы прагучаў ра-

жок. Хлопчык зразумеў, што немцы пакідаюць вёску. Рашыў яшчэ крыху пачакаць, пакуль яны збяруцца і пойдуць зусім. А калі Воўка вылез з ямы і паглядзеў у бок вёскі, ён не паверыў... ён не хацеў верыць сваім вачам!.. З узгорка было добра відаць — няма Хатыні!.. Там, дзе толькі што стаяла вёска, бушавала мора агню! Іскры снапамі ўзляталі ў чорнае ад сажы неба! І чорны дым клубіўся, засланіўшы сабою сонца!..

І панавала цішыня... Злавесная... Жудасная...

Лёкса апрытомнеў, калі немцы трубілі збор. Нарэшце яны пайшлі. Лёкса расплюшчыў вочы. Ён павярнуў галаву туды, дзе ляжала яго маці. Лёкса ўбачыў толькі груду дымных цел, і яму было да жудасці ўсё роўна. Ён шукаў вачамі хоць аднаго жывога чалавека. І ўбачыў Бараноўскага Толю. Ён сядзеў з прастрэленай нагой у лужыне крыві, няўцямна гледзячы перад сабой. Ён не стагнаў, не крычаў ад болю і здаваўся вар'ятам. Прытуліўшыся спіной да агароджы ля снежнай гурбы, Толя сядзеў згорбіўшыся. «Які ён стары стаў»,— мільганула ў галаве. Але і сам Лёкса выглядаў не лепш. У яго былі такія ж няўцямныя, утрапёныя вочы на чорным ад сажы твары, чамусьці раптам схуднелым і доўгім.

Лёкса сеў і ўбачыў маці. І зноў ён прыгадаў сасну і тую навальніцу ў такім далёкім, недасяжным цяпер маленстве, калі агонь пажыраў дрэва, распырскваючы палаючыя кроплі смалы.

Лёкса сядзеў, утуліўшы галаву ў плечы. Наўкол была смерць, а ён чамусьці яшчэ жывы. А можа, ён памёр? І ўсё гэта яму толькі здаецца? Раптам заныла плячо. Лёкса паварушыў левай рукой — і ледзь не закрычаў ад

болю. «Паранены»,— падумаў ён. І зразумеў, што ён усё ж такі жывы. Жывы?.. Але навошта яму жыць? Ён адзін цяпер. Няма ў яго нікога. Усе згарэлі... Лёкса баяўся нават глядзець у той бок, дзе яшчэ нядаўна стаяла гумно, тое пекла, у якім ён толькі што быў. Адтуль не даносілася ні гуку, толькі патрэскваў агонь.

— Пі-іць!.. — раптам пачуў Лёкса. Ён устаў з зямлі, пайшоў на пажарышча, знайшоў нейкую бляшанку, набраў ва ўцалелым калодзежы вады. Усё гэта Лёкса рабіў, як у сне. У яго прасілі піць,— значыць, ён некаму патрэбен! Набраўшы вады, Лёкса падышоў да таго, хто прасіў піць. Пры святле дагараючых хат ён убачыў хлопчыка ў абгарэлай вопратцы.

— Антосік! — ціха паклікаў Лёкса. Але хлопчык не адгукнуўся. Тады Лёкса нахіліўся над ім і з жахам адхіснуўся — твар хлопчыка быў абпалены. А хлопчык раптам закрычаў:

— Мама!.. На руку!.. На руку, мама!..

Ён трызніў і біўся галавой аб зямлю. Нехта падышоў да аслупянелага Лёксы, нехта ўзяў з яго рукі бляшанку. І як праз сон ён пачуў:

— Адвядзіце яго адсюль. Млосна мальцу. Ды і руку яму перавязаць трэба.

Лёксу павялі. Па Хатыні хадзілі сяляне з суседніх вёсак і спрабавалі ратаваць тых, хто яшчэ жыў.

Хатынцы паміралі ў пакутах. Цяжка параненая Міхаліна прасіла:

— Накрыйце мяне... Холадна...

Але накрыць не было чым. Гарэла ўся Хатынь, згарэла ўсё, што яшчэ заставалася ў хатах пасля таго, як немцы абрабавалі вёску. І нехта падцягнуў Міхаліну да

гумна, у якім дагаралі дзеці, жанчыны, старыя. Апошняе цяпло мёртвыя аддавалі яшчэ жывым людзям. Хутка Міхаліна памерла.

Яшчэ жывы Пучок схапіў кагосьці за руку, не адпускаў і ўсё прасіў:

— Дабіце мяне!..

Савелій ляжаў ля гумна мёртвы. На ім датлявала адзежа.

— Пі-іць! — прасіў нехта, паміраючы.

Над Хатынню кружыліся крумкачы.

Стэфан, вяртаючыся ў Хатынь, сэрцам адчуў бяду. А калі яму застаўся нейкі кіламетр, вецер прынёс ад Хатыні пах гару. «Ой, лішанька-ліха! Няўжо немец Хатыню спаліў?!» — страшэнная здагадка працяла мозг. Стэфан прыбавіў кроку. Потым пабег. Вось зараз... зараз будзе відна Хатынь... за паваротам...

Палала Хатынь... Чорна-барвовым было над ёй неба, а наўкол застылі сосны ў глыбокай жалобе, моўчкі глядзелі на страшнае злачынства.

Стэфан паваліўся, бы падкошаны: гора зламала яго. Доўга ляжаў, не могучы ўстаць. Потым узняўся з зямлі і паплёўся да свайго гумна, дзе ўжо датлявалі галавешкі. Пайшоў ён шукаць жонку і дзетак сваіх.

Ды не знайшоў.

Усе згарэлі ў агні.

## ПЛАЧ НА ПАПЯЛІШЧЫ

Каркаюць крумкачы, кружацца над папялішчам. Сіратліва глядзяць у неба калодзежныя жураўлі, коміны

печаў стаяць, бы помнікі над магіламі. Вецер скуголіць, попел ганяе над пажарышчам, калоціць апаленыя агнём яблыні, грушы, вішні... Ой, лішанька-ліха. Вось што ворагі нарабілі!

Прыходзяць на папялішча людзі. Кожны дзень прыходзяць, каб пачуць пра бяду хатынскую, каб самім пабачыць і ўсяму свету расказаць пра страшнае злачынства.

— Ой, людцы добрыя! — гаворыць і плача бабка Юлька, што жыла на хутары паблізу Хатыні.— Ой, людцы добрыя! Гляджу гэта я — а Хатыня гарыць, а сонца цьмянае-цьмянае ад дыму стала! Немец усё абабраў, а потым падпаліў усё. І людзей папаліў, душагуб! Загнаў усіх у гумно, дзверы зачыніў, абліў бензінам і падпаліў, злодзей! А як агнём усё ўзялося, мужчыны дзверы тыя выламалі і разам з дзвярамі цэлай кучай пападалі. А кажуць яшчэ людзі, што гэта паліцай вароты адчыніў... можа, і ён?.. Хто ж яго ведае?.. Гэта калі немец ад агню адышоў, горача яму стала. А як пачалі выбягаць людзі, бандыты ў іх страляць пачалі. Усіх пакасілі. Усе ляжалі, што дубы пабітыя... А згарэла колькі! І Кункевіч Антон з Юркавіч згарэў, што ў госці ў Хатыню прыйшоў, і Адэлька, і Ядвіся! А дзетачак колькі!..— слёзы душылі Юльку. Крыху супакоіўшыся, яна працягвала дрыжачым ад слёз голасам: — А як пайшоў супастат, кінуліся мы ратаваць тых, каго ён не дабіў. Глядзім — а і ратаваць няма каго. Убачыла я сынка Жалабковіча — а не пазнаць яго: счарнелы ўвесь, што галавешка. А ён да мяне, ды як узмоліцца:

«Цётачка, родненькая, вазьміце мяне! У агні згарэлі браты, сястра, татка. Мамку забілі. Адзін я застаўся!»

Я і ўзяла яго да сябе. Як тут не возьмеш! І Воўку з Соняй Яскевічаў узяла, пляменнікаў маіх. Хлопчык у яме бульбянай схаваўся, а потым у Мокрадзь уцёк. А Соня ў лес гародамі адпаўзла і сядзела там, пакуль людзі яе не знайшлі... А як спытала я хлопчыка Жалабковіча, ці помніць ён, як ля мёртвай маткі ляжаў: «Не, кажа, не помню». І дзе ж тут помніць! Ад такога звар'яцець можна, дарма што малое дзіця!.. А Іван бедны гарэў... спярша адзежа на ім гарэла, потым сам пачаў гарэць. Тры дні жыў у сястры ў Казырах. Потым памёр. Голага ў труну сястра так і паклала. Так яму балела ўсё, як жывы яшчэ быў, што і надзець на яго нічога нельга было... І Жыдовіч Савелій, калгасны брыгадзір, ля гумна ляжаў мёртвы, і Яскевіч Антон, кавалём што быў... На другі дзень прыйшоў сын яго Воўка, пляменнік мой, што ў яме схаваўся, і толькі па зубах пазнаў свайго бацьку: зубы ў Антона прыкметныя былі. А Клімовіч Зоська расказвала, гэта тая, што напярэдадні пажару з Хатыні да сваякоў гасцяваць пайшла, таму жывой і засталася... дык яна казала, што сваячкі яе, дзве сястры, з агню выбеглі і ў лес... Як тыя свечкі беглі, гэтак агнём палыхалі... Вылечылі іх партызаны. У Хварасценях яны потым жылі і там іх лячылі. Людзі прытулак ім далі, а партызаны — карову. А калі ўжо хадзіць сёстры пачалі, прыйшлі ў Хварасцені зладзеі і ўсё роўна спалілі іх разам з хатай. Адну ў калодзежы знайшлі: ці то сама кінулася, ці то немцы яе туды кінулі... ніхто так і не ведае... Увесь дзень і ўсю ноч гарэла Хатыня, і яшчэ доўга гарэла, пакуль адзін попел не застаўся ад костачак людскіх. А на трэці дзень прыйшлі партызаны, збілі з дошак дзве скрынкі, як насілкі, і ўсё, што засталося ад людзей,— у гэтыя скрынкі. А побач дзве ямкі выкапалі

і туды ўсё... магілкі зрабілі. А хто пазней памёр, таго ля гэтых ямак пахавалі. Вось так і Ленку Жалабковіч, пляменніцу маю, роднай сястры дачку, пахавалі. Як увайшлі ворагі ў Хатыню, Ленка ў лес пабегла. Дагнаў яе вылюдак і забіў. Толькі праз пяць тыдняў бедненькую знайшлі. Па сукенцы пазналі... Прынеслі на насілках і пахавалі ля ямак, з усімі цяпер ляжыць беднае дзіцятка... А кажуць людзі, маленькіх дзетак маткі сабой прыкрылі, каб страха на іх не звалілася. Так і засталіся яны цэленькія, і не згарэлі зусім, а ад дыму зайшліся... Каб жывыя былі, дык і вырataваць іх можна было...

Плача Юлька, а вецер скуголіць, быццам разам з ёю плача, і са свістам разносіць попел над пажарышчам. Слухаюць людзі Юльку і таксама плачуць. Плачуць сведкі страшнага, нечуванага злачынства.

Выцерла Юлька слёзы, зірнула на неба і сказала:

— Гавораць людзі: Адам, Камінскага сынок — добры хлопец быў — перад смерцю сваёй сон прарочы бачыў. Быццам жаваранкам абярнуўся. Пырх у неба — і паляцеў, паляцеў!.. Можа, ён і лётае там, і дзеткі ўсе нашы... Хто ж яго ведае?..— задуменна сказала Юлька.

У небе лcraталі жаваранкі і, нібы нічога не здарылася, спявалі свае песні. А ўнізе скуголіў вецер, як асірацелы сабака над магілай свайго гаспадара. Зірнула Юлька на дарогу і сказала:

— А вось і Камінскі ідзе. Ён часта сюды прыходзіць...

Да папялішча ішоў высокі хударлявы мужчына. Ён прысеў на рэшткі спаленага зруба сваёй хаты і аб нечым задумаўся. Ён сядзеў і не варушыўся, як каменная статуя, і толькі вецер варушыў яго сівыя валасы.

Ачнуўся Камінскі ад клёкату бусла. Над папялішчам

кружылася вялікая белая птушка. То ўвысь узляціць, то зноў зніжаецца. І ўсё кружыцца над апаленай ліпай, са старой бараной наверсе. Мусіць, вярнуўся бусел з цёплых краёў да старога гняздоўя, ды не пазнае родных мясцін. Пакружыў, пакружыў над папялішчам ды і паляцеў некуды. Толькі жаваранкі са звонкай песняй лятаюць над папялішчам і спяваюць пра нешта сваё.

Пра што яны спяваюць?.. Вось адзін бліжэй за ўсіх падляцеў да сівога мужчыны, над самай галавой яго павіс і заспяваў яму нешта. Глядзіць той на птушку і думае: «Ці не мой гэта Адасік?» А птушачка спявае яму, спявае, быццам суцешыць хоча гаротнага чалавека. Слухае Камінскі, галавой ківае: ён разумее, пра што спявае яму шэрая птушачка...

— Так, так... гэта мой жаваранячак... гэта ён... мой сынок...— і вочы яго затуманіла сляза.

## ПАМЯЦЬ

Маладжавы, гадоў пад сорак, але ўжо пасівелы мужчына, падышоў да дзіцячага ложка. Ён прысеў на край крэсла і з лагоднай усмешкай глядзіць на тварык дзяўчынкі, што спіць з паўадкрытымі пульхнымі вуснамі, на яе рукі, што спакойна ляжаць на падушцы. «Іна, Іначка, дачушка, спі спакойна, спі»,— так думае мужчына. Дзяўчынка ўсміхнулася праз сон, цёмныя валасы яе раскудлаціліся. Цёмныя валасы... Такія ж былі ў яе бабулі... Як яна спакойна спіць, мусіць, сон прыемны ёй сніцца. А за сцяной чутны жывыя гукі: побач людзі. А тады... за хатай трывожна шумелі сосны і кожны гук палохаў, тры-

вожыў не толькі дарослых, але і дзіцячую душу. Не, не такім было яго дзяцінства, ваеннае дзяцінства...

Глыбока ўздыхнуўшы, Віктар Андрэевіч устаў, паправіў коўдру на соннай дзяўчынцы, выключыў начнік і выйшаў у другі пакой. Сеў у крэсла, задумаўся. І прыгадаў размову, што адбылася ў яго сёння з карэспандэнтам газеты. Праўду кажучы, ён ужо стаміўся ад усяго гэтага: паўтараць усім адно і тое ж. А каб ведалі яны, як гэта цяжка — трывожыць памяць, жывую рану, якая ніколі не загаіцца! Вось і сёння карэспандэнт усё распытваў яго. Жалабковіч адказваў неахвотна. Ён быў пахмурны і маўклівы, як заўсёды. Але карэспандэнт быў настойлівы, ён цярпліва запісваў нават гэтыя скупыя адказы.

— Віктар Андрэевіч, ну раскажыце, як жылі хатынцы ў гады вайны.

— Як жылі?.. А так, як усе.

— Ну, а чым яны займаліся? — пытаў карэспандэнт, не ведаючы, як разварушыць Віктара.

— Тым жа, чым і ўсе сяляне займаюцца. Жывёла... гаспадарка...

— А вы ў якія-небудзь дзіцячыя гульні гулялі?

— Гуляць не было часу. Мы, дзеці, займаліся тым жа, што і дарослыя.

— А ў лес хадзіць баяліся?

— Чаму баяліся? — пахмурна спытаў Віктар Андрэевіч.

— Ну, усё ж вайна...

— Не, не баяліся. Мы любілі лес. Ён карміў нас, — даволі рэзка адказаў Жалабковіч.

— А як склаўся ваш лёс пасля пажару?

І расказаў Жалабковіч, як дала яму прытулак Юлія

Антонаўна Красоўская, што жыла на хутары паблізу Хатыні. Жыў ён у яе два месяцы з Валодзем і Соняй Яскевічамі, якіх Юлія Антонаўна таксама ўзяла да сябе. А потым ён пайшоў з партызанамі і жыў у лагеры для мірнага насельніцтва, які знаходзіўся побач з баявым партызанскім лагерам. А калі немцы блакіравалі лес — гэта было вясной сорак чацвёртага года,— Віктар разам з усімі дайшоў да Паліка. Хоць камандаванне і ўпрошвала жанчын і старых ісці самастойна для іх жа бяспекі, але тыя так баяліся фашыстаў, што ні на крок не адставалі ад партызан. Вось так, разам з імі і апынуліся ў блакадзе. І калі карнікі прачосвалі лес і натрапілі на лагер, партызаны вымушаны былі даць бой. Тады і заблудзіў Віктар у лесе, адбіўшыся ад усіх. Памятае, як немцы ішлі ланцугом. Адзін прайшоў за два крокі ад хлопчыка. Віктар уціснуўся ўсім целам у мох на балоце, а немец у гэты час глядзеў некуды ўбок і не заўважыў яго. Другі раз цудам жывы застаўся. Віктар быў адзін у лесе, пакуль яго не падабраў партызан, які таксама шукаў сваіх пасля бою. Так і не знайшоў нікога. Шмат партызан тады загінула на Паліку. Сабраўшы ўсе свае сілы ў тыле і нават выклікаўшы падмацаванне з фронту, немцы абрынуліся на партызан. Больш за восемдзесят тысяч гітлераўцаў блакіравалі самыя актыўныя партызанскія раёны Беларусі і адцяснілі партызан да возера Палік. Там, у непраходных балотах, яны хацелі знішчыць іх канчаткова. На зямлі — танкі, пяхота, у небе — самалёты. Цяжка давялося партызанам. Прайграўшы вайну, вораг не хацеў адступаць проста так, ён азвярэў яшчэ больш. Шмат людзей загінула тады на Паліку.

Віктар з партызанам многа дзён блукаў па лесе, ха-

ваючыся ад немцаў. Яны карміліся ягадамі і травой, пілі балотную ваду. І ўсё спадзяваліся знайсці сваіх. Нарэшце партызан і хлопчык натрапілі на мірны лагер, які хаваўся ў гушчары ад немцаў. Партызан пакінуў Віктара, а сам пайшоў шукаць сваіх таварышаў. Віктара ўзяла да сябе жанчына, у якой і сваіх дзяцей было чацвёра.

— А, дзе чацвёра, там і пяты! — сказала яна.— Вазьму сірацінку, не аб'есць.

І павяла Усціння Гапановіч Віктара разам са сваімі дзецьмі да сябе ў Зарэчча. Гэта жанчына вельмі добра ставілася да Віктара, нават лепшы кавалак яму аддавала: нагараваўся, бядак.

— У маіх дзетак матка ёсць, а ў яго нікога. Паспытае яшчэ гора...— гаварыла яна.

А калі Чырвоная Армія вызваліла Беларусь, Віктара аддалі ў дзіцячы дом у Плешчаніцах. Там ён і сустрэўся з Толікам Бараноўскім, з Валодзем і Соняй Яскевічамі. Потым скончыў школу і політэхнічны інстытут. Стаў інжынерам і пайшоў працаваць на Мінскі станкабудаўнічы завод. Ажаніўся з дзяўчынай, якая таксама засталася круглай сіратой і выхоўвалася ў дзіцячым доме. У іх дачка Іна.

Як склаўся лёс другіх хатынскіх дзяцей, што засталіся жывымі пасля пажару? Валодзя Яскевіч працуе майстрам на Мінскім аўтазаводзе, Соня, яго сястра,— на пошце, Саша Жалабковіч — аднафамілец Віктара — афіцэр. Толік Бараноўскі быў інжынерам, працаваў на цэментным заводзе, няма ўжо яго, памёр... Вось усе пяцёра дзяцей, якія выратаваліся пасля пажару. А цяпер іх толькі чацвёра, былых дзяцей са спаленай Хатыні.

Даўно пайшоў карэспандэнт, а боль у сэрцы застаў-

ся... «І чаму яны ўсе цікавяцца толькі жывымі? Ніхто ніколі не спытае пра майго сябра...

Антон... цябе даўным-даўно няма на свеце. Але ці ж я магу забыць цябе, Антосік?.. Твой твар, абсыпаны вяснушкамі, пасмачкі льняных валасоў, што закрывалі лоб. І заўжды ў тваіх валасах заблытваўся ці пушок дзьмухаўца, ці сасновая шыпулька.

Я паспеў забыць твой твар, Антосік. Гэта ж было так даўно! Табе было столькі год, колькі цяпер маёй дачушцы. І ўсё ж я памятаю цябе, і заўжды буду памятаць. Я звяртаюся да цябе, Антось, таму што ты — мая памяць. Я звяртаюся да сваёй памяці. Ты — маё маленства. Я звяртаюся да яго. Я не магу ўспамінаць той страшны дзень, Антон, калі не стала цябе, Хатыні і ўсіх, хто жыў у ёй. І ўсё ж я часта думаю: чаму гэта было? Мне хочацца самому ўсё высветліць, узважыць і зразумець, што адбылося. Я хачу разабрацца ў гэтай трагедыі. Я ўспамінаю наша жыццё. А гэта вельмі цяжка — успамінаць. Але я не маю права аддаваць забыццю маці, бацьку, братоў, сястру, цябе, маіх сяброў і ўсіх аднавяскоўцаў. Таму што пра вас помню не толькі я. Усе людзі на зямлі. Вы — наша сумленне. А пра яго забываць нельга. Я часта звяртаюся да нашага маленства, бесклапотнага даваеннага маленства. Бо калі ўспамінаць толькі страшнае, дык можна і розум страціць. Той, хто перажыў вайну, ніколі не забудзе яе, нават калі і быў дзіцем. Чалавека, які перажыў вайну, можна адразу пазнаць — па вачах. Думаеш, я ўспамінаю цябе толькі седзячы за абедзенным сталом ці лежачы ў мяккай пасцелі? Не, мой маленькі сябра. Я помню цябе заўсёды, нават тады, калі іду па вуліцы. Наўкол мяне мітусня і гоман. Наўкол тое, што называец-

ца жыццём. Я іду з работы. А дома мяне чакаюць жонка і дачка. Ядзя ўжо накрывае стол і прыслухоўваецца да крокаў у калідоры. Я люблю сваю дачку і жонку. І яны мяне. І ў цябе магла б таксама быць сям'я. І па вуліцы мы маглі ісці з табой побач, смеючыся з якога-небудзь жарту, ці расказваць пра мінулы дзень і думаць пра тое, як правесці адпачынак, каб ён быў прыемны. Але цябе няма. Чаму?!. Ты ведаеш, Антон, я шмат кніг прачытаў пра вайну. І ўсё думаю: чаму?!. Іншы раз мне здаецца, што ва ўсім вінаваты мы самі. Чаму не паўцякалі ў лес? І тут жа сам сябе пытаюся: а ты ведаў, што немцы прыйдуць? Не, не ведаў. Яны зрэдку бывалі ў нашай лясной вёсачцы: партызан баяліся, іх было шмат на Лагойшчыне. А цяпер на захадзе сёй-той хоча замесці свае сляды і, каб скінуць з сябе віну, заяўляе, быццам мы самі сябе знішчалі! Але ты не самазабойца, Антон, не! Цябе жыўцом спалілі фашысты!

Шмат кніг я прачытаў пра вайну. Цяпер я ведаю тое, чаго не ведаў, калі быў хлопчыкам. Я шмат чаго зразумеў. Я не чытаў кнігу Гітлера «Майн кампф», але ведаю, што яна была настольнай кнігай амаль кожнага нямецкага афіцэра, гэту кнігу абавязаны быў прачытаць кожны нямецкі салдат, таму што ў ёй Гітлер вучыў, як забіваць і навошта. Ён хацеў стварыць вялікую Германскую імперыю, а дзеля гэтага перш за ўсё яму патрэбна было выцесніць славянаў: чэхаў, югаславаў, балгар, рускіх, беларусаў і палякаў. І гітлераўцы рабілі ўсё, каб заваяваць увесь свет.

«Забівайце,— казаў Герынг,— кожнага, хто супроць нас, забівайце, забівайце, не вы нясеце адказнасць, а я, таму забівайце».

Нас забівалі.

Калі ішла другая ваенная зіма, ва ўсе групы нямецкіх армій быў разасланы загад аб барацьбе з партызанамі. У гэтым загадзе гаварылася пра тое, што ад партызан трэба пазбавіцца любымі сродкамі, не шкадуючы ні жанчын, ні дзяцей, калі гэтага патрабуюць абставіны.

І нас забівалі. Нават тады, калі гэтага не патрабавалі абставіны. Ворагі палілі вёскі разам з дзецьмі, старымі і жанчынамі. Вось тады згарэла і наша Хатынь. І не толькі яна. Такіх вёсак згарэлі тысячы! Адных фашысты забівалі адразу, другіх заганялі ў лагеры смерці, каб, закатаваўшы, усё роўна забіць. А катавалі людзей там страшна. І дзяцей таксама. У Асвенцыме аднаго хлопчыка, здаецца, балгарына, спыталі: «Ну, як твае справы, Георгі?» І ён адказаў: «Я не баюся, тут усё так страшна, што там, на небе, мне, мусіць, будзе лепш». А чэшскі хлопчык, яму было дзевяць год, перад тым, як увайсці ў газавую камеру, каб ніколі адтуль не выйсці, сказаў: «Я ведаю шмат, але я ведаю таксама, што нічаму ўжо больш не навучуся, і гэта мяне найбольш засмучае».

Мы з табой не ваявалі, Антосік. Мы ж былі дзецьмі. І Георгі не ваяваў, і той чэшскі хлопчык... І ўсё ж нас забівалі. «Хто можа пярэчыць майму праву знішчаць мільёны людзей ніжэйшай расы, якія размнажаюцца, як насякомыя»,— так казаў Гітлер пра славян. Гэта мы з табой, Антосік, «насякомыя», і Георгі, і той чэшскі хлопчык...

На судовым пасяджэнні ваеннага трыбунала ў Мінску (гэта было пасля вайны) падсуднага Ганса Хехтля спыталі:

— Аб чым вы думалі, калі стралялі ў мірнае насельніцтва?

— Я ні аб чым не думаў,— адказаў Хехтль.

«Калі патрабуе палітыка, трэба лгаць»,— сказаў аднойчы Гітлер. І ён ілгаў, тлуміў галовы прастадушным «гансам», плёў несусветную бязглуздзіцу. Паверыў Гітлеру і Ганс Хехтль, хоць яму не вельмі хацелася ваяваць у Расіі. А сказалі Гансу, быццам Расія напала на Германію, і нямецкі народ вымушаны абараняцца, а хто добраахвотна пойдзе на ўсходні фронт, той атрымае ў Расіі зямлю і будзе жыць там прыпяваючы. Ім, гэтым гансам, абяцалі маёнткі, коней, нявольнікаў! У Германіі яны не маглі б атрымаць усяго гэтага. Ім хацелася стаць панамі, але якой цаной! Хехтль на судзе раскаяўся ў тым, што выконваў злачынныя загады. І многія раскаяліся, прызнаўшы, што барацьба супроць партызан была толькі прычынай для таго, каб знішчаць савецкіх людзей, раскайваліся ў тым, што нарабілі ў Беларусі, адкрыта заявіўшы суду і народу, што фашызм — самае горшае для чалавецтва.

Але не ўсе раскайваліся, седзячы на лаве падсудных. Вось што сказаў Гес на працэсе ў Нюрнберзе: «Я ні аб чым не шкадую. Калі б я зноў стаў у пачатку маёй дзейнасці, я зноў дзейнічаў бы таксама, як дзейнічаў раней, нават у тым выпадку, калі б ведаў, што ў канцы будзе запалены касцёр, на якім я згару».

Страшныя словы. І страшней за ўсё тое, што гэтаму фашысту даравалі жыццё, хоць на Міжнародным судовым працэсе савецкі суддзя і патрабаваў для яго смяротнай кары, таму што Гес учыніў злачынствы супроць чалавечнасці. Ён адзін з тых, хто выдаваў загады, ён так званы «злачынец за пісьмовым сталом». Гес накіроўваў забойцаў, вучыў іх, распальваў у іх нянавісць да людзей. Што Вільке ці Дзірлевангер у параўнанні з «гесамі»!

У заходнегерманскім горадзе Кобленцы судзілі былых эсэсаўцаў, якія ўчынялі масавыя забойствы на нашай Беларусі. Сярод падсудных знаходзіўся і Вільке. Больш семнаццаці гадоў прайшло пасля заканчэння вайны да суда! І ўсе семнаццаць гадоў гэты забойца не быў пакараны. Больш таго, ён выкладаў у школе! Чаму ён мог навучыць?!

А Дзірлевангер? Не дачакаўшыся канца вайны, ён уцёк з поля бою і пад чужым прозвішчам недзе разгульваў на свабодзе. Але калі б Дзірлевангер і трапіў на лаву падсудных, то, мабыць, выкруціўся б таксама лёгка, як Вільке, Гес і іншыя злачынцы, якіх судзілі ў заходнееўрапейскіх судах капіталістычнага свету. Пасля вайны Дзірлевангер наўрад ці скардзіўся на сваё жыццё. Забіваючы і рабуючы людзей, былы камерсант, мусіць, разбагацеў. А хто ён такі? Яшчэ да вайны яго судзілі за браканьерства і разбэшчванне непаўналетніх дзяўчынак. Такіх і падбіраў Гітлер у сваю нацысцкую партыю. Дзірлевангер — тыповы фашыст, «звышчалавек», арыец. «У цябе няма сэрца і нерваў, на вайне яны не патрэбны. Знішчы ў сабе жаласць і спачуванне — забівай усякага рускага, савецкага, не спыняйся, калі перад табой будзе стары ці жанчына, дзяўчынка ці хлопчык,— забівай! Гэтым ты выратуеш сябе ад гібелі, забяспечыш будучае сваёй сям'і і праславішся навек». Гэта адна з прамоў Гітлера да нямецкага камандавання. І дзірлевангеры з нямецкай дакладнасцю выконвалі загады. А па загаду Гітлера ім трэба было знішчыць дваццаць мільёнаў чалавек, за гэта ім абяцалі ўзнагароды. І яны забівалі, забівалі, учыніўшы крывавае жніво!..

Іншы раз мне здаецца, Антон, што вайна яшчэ не

скончылася. Вількe жывы, і Дзірлевангер, можа, таксама... Чаму?! А раптам яны зноў распаляць вайну?.. Чаму там, на Захадзе, маўчаць? Чаму іх не схопяць і не пакараюць? Выкрыцця баяцца? Нехта клапоціцца аб нямецкай моладзі, каб яна праўду пра сваіх бацькоў і дзядоў не ведала, маўляў, з непавагай будзе ставіцца яна да мінулага свайго народа. Гэта няправільна! Гэта палітыка фашыстаў! Яшчэ Гітлер, калі зразумеў, што прайграў вайну, выдаў загад спальваць трупы! Каб ад усяго свету схаваць сляды свайго злачынства! Каб замаскіравацца, а потым зноў пачаць вайну!.. Я не магу маўчаць, Антон!.. Увесь свет павінен ведаць пра гэта! Бач, чаго захацелася ім — схаваць сляды злачынстваў! Каб яны маглі, гэтыя «звышчалавекі», яны і памяць чалавечую спалілі б у агні. І той, хто імкнецца падаць мінулае ў прывабным святле — баязлівец або нягоднік! Забыць мінулае немагчыма! Забыць мінулае — гэта дараваць забойцам! Забыць — гэта аддаць забыццю загінуўшых! Забыць — гэта падвергнуць свет новай небяспецы! Я буду званіць ва ўсе званы і патрабаваць расплаты над тымі, хто яшчэ жывы! Я не магу забыць сваю Хатынь!..

Я шмат кніг прачытаў пра вайну, Антон. І шмат чаго зразумеў. Вельмі шмат... Ды ці ж усё выкажаш?..

Я часта бываю ў Хатыні, нашай Хатыні, яна стала помнікам усім спаленым беларускім вёскам. Я блукаю па сцяжынках і... заглядваю ў нашы хаты. Я так часта заходжу ў свой двор, сваю хату — там усё па-ранейшаму. У памяці, вядома. Яе немец не здолеў спаліць. І ў тваю хату я зазіраю, Антосік. І ў ёй усё так, як было... А аднойчы, памятаю, рыпнула брамка, а я спрасоння не мог зразумець тады, што гэта бацька мой з горада прыехаў.

Які гэта быў радасны дзень! І маці прымярала новую шаўковую хустку... Якая яна прыгожая тады была, маці... мая маці... Але як сумна для мяне скончыўся той дзень: я выкурыў папяросу з пачкі «Беламорканала», украўшы яе ў бацькі, і бацька мяне адлупцаваў. Гэта была першая і апошняя папяроса ў маім жыцці. Я і цяпер без усмешкі не магу ўспамінаць той дзень... Сабраліся тады ўсе нашы хлопцы за ваколіцай, за старой лазняй схаваліся. Ніхто з пустымі рукамі не прыйшоў, ва ўсіх аказаўся бацькоўскі самасад. Нарабілі з газеты самакрутак і задымілі. Накурыліся так, што ў галаве гуло. І я выкурыў сваю папяроску. Хоць і кружылася галава, але дакурыў усю: перад хлопцамі слабым паказацца не хацеў. І раптам калені мае падагнуліся, і я паваліўся, як мёртвы, на снег. Вось страху было! Рашылі ўсе: памёр я. Нехта за санкамі збегаў, і прывезлі мяне дахаты. А маці плакаць пачала ды галасіць. І яна рашыла, што я памёр. Бацькі дома не было. А калі вярнуўся, пачаставаў мяне бярозавай кашай... А аднойчы я ўдарыў цябе, Антосік. І ты заплакаў. Што б толькі я не зрабіў, каб вярнуць той дзень! І пражыць яго інакш. Ты ведаеш, я ж і тады пакутаваў, і мне хацелася, каб ты даў мне.. Але ты быў высакародны, ці, праўду кажучы, па-дзіцячаму бездапаможны. Ты дараваў мне. Я гэта зразумеў па тваіх вачах... Эх, Антон!.. А бывае: я крычу па начах. Іншы раз мне здаецца, што гарыць увесь зямны шар, і мая дачушка, працягнуўшы да мяне рукі, кліча мяне!.. Тады я крычу і прачынаюся ўвесь мокры ад халоднага поту. А Ядзя абдымае мяне, прыціскае да сябе, гладзіць мой твар, валасы і шэпча пяшчотныя словы...»

Віктар сядзіць, задумаўшыся, схіліўшы галаву на гру-

дзі. Потым узняў галаву, паглядзеў на сцяну. Якраз насупраць яго крэсла вісела карціна, якую намаляваў яго сябра, мастак-аматар. Печка-стэла са звонам, а наўкол мураваны зруб і брамка. Усё мёртвае, застылае... Медная дошчачка, нібы раскрытая рана, з якой сочыцца кроў, а на ёй прозвішчы і імёны ўсёй загінуўшай сям'і. Толькі дрэва жывое ў смутку вялікім схілілася. Адчыненая брамка, бязлюдная сцяжынка... І звон, як жывы. Вось ён хіснуўся — і жалобны стогн паплыў над зрубам... Звон яшчэ чуць калышацца, вось ён ужо толькі ўздрыгвае, усё цішэй яго стогн... Не! Не такім Віктар успамінае свой дом! Не можа прымірыцца яго сэрца! Не прызнае ён гэтыя мёртвыя камяні сваёй хатай, дзе прайшло яго маленства! Не гэтыя камяні трывожаць яго памяць!

Помнікі. Помнікі! Помнікі!!! Як многа вас пакінула вайна! Загінуўшых не ўваскрэсіць. Але ў памяці яны жывыя. І гэты зруб, які выклікае слёзы на вачах людзей, нішто ў параўнанні з памяццю! Чалавечая памяць... Памяць маленства... Пакутлівая памяць... Можа, у ёй і перамяшаліся сны і рэчаіснасць, але гэта памяць неўміручая. І нікуды ад яе не падзецца.

## НАБАТ

Дзін-дон!..

Прайшло дваццаць шэсць гадоў пасля пажару. І над хатынскім лесам зазванілі званы...

Дзін-дон!..

Званы бываюць розныя. А гэта хатынскі набат. Ён чуцен ва ўсім свеце. Сюды прыходзяць і прыязджаюць

здалёку, каб схіліць галовы і пакланіцца праху людзей, якія загінулі, прыняўшы нечалавечыя пакуты. Тут не толькі магіла хатынцаў. Тут могільнік вёсак, спаленых ворагам ва ўсёй Беларусі... А іх больш за сотню, не паўстаўшых з попелу Хатыняў...

Дзін-дон!..

Прыходзіць сюды і Віктар. Памяць адчыняе брамку і ўпускае гаспадара ў хату. Потым ён выходзіць, садзіцца на лаўку і слухае жаваранкаў. І здаецца яму: не жаваранкі гэта, а сябры яго маленстваператварыліся ў птушак, лятаюць над Хатыняй і спяваюць, спяваюць... І песня іхняя злілася з жалобным перагудам званоў...

Дзін-дон!..

Звоняць званы, быццам клічуць адзін аднаго, быццам папярэдзіць хочуць тых, хто жыве сёння, пра магчымасць новай вайны. Нездарма ж Гітлер марыў бачыць нямецкіх юнакоў і дзяўчат такімі: «Мы вырасцім моладзь, перад якой скаланецца ўвесь свет, моладзь рэзкую, патрабавальную, жорсткую. Я гэтага хачу. Моладзь павінна валодаць усімі гэтымі якасцямі, яна павінна быць абыякавай да спачування. У ёй не павінна быць ні слабасці, ні лагоднасці. Я хачу бачыць у яе позірку бляск драпежнага звера». І ён паспеў выхаваць іх, юнакоў і дзяўчат, якія ўваходзілі ў «гітлерюгенд», тых самых дзяўчат, якія дзеля пацехі стралялі ў жывую мішэнь, і гэтай мішэнню былі бязвінныя маленькія дзеці, якіх падкідалі ў паветра!

Гэта не павінна паўтарыцца!

Людзі свету і сумленныя немцы ў адказе за нашых дзяцей, за будучыя пакаленні чалавецтва!..

Дзін-дон!..

Хто б ты ні быў, мой чытач, калі прыйдзеш у Хатынь,

пакінь свае кветкі на магільнай пліце, а сам прысядзь. Прысядзь, адпачні пасля дарогі і паглядзі на неба, паслухай жаваранкаў. Хатынскія жаваранкі спяваюць не так, як другія. Пра што яны спяваюць?.. А ты паслухай, падумай — і сэрцам пачуеш іх песню:

«Людзі добрыя, помніце: мы любілі жыццё, і Радзіму, і вас, дарагія. Мы згарэлі жывымі ў агні. Наша просьба да ўсіх: хай жалоба і смутак абернуцца ў мужнасць і сілу, каб змаглі ўвекавечыць вы мір і спакой на зямлі. Каб нідзе і ніколі ў віхуры пажараў жыццё не ўмірала!»

Дзін-дон!..
Усё гэта было на свеце!
Людзі добрыя, помніце!
Помніце!.. Помніце!..
Лідзіцэ!.. Помніце!..
Арадур!.. Помніце!..
Хатынь!.. Помніце!..
Дзін-дон!..
Дзін-дон!..
Дзін-дон!..

**Кобец-Філімонава А.**

К 55 Жаваранкі над Хатынню. Аповесць. Мн., «Маст. літ.», 1977.

160 с. з іл.

Акружаная лясамі, стаяла невялічкая беларуская вёска Хатынь. Жылі ў ёй людзі — добрыя, вясёлыя, працавітыя...

Няма зараз гэтай вёскі, але ёсць помнік і памяць у сэрцах народа пра страшны сакавіцкі дзень сорак трэцяга года, калі Хатынь і ўсе, хто жыў у ёй, былі спалены фашыстамі.

Аўтар расказвае пра жыццё вёскі, пра нашэсце акупантаў, пра барацьбу супраць захопнікаў, пра трагедыю Хатыні і лёс нямногіх, хто выратаваўся.

$К\frac{70803\text{-}152}{М\ 302(05)\text{-}77}149\text{-}77$ **Бел 2**

Елена Григорьевна Кобец-Филимонова

**ЖАВОРОНКИ**
**НАД ХАТЫНЬЮ**

Для детей среднего и старшего школьного возраста. На белорусском языке

Рэдактар А. П. Чаркасаў. Мастак А. М. Філімонаў. Мастацкі рэдактар В. І. Кліменка. Тэхнічны рэдактар Л. М. Шлапо. Карэктар В. В. Шарамета.

ІБ № 102

АТ 21060. Здадзена ў набор 28/XII 1976 г. Падп. да друку 18/VII 1977 г. Тыраж 20 000 экз. Фармат $70\times108^1/_{32}$. Папера друк. № 1. Ум. друк. арк. 7. Ул.-выд. арк. 6,26. Зак. 3864. Цана 30 кап.

Выдавецтва «Мастацкая літаратура» Дзяржаўнага камітэта Савета Міністраў БССР па справах выдавецтваў, паліграфіі і кніжнага гандлю. Мінск, Свярдлова, 4.

Паліграфкамбінат імя Я. Коласа Дзяржаўнага камітэта Савета Міністраў БССР па справах выдавецтваў, паліграфіі і кніжнага гандлю. Мінск, Чырвоная, 23.

